# Крыніца

3 (74)
2002
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

**№ 3** (74)
**2002**

# Крыніца

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

*Выдаецца са студзеня 1988 года*

**Заснавальнік:**
Саюз беларускіх пісьменнікаў

*Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года*



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца
Пераносы асобных слоў зроблены паводле магчымасцей камп'ютэра

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**
**e-mail:krynitsa@irex.minsk.by**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 09.03.2002. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 9,3. Тыраж 759 экз. Зак. 573.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.







# Адам Глобус

***Т****алент літаратара, як і любы іншы талент, табе дорыць прырода. Асноўная праблема таленавітага чалавека ў тым, каб наяўнасць таленту яму даравалі людзі.*

*З табой:*

# *З Адамам ГЛОБУСАМ гутарыць Ганна Кісліцына*

**Ганна Кісліцына:** *Ведаю, ты быў сярод тых, хто рабіў "Крыніцу". Часопіс перажыў не толькі змену мастацкай канцэпцыі, але і змену рэдактароў. Якім ты ўяўляеш сённяшняга чытача часопіса?*

**Адам Глобус:** Спадзяюся, што павярну свайго чытача тварам да цяперашняй "Крыніцы".

**Г.К.:** *У часы "Тутэйшых" ты заклікаў ствараць папулярную літаратуру на роднай мове. Аднак твой уласны ўнёсак у айчынную маскультуру абмежаваны аповесцю "Заўсёды светла каля турэмных муроў" і коміксам на аповесць У.Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха". Ствараецца ўражанне, што для цябе больш важна быць вядомым, вулічна-пазнавальным, чым папулярным і чытэльным. Ці ты клапоцішся пра ўласнага чытача? Ці спрабуеш быць яму цікавым?*

**А.Г.:** Каб кожны з "тутэйшых" намаляваў комікс і напісаў дэтэктыўную ці фантастычную аповесць, было б добра. І большасць шмат зрабіла ў гэтым накірунку, але рабілася і робіцца масавая літаратура, на жаль, па-расейску.

Што да майго чытача, тут вельмі расплывіста і неадназначна. Бывае, я люблю яго і пішу тэксты прыемна-займальныя, эратычныя і лірычныя. Дэтэктыў з коміксам яму выдаў. А потым хваля беларусізацыі пачала спадаць. Чытач мой наважыўся ўцячы. Я раззлаваўся, заманіў яго ў Барселону, у гатычны квартал, і там забіў, а труп схаваў на сметніку, у старой шафе. Толькі чытач уваскрос. Гульні працягваюцца.

**Г.К.:** *Ты любіш паўтараць "я не сезонны пісьменнік", але, здаецца, як ніхто клапоцішся аб сваёй вядомасці, амаль маніякальна адсочваючы ў прэсе любую згадку свайго імя. Для чалавека, які сабраўся жыць вечна, ты выглядаеш занадта заангажаваным сучаснасцю...*

**А.Г.:** Гэтая сучаснасць заангажаваная маёй персонаю. Не я прыходжу да сябе па інтэрв'ю, а гэтая сучаснасць у выглядзе журналюгі палюе на мяне... дзікае, скажу табе, паляванне. Пра маніякальнасць, канешне, прыемна паразважаць. Маньяк — галоўны герой нашага тэлевізійнага часу. Такі разумны, адукаваны, прыгожы канібал-ганібал — любімец народа. Ён так спакойна табе кажа: "Я вось думаю, а ці не з'есці мне вашага каханка". Страшна? Калі сур'ёзна, я проста чытаю беларускую перыёдыку і не лянуюся выразаць нажніцамі артыкулы пра сябе. І на тэкст я рэагую, як на рэальнасць. А каб насамрэч я захацеў бы стаць вулічна-пазнавальным, дык не пісаў бы хайку па-беларуску, а вярнуўся б на тэлевізію, зрабіў бы рэйтынгавую перадачу пра сакрэты кулінарыі, дзе самыя вядомыя палітыкі гатавалі б смачныя стравы. Лукашэнка зварыў бы маладую бульбу, Пуцін зляпіў рускія пельмені, Кучма заправіў бы смятанаю чырвоны боршч, а спадар Адамкус пачаставаў бы нас цэпелінамі... Яе яснавяльможнасць кулінарыя — найвялікшае з мастацтваў. Правадыр пралетараў Ленін памыляўся... З усіх мастацтваў найважнейшае — кулінарыя.

**Г.К.:** *Кожная з 9 аповесцяў кнігі "Толькі не гавары маёй маме..." прысвечана мастацкаму даследаванню таго ці іншага чалавечага пачуцця: спачування, страху, здзіўлення... Зварот да свету эмоцыяў наўпрост звязаны з тым, што цябе не раз упікалі якраз у празмерным рацыяналізме, душэўнай холаднасці. У гэтай сувязі ці можа літаратура выпраўляць хібы, ці можна яе разглядаць у якасці тэрапіі? Ці мае рацыю Фрэйд, калі гаворыць аб магчымасці "шчаслівага замяшчэння", якое дае творчасць, у якасці другога шансу, здольнага выратаваць ад навязлівых пошукаў нашых дзіцячых стратаў?..*

**А.Г.:** Давай не будзем аспрэчваць Фрэйда. Дзядуля Зігмунд знайшоў палавыя прыкметы ў вугроў. І скажам "дзякуй" яму за гэта. Калі нехта знойдзе "шчаслівае замяшчэнне" ў творчасці, можна толькі парадавацца. Знаходзіць жа чалавек шчасце ў простых ловах рыбы. А другому замала злавіць і з'есці рыбку, яму трэба палавыя прыкметы ў тых рыбак знайсці. Каб я не верыў, што літаратура здатная на цуды, не пісаў бы. А так пішу, і малюю, і чытаю. Чытаць я люблю болей, чым пісаць. Можа, таму мая пісаніна перанасычана цытатамі, алюзіямі, запазычанасцямі...

**Г.К.:** *Тваіх першых дамавікоў успрымалі як анталогію сучаснага фальклору. Сёння ж большасць крытыкаў схільныя бачыць у табе сатырыка, пісьменніка, які працуе ў напрамку крытычнага рэалізму. Пятро Васючэнка трапна ахрысціў твайго героя літаратурным кантралёрам, што выкрывае чужыя грахі... У гэтай сувязі штó для цябе самы страшны грэх? Увогуле, штó для цябе тая мяжа, ніжэй за якую чалавек ператвараецца ў жывёлу?*

**А.Г.:** Я перакананы, што чалавек не можа з'есці чалавека. Канібал-ганібал існуе адно ў літаратуры і мастацтве. У рэальнасці яго няма. Людажэр — мастацкае папярэджанне чалавеку. Калі імперыя рыхтуецца да вайны, яна пачынае займацца фальсіфікацыяй рэальнасці, перацягвае канібала ў рэальны свет, каб апраўдваць забойствы і вынішчэнні цэлых народаў. Англійская імперыя абвінавачвае абарыгенаў у паяданні Кука. Германская імперыя часоў Гітлера ўпарта распаўсюджвае міф пра канібалізм у блакадным Ленінградзе. Чарнасоценцы ў царскай Расіі пераконвалі ўсіх, што яўрэі дадаюць у мацу кроў хрысціянскіх немаўлятак. І масавы чытач-глядач-слухач верыць, агнём і мячом нішчыць "людажэраў". Чалавек ператвараецца ў пачвару, калі верыць у сапраўднасць канібалізму, пачынаецца вайна, пачынаецца суцэльная шыза, звар'яцелыя забойцы і гвалтаўнікі змагаюцца з хімерамі, а гінуць людзі, гінуць цывілізацыі і культуры. І страшна, што дзеецца тое пад штандарамі з крыжамі і зоркамі, са словамі "з намі Бог".

**Г.К.:** *Да якой ступені можаш апусціцца ты? Не сакрэт, што тваё імя для многіх стала сімвалам амаральнасці. Асабіста мне ты нагадваеш героя Дастаеўскага, які гаварыў: "У меня ж, небось, не украдешь, я сам боюсь, как бы чего не украсть". Я маю на ўвазе тую лёгкасць, з якой ты запазычваеш чужыя ідэі...*

**А.Г.:** Сем смяротных грахоў будуюцца наступным чынам: калі ты не сквапны, не зайздросны, не люты, не лянівы, не юрлівы, не ненажэрны, тады ты на 99,9% будзеш ганарысты і пыхлівы. Чым менш у цябе схільнасцяў да першых шасці грахоў, тым большая верагоднасць стаць канчаткова амаральным. Тое, што займаюся мараллю і задумваюся над грахамі сваімі і чужымі, выклікае ў публікі ціхі пратэст. Ціхі таму, што я займаюся якраз публічным маралізатарствам. Гэта кепска. Ведаю. Але не магу змаўчаць, як той Дзёма з "Камедыі" Аляхновіча. Сам з-за гэтага кепска сплю, але замоўчваць гнюснасць не буду.

**Г.К.:** *Ты з гонарам носіш тытул майстра падробкі — з чаго б гэта?*







**А.Г.:** З-за недасведчанасці апанентаў. Я раблю, рабіў і буду рабіць варыяцыі, імправізацыі, копіі, пераклады. Ніколі не ствараў падробак. Каб адрозніць копію ад падробкі, спецыялістам трэба быць, майстрам сваёй справы. А ў нас аматары і прафесійныя крэтыны паўсюль. Ім здаецца, што варыяцыя на тэму хайку Басё — гэта і ёсць падробка пад Басё. Лухта. Не быў. Не лічыўся. Не запісваўся. Падробка — крымінал. Так што поўная непрызнанка.

**Г.К.:** *Геаметрызм тваіх карцін у мяне заўсёды выклікаў асацыяцыі з расчлененым целам. У мяне такое ўражанне, што ў мастацтве ты помсціш рэальнасці, разбіваючы яе на дробныя аскепкі. На твой погляд, ты мог бы стварыць эпас?*

**А.Г.:** Каб зрабіць дэталь ці збудаваць дом, спачатку іх трэба накрэсліць у розных праекцыях і разрэзах. "Руйнуй, каб будаваць!" — заклікаў Абдзіраловіч. Вось рэжу і руйную, каб ствараць. Эпас складаецца з эпізодаў. Я назапашваю эпізоды, аскепкі, фрагменты, каб скласці твор. Ці складзецца эпас? Пабачым. Усе мае нататкі пра тутэйшых нашых сучаснікаў складаюцца ў ланцуг. Пачатак яго ў 1958 годзе, канец будзе, дасць Бог, у годзе 20..., а галоўны мой герой не я сам, як той-сёй падумае, а час, які працякаў праз мяне.

**Г.К.:** *Ты заўсёды прэтэндуеш на ролю суддзі, ты заўсёды ўпэўнены ў сваёй правільнасці, ты "харошы", нават калі прызнаешся ў сваіх дзіцячых грахах. Ты заўсёды хочаш быць "зверху". Не спрабаваў памяняць пазіцыю?*

**А.Г.:** Я харошы ў любой пазіцыі...

Канстатацыя факта для мяне заўсёды больш значная за адзнакі. Не люблю рэзалюцыі, не люблю прысуды, адпаведна — вучыўся на мастака, а не на юрыста, стаў літаратарам, а не суддзёй. Нават у войска не пайшоў, бо меў перакананне: нельга чалавеку забіваць чалавека.

Пра маю "харошасць" лепей за ўсіх сказала мая баба Браніслава: "Валодзя, ты такі харошы, такі харошы... А гэта ж толькі для распусты". Даводзіцца сябе стрымліваць, абмяжоўваць, складаць спісы забароненых рэчаў... Не займацца рок-н-ролам. Не здымаць кіно. Не працаваць на тэлевізіі. Не садзіцца за стырно аўтамабіля. Не піць штодня. Не грашыць. Не падтрымліваць стасункі... Пералічваць імёны не буду, іх вельмі шмат.

*07.07.2001*

# *Празрысты Парыж*

*Падарожная проза*

Калі зірнуць на план Парыжа, можна ўбачыць зорку. Ёсць там і пляц Зоркі. Рамантыкі і рэвалюцыянеры зачароўваюцца гэтай зоркаю, будуюць барыкады, размахваюць сцягамі, гінуць з вераю ў лепшую будучыню, уваскрасаюць з попелу, пачынаюць чарговае змаганне, распальваюць полымя рэвалюцыі, руйнуюць турмы і палацы, адсякаюць падобныя на грушы галовы таўстуноў, заліваюць крывёю краіны і кантыненты, рэжуць сваіх мала крыважэрных паплечнікаў і гінуць самі, як недастаткова адданыя ідэі.

А можна паглядзець на той жа ж план спакойным вокам і ўбачыць у ім ракаў слімака. Прагматыкі і кансерватары падпарадкоўваліся планаваму слімаку. Яны жылі памяркоўна, з разлікам на будучыню, з выверанымі праектамі, будавалі і надбудоўвалі, прыбудоўвалі і прыкуплялі да прыбудаванага, збіралі і дадавалі да сабранага, цярпелі ад рэвалюцыянераў, але знаходзілі сілы накінуць пятлю на горла распуснай рэвалюцыі і задушыць цыцкастую свабоду, каб зноў працягваць марўднае, кайфовае, салодкае дадаванне да назапашанага.

Ні той, ні другі Парыж не натхняе. Мой — іншы, лёгка-празрысты, як цыгарэтны дым.

Толькі з паленнем тытуню ў Еўропе праблемы. Уяўляеш, "тут" можна, а "там" нельга, і гэтае "там" амаль паўсюдна ў памяшканнях. І ў самалётах нельга каўтаць дым. І набыць цыгарэты ў Парыжы можна толькі ў дзяржаўных спецыялізаваных крамках. Зачыніліся крамкі, і гамбец. А які вэрхал усчалі бэзававалосыя старыя казліхі ў сталоўцы, калі нейкае іспанскатварае дзяўчо паспрабавала курнуць. Закашлялі, запэрхалі, так паскудна-паскудна, па-тэатральнаму. Каб іх сапраўды кашаль задушыў! Самі гадаўкі пажылі, напярдоліліся, напіліся, накурыліся, а іншым не даюць. Маладым дзеўкам што? Толькі чэлес смактаць можна? Падбеглі крываногія козы да маладзенькай курыцелькі і давай квахтаць, рукамі паветра біць. Цыгарка імгненна затушылася ў сподку. А адна карга маршчыністая ўсё не супакойвалася, паскакала, прынесла ўласны сподак і накрыла недакурак. Маразм!







На вуліцы Фэзандры стаіць музей іншага маразму — музей падробак. Дайшлі. Збіраюць падробкі гадзіннікаў Карцье, валізак Луі Вюітона. Ганарацца падробкамі шыружытку. Правільна. Падрабляецца прэстыжнае, дарагое, патрэбнае. Хто будзе падрабляць вырабы менскай гарсэтнай фабрыкі "Мілавіца"? Парыж застаецца сталіцай арыгіналаў і, канешне, цэнтрам падробак. Добрую падробку хутчэй зробяць у Парыжы, чым у Магілёвасранску. Майстравітасці не хопіць падрабляльнікам з Мугілёва-дняпроўскага. У іх рукі са сракі растуць. Паабломлівацъ бы тыя рукі да плячэй, як у Венеры Мілоскай. Інвалідаў жа сёння любяць.

За што так любяць крылатую Ніку Самафракійскую? Спытайся. Чаму яе паставілі на галоўнай лесвіцы ў Луўры? А таму, што яна падобная да анёла, самага найжывога з усіх жывых анёлаў. Ніка Самафракійская — анёл без галавы.

У наступным жыцці, пасля смерці, я хацеў бы стаць анёлам безгаловым. Таму зрэдзьчасу хаджу ў касцёлы. Касцёлы ў Парыжы пустыя. Пра турыстаў-футурыстаў гутарка не ідзе. У Парыжскіх касцёлах зусім мала вернікаў. Столькі спакусы навокал. Які касцёл? Заходжу, ціша, сотні пустых крэслаў, плеценых з лазы, рыхтык такое крэсла маляваў Ван Гог. Ён быў маленькі. Крэслы ягонага памеру. Мне замалыя. А ў кнігарнях крэслы добрыя.

У парыжскіх кнігарнях, акрамя зручных крэслаў, шмат выдатных танных кніжак. Як чытача-гледача-спажыўца гэта цешыць, а як выдаўца — непакоіць. Працуеш-карпееш, а прадукт сыходзіць па коштах макулатуры. Вершы Высоцкага на дзвюх мовах каштуюць 10F, на нашыя грошы 2000 бел. рублёў.

Высоцкі, канешне, марыў пабачыць уласную кнігу на Елісейскіх палёх, але ці хацеў ён бачыць сваю ўцэненую кнігу? Напэўна. З чаго выбіраць? Пры жыцці ніякай не пабачыў. А ўцэньваюць не толькі Высоцкага. Дзюма, Твэна, По, казку пра Аладзіна... Уцэньваюць усіх. Каб змог дацягнуць, 10 валізаў кніг накупіў бы. А так прыдбаў гісторыю культуры XX ст. вагою 4 kg. Прайшоў з ёю 10 km і супакоіўся. А вось каля букініста, дзе ў вітрыне стаялі эстампы Жоржа Брака, зноў расхваляваўся. 60 эстампаў накладам 90 асобнікаў, кошт 74-га альбома — 1753,16€. У той краме прадаваліся ўзорныя выданні Маціса, Джакамеці, Цадкіна... Хто толькі з геніяў ні аздабляў кнігі. Праўда, кнігамі гэтыя выданні назваць цяжка. Такія дзембельскія альбомы майстроў пэндзля і алоўка. Шыкоўна, дорага, майстравіта. Перад поўнымі паліцамі разумееш — выдавецкая справа можа быць мастацтвам, толькі грошай гэта не прынясе. Усе заробкі прыносіць чароўны старэнькі Аладзін, прададзены *амаль* па кошце макулатуры.

Не перастаю здзіўляцца: як хутка старэюць лялькі, як вокамгненна мяняецца мода на іх. Яны старэюць, як кінаактрысы. Я думаў пра гэта на выспе Сен-Луі, перад вітрынаю з даражэзнымі цацкамі. На тым востраве жыве Сафі Ларэн. Як яна пастарэла! А калі з'яўляецца на TV, адварочваюся. Сорамна. Лялькі старэюць разам са сваёю вопраткаю. Актрысы ўвесь час мяняюць апранахі, хаваюць за імі геранталогію. Чым больш прыхоўваюць, тым больш відавочныя чэзласць, завяласць. А яшчэ на Сен-Луі згадаўся эпізод з фільма Берталучы пра тэрарыстаў... Маладая тэрарыстка з "чырвонай брыгады" застрэліла генерала і схавалася ў бацькоўскім маёнтку. Яна паходзіла з заможнай сям'і, а падалася ў левыя экстрэмісты. Састарэлая карміцелька здагадалася, што дзяўчына забіла вайскоўца, і ў знак пратэсту прынесла на паляну, дзе адпачывала забойца, мех з яе старымі цацкамі і высыпала розных мядзведзікаў, лялек, пагрымушкі-шаргатунчыкі на траву, да ног тэрарысткі. Адразу адчулася фальшывасць сітуацыі, яе амаральнасць.

Цацкі, як і людзі, патрабуюць хавання-пахавання. Труп лялькі не менш жахлівы за труп чалавека. Добра, што не тыражуюцца пратэзы для цацак, але яны існуюць на выставах маргінальных мастакоў. Затое тыражуюцца пратэзы часу — гадзіннікі.

У Парыжы лёгкі час і жыццядайнае паветра. У Парыжы хочацца жыць. Там ёсць жаданне жыць доўга. Каб захаваць парыжскае пачуццё часу, я вырашыў набыць сабе гадзіннік, вялікі, наручны, самы вялікі, які носяць на руцэ. Пра якасці свайго гадзінніка маркі *PANERAI* доўга назаляць не буду. Скажу: загарнулі яго і паклалі ў каробку з чырвонага дрэва, у падобных скрынях аматары сапраўднага тытуню захоўваюць кубінскія цыгары. І яшчэ адноназіранне, падчас набыцця гадзінніка, распрацаванага ў Італіі ў 1938 годзе для дыверсантаў... Мурыны куплялі гадзіннік "Карцье". Калі я званіў у краму, яны разглядалі вітрыну. Тыпы запамінальныя. Такіх апісаў Ажар у рамане "Жыццё наперадзе!". Памятаеш сутэнёра, якому адрэзалі пальцы і ўтапілі ў Сене? Пальцы рэзалі, бо на кожным сядзела па пярсцёнку. І вось два кандыдаты ў тапельцы завалілі ў дарагую краму, дасталі з майткаў рулоны франкаў, перацягнутых гумкаю, і набылі "Карцье" ў золаце. Колькі прастытутак аддавалі ім пакамечаныя францікі, паперкі з тварам Экзюперы? Не адна, і не дзве, і не пяць... Руку дам адсекчы, разам з гадзіннікам *PANERAI*, калі памыліўся.

Ніколі не ведаеш, што спыніць увагу наступным разам. Уразілі скасабочаныя дзверы. Спыніўся і разглядаю вялізныя, жоўта-лякавыя, дубовыя дзверы. Хто лазіць праз такое крывое? Квазімода? Што там, за дзвярыма? Стаю, пялюся і не заўважаю побач з дзвярыма-монстрамі мініяцюрную мурынку. Яна ўсміхаецца на ўсе свае 134 блакітныя зубы і махае мне ружовай даланёю. Ветліва так памахвае, нібыта працірае запацелае ад дыхання шкло. Зманлівы жэст. Я ледзь-ледзь не спакусіўся. Ледзь не заглыбіўся пад аксамітны шакалад яе скуры, не даў нырца. Не даў. Пайшоў далей, бульварам Сен-Жэрмэн. Хоць і крыху пашкадаваў пра страчаны сексус-плексус за дубовымі дзвярыма.

Самая знакамітая рэч у Парыжы — Эйфелева вежа. Але Эйфель збудаваў не вежу, а мост паміж зямлёй і небам. А ты кажаш, *вежа-вежа-вежа*...

Вечарэе. Бачу помнік Бальзаку. Уражанне, што ён толькі з-за стала. Шчыльна пад’еў. Смачна нахарчаваўся. Набіў чэрава пад завязку. З вінам нажэрся. Вось-вось ікне, рыгне, засне і захрапе на ўвесь Парыж. Рэалістычны помнік, крытычна-рэалістычны, як і сам прататып — Анарэ.

Сцямнела.

Парыж уночы гудзе, як магутны хвалісты акіянічны вецер. Парыж — горад-акіян. І як лёгка прапасці ў ім! І колькі людзей геніяльных і бяздарных папрападала! Час паставіць помнік чалавеку, які прапаў у Парыжы.

Хопіць пра рэчы. Барахло і ёсць барахло. Распавяду пра розныя з’явы...

Фільмаванне — гэта шальмаванне тваіх вачэй, як і фатаграфаванне. Ты думаеш, што бачыш любага чалавека, — падман. Шматок паперы ў тваіх руках, аркуш паперы. Прагу перафатаграфавалі, зрабілі з горада фотацытатнік. А Парыж перафільмавалі. Тут Ален Дэлон з Жанам Габэнам праходзілі па мосце. Там Бельмандо забягаў у метро. Тут Філіп Нуарэ піў піва і меў выгляд несумленнага паліцыянта. А там Катрын Дэнёў... А тутака Сафі Ларэн... Рышар... Дэпардзье... А гэтае навязлівае выццё паліцыянцкай сірэны. Не проста так. Вечны камісар Жуф палюе на Фантамаса, на няўлоўны Фантом Аса, на Фантастычную Маску. Каб пазбавіцца ад кінацытат, я ўявіў вялікі помнік Фантамасу. Ён, шырока расставіўшы ногі і склаўшы рукі на грудзях, стаіць на пляцы ў футурыстычным раёне Дэфанс. Дый сам раён я пераназваў бы ў раён Фантамас.

На рагу гатэля Канкорд у чорным дажджы стаяць чорнавалосыя прастытуткі. Ой-лё-лё! Вымаўляюць іх чорныя вусны. Бразілія-Расія. Зборная па грэблі на кандомах. Чорныя вочы. Чорныя боты. Чорныя плашчы. Вочы чорныя, не баюся я вас і не люблю я вас. Буду спаць без вас, я не Фантамас...

З гатэльнай высоткі ранішні, зацягнуты смугою, шэры горад... Срэбна-шэры, зеленкавата-шэры, маціцова-шэры, амаль белы, бясконца шэры.

Яны крохкія, парыжскія краявіды, алюмініева-срэбна-блакітныя, нібыта зробленыя з лускі рыб, яны поўныя паветра, вільгаці і суму. Дакладней за астатніх травеньскі Парыж напісалі Пісаро з Марке. Каміль Пісаро — бульвары. Эміль Марке — Сену і Нотр Дам.






А далёка ўнізе мурыны крочаць пад шэрымі парасонамі. На шэрыя машыны сыплецца шэры дождж. І недзе далёка, у раёне Дэфанс, вуркоча шэры гром. У вуркатанні грому чуецца рэвалюцыйны настрой.

Чым Французская рэвалюцыя адрозніваецца ад астатніх? Парыжскія рэвалюцыянеры руйнавалі турмы, розныя там Бастыліі. Астатнія экстрэмалы бурылі і палілі аб’екты культаў: цэрквы з касцёламі, сінагогі, статуі Буды ўзрывалі... Чаму Дантон, ці Марат, ці дэ Сад не спалілі Нотр Дам? А маглі б! А не пабурылі. Далікатная рэвалюцыя ў французаў атрымалася, калі з іншымі параўнаць, так — аперэтка-эталончык. Зусім была б аперэтка, каб не гільяціна...

Будзеш у Парыжы, і табе абавязкова пакажуць месцы, дзе стаяла гільяціна. Вось тут стаяла, і тутака ўзвышалася над ашалелым натоўпам, а там адсеклі галаву каралю, а тут маркізу і паэту-арыстакрату. Якое слізкае ад крыві, якое паскуднае, якое сакральна-французскае слова — гільяціна. І жах у тым, што гільяціна ездзіла з месца на месца і працавала-працавала, а галовы ляцелі ў кашы. Чалавечая галава ў лазовым кашы — сімвал твой, рэвалюцыя.

Гуляў-гуляў, і прыйшло адчуванне, што шмат чаго варта змяніць. І не ў цяперашнім жыцці, а ў мінулым, у маладосці, у юнацтве, у дзяцінстве, у маленстве... Я пабачыў сваё адлюстраванне ў цемнаватым люстэрку кавярні, і захацелася стаць лётчыкам. Некалі даўно я перакладаў верлібр Міці Мізгуліна. У вершы гаварылася, што Міця ўжо ніколі не стане кіраваць падводным чаўном і не спраектуе мост. Такі сумны верлібр, пра страчаныя магчымасці. У Парыжы востра адчуваецца сум па стратах. Не стаў тым, не зрабіўся гэтым. А самае крыўднае, што не пабачыў Парыж у юнацтве. Бо ён не расчароўвае, а зачароўвае і натхняе, надае ўпэўненасці. Парыж шэпча: “Цябе чакаюць вялікія справы! Ты здольны! Ты здатны! Ты зможаш! Ты пераможаш...” У Парыжы думаецца не пра самагубства, а пра самаахвярнасць.

Думаеш пра самаахвярнасць, а робішся ахвяраю простых з'яў...

Смешна слухаць, як нехта некуды паехаў, нешта там з'еў і трапіў у залежнасць ад унітаза. Так усе смяяліся з Жэніка Дзягцярыка, які на выспе Балі сустрэў Новы год у прыбіральні. Жэніку я паспачуваў, толькі калі сам атруціўся. А самае кепскае, доўга не мог вызначыць, ад чаго канкрэтна схапіла жывот... Круасаны? Не. Камамбер? Не. Рашфор? Смажаныя каўбаскі? Яечня? Кава? Не, не, не... 30 вустрыц я не глынаў. Няўжо атруціўся Парыжам? Перадыхаў тамтэйшым паветрам? Пераіжэр Парыж? Напэўна. Я ж не з тых, хто пытаецца, ці патрэбны ён Парыжу. Парыжу не патрэбны ніхто! Я не той, хто маркоціцца з-за сваёй непатрэбнасці ў Парыжы. Я прыехаў, бо мне патрэбны Парыж. Прыляцеў, і спажыў Парыж. Колькі ўлезла, столькі з'еў. Перабраў, перасёрбаў... І страўнік расстроіўся, і вочы пачырванелі, і ногі баляць, і галава цяжкая... І згадка пра “Млосці” Сартра нязносная. Душ. Сон. Аптэка. *Bifix. Diarrhée aigué 200 mg.* Прайшло. Можна пасмяяцца з сябе і французаў.

Калі ў француза спытаць, як ягоную нацыю ўспрымае свет, ён назаве тры знакавыя рэчы: віно бардо, сыр камамбер і карціны Клода Манэ. Прыстойны набор, інтэлігентабельны, без Напалеона і Жанны Д'Арк, без Марата і Дантона, а галоўнае — без Парыжа. У Парыжы мала французаў. Парыж не зусім французскі. Парыж шырэйшы за Францыю, як Масква большая за Расію. У ім ёсць Монэ і Манэ, камамбер і рашфор, бардо, рыслінг, круасаны, канфіцюры, канапэ... І мы з табою ёсць у Парыжы. Мы там былі яшчэ да свайго нараджэння.

Часам жанчына, разглядаючы агурок і бачачы ў ім чэлес, жартуе: “Не мой памер!”. Дык вось, у цэнтры Парыжа архітэктура суцэльна не нашага памеру. Сталы маленькія, крэслы маленькія, рэстарацыі маленькія. Вагоны ў метро вузкія. Дзверы вузкія. Вокны вузкія. Лесвіцы, тратуары, прыбіральні малыя. Каб схадзіць у прыбіральню, трэба стаць акрабатам. Адчыняеш дзверы, пераскокваеш праз унітаз, зачыняешся, скурчваешся, робіш, зноў скачаш. І разумееш любоў Пікаса да акрабатаў. І разумееш Ле Карбюзье, які марыў зруйнаваць цесны, разлічаны на дробнага чалавека Парыж і збудаваць прасторны. Менавіта ў Парыжы вялікі Ле распрацаваў архітэктурнага мадулёра ростам 1,81 м. Цяжка есці за сталом 50х50 см. Мусіць, за такім сталом і прыдумвалася правіла, што локці нельга ставіць на стол: захочаш, не паставіш. А часам хочацца каўтнуць абсенту, усталяваць локаць на стале, падперці галаву рукою і заабсенчаным вокам глядзець-глядзець-глядзець на Парыж-Парыж-Парыж... Да самай смерці глядзець.

Усе мастакі паміраюць у Парыжы. Творца не можа не загінуць, пабачыўшы безліч узораў бязлітаснага мастацтва. Паміраюць усе. Але знаходзяцца тыя, што ўваскрасаюць у новым пост-парыжскім абліччы. Парыж нельга пераіжыць, трэба памерці ў ім, інакш ты не мастак. Калі ты не загінуў у Парыжы, а толькі стаміўся ад яго, ты — нядара, вазьмі сябе за каршэль і выкінь на сметнік, або знайдзі сілы і загінь.

Парыж знішчае вырадкаў. Парыж прадбачліва нішчыць нядараў.

Ёсць рэчы, якія прадбачыш наперад. Я заўсёды ведаў, што буду ў Парыжы. Не тое што хацеў ці не хацеў, а дакладна ведаў. Я ўбачыў сябе на карціне Злацю Баяджыева “Мастакі ў Парыжы”. Такога Уладзімера Адамчыка ў берэце, а за спінаю вежа (мост) Эйфеля. Я тады ляжаў у інфекцыйнай бальніцы з дызентэрыяй. Між іншым, хваробу я падхапіў у той жа ж лякарні. Спачатку паклалі на 10 дзён на абследаванне, а калі настаў час выпісвацца, у мяне, на радасць дактароў, меліся і дрыстун, і тэмпература, і дызентэрыйная палачка. Каб не сумаваў, бацька прыносіў мне часопісы, і ў балгарскай “Карціннай галерэі” я ўбачыў сябе на парыжскай вуліцы. Мастакі і літаратары мусяць ведаць тое-сёе пра свой лёс наперад, інакш яны зусім і не паэты, і не мастакі. І пра свае пераўтварэнні ў Парыжы я ведаў наперад.

У Парыжы відавочны падзел на Заходняе — інтэрнацыянальнае, агульначалавечае — і Усходняе мастацтва, Заходнюю і Усходнюю культуру. Усходняя культура ўспрымаецца як тоесная народнай, у ёй — Кітай, Індыя, Японія, Расія... А дзе ж мы? Мы ў трэцім адсеку... Сярод афрыканскіх масак трапляюцца нашыя стоды, брутальныя шклоўскія ідалы. Мы

— у экстрэмальным прымітывізме. Тут нам і месца. І не трэба высцёбвацца. Такая праўда пра нас. Суцяшае шансон на акардэоне, бо ён вельмі французскі і безнадзейна прымітыўна-ідыёцкі, як атэізм.

Атэізм разліты ў паветры Францыі. Практычны атэізм. Нашто ісці ў сабор, калі можна не пайсці? Не ходзяць. З-за гэтага схуднелі крыжы, схуднела ўкрыжаванне, яно зрабілася падобным да манекена голага і пустога. Няма веры, якую звычайна начэпліваюць на ўкрыжаванне. У Францыі Хрыстос — манекен, на які не навешваюць абноўленую веру цягам двух апошніх стагоддзяў.

Зайшоў у касцёл. Так, адно паглядзець. Светлы касцёл. Свечкі ружовыя па 5F. Узяў. Запаліў. Пра бабу Ядзю згадаў. Яна ж каталічка. Нават надпіс на помніку папрасіла зрабіць па-польску. Чытаю надпісы ў касцёле... Катынь. Жаўнеры. Маці Божая Вастрабрамская. Божа, я ў *польскім* касцёле?! Ружовашчокі Юліуш Славацкі пазірае ў рамантычна-ружовую далячынь і бачыць вольную Польшчу. Ружовы туман.

Выходжу на ганак. Іду праз пляц і ўпіраюся ў ангельскую краму, поўную ружовых анучак, падушак, сукенак. Набываю ружовы шаль. Ру-жо-вы-ру-жо-вы. Не смейся і не здзіўляйся з чужых дзяцей, бо ў цябе народзіцца такое ж. Як у мяне нарадзілася Ядзя з не зразумелай мне любоўю да ўсяго ружовага, ангельска-польска-маскоўскага.

Ёсць у мяне і яшчэ праблема: сабакі кідаюцца, калі ў парку бегаю. Ляціш, а ён: "Га-а-аў!!!" А я ў пашчу аэразольным перцам — шах! Ён і звіваецца ў клубочак, і хаваецца за гаспадыню. А тая давай брахаць: "Каб ты здох, скаціна! Каб ты нагу зламаў!" Не адказваю, далей бягу. На маім сумленні — пяць заперчаных сабак. А што рабіць? Не бегаць? Буду бегаць! І адпаведна балоны з перцам набываць му.

І ў Парыжы я ў шпіёнскую крамку зайшоў. Эх, чаго там толькі няма... Зброя ўсялякая: нажы, стрэльбы, пісталеты, шокеры, дручкі... Толькі паглядзець. У Беларусь не ўвязеш. Не мой стыль: сесці за кантрабанду зброі. А вось адна штучка ўразіла. У балоніку невялічкім сядзіць дзікунскі свіст. Націскаеш, і ты — Салавей-Рабаўнік. Праўда, вушы вянуць не толькі ў сабакі і ейнага гаспадара, а і ў цябе самога. З-за гэтага і не набыў. Ай, думаю, калі што якое, сам гыркну і без Салаўя абыдуся. Але ідэя мне спадабалася, асабліва комікс-інструкцыя: 1 — свіст на чалавека, 2 — свіст на сабаку, 3 — свіст у тэлефонную слухаўку. Як табе прапанова? Набіраеш тэлефон заклятага ворага і як свіснеш яму ў галаў, ён, гадзіна, усё астатняе жыццё будзе лякацца тэлефонаў. Можаш паспрабаваць. Ідэя ў падарунак. Не падабаецца ідэя? Не бяры. Адмоўся, толькі хутка.

У Парыжы адметная хуткасць. Ён больш рытмічны за Маскву і Варшаву, не кажучы пра паўсонны Менск і санлівую прыгажуню Вільню. На парыжскі рытм не так проста настройвацца, спачатку даводзіцца падбягаць на скрыжаваннях. Ідзеш сабе спакойна на зялёнае святло, праходзіш дзве трацiны, а яно раз — і згасла. Бяжыш. А праз дзень-другі не бяжыш, проста ходзіш шпарчэй, крочыш лёгкай парыжскай хадою.

Ідзеш, ідзеш, спыняешся, бо нельга прамінуць парфумную краму *SEPHORA*. Тысячы бутэлечак з водарамі. Леваруч — мужчынскія, праваруч — жаночыя. Гэта я не адразу скеміў. І, канешне, апынуўся на жаночым баку. На мяне наплыла агромністая, вышэйшая на галаву, неабдымная мурынка. Яе рот раскрыўся, аксамітна-малінавы язык заварочаўся. Я адхіснуўся. Але мурынка не адмовілася ад сваіх намераў, яна паднесла да майго носа стужачку белага кардону з цукровым пахам. Малінавы орган зноў заторгаўся. Я адчуў сябе патэнцыяльным кліентам экзатычнага бардэля, дзе бутэлька шампанскага і карамельны водар адразу закладзены ў кошт полавага акта. Мурынка пыталася, ці падабаецца мне яе водар. Сі-сі, ес-ес, так-так, да-да, я-я... Адчапіўшыся ад мурынкі, я перайшоў на мужчынскі бок і доўга разглядаў вітрыну парфумных хітоў. Калі раней існавалі абразлівыя шыльдачкі "толькі для белых", дык не здзіўлюся, калі з'явіцца шыльда "толькі для чорных". Я не расіст. І які, прабач, расіст са славяніна, з беларуса, прабач. Але хіты парфумы — водары не для істотаў з белай скурай. Не пацеем мы так моцна, каб пырскацца носазрывальнымі вадкасцямі. Нам трэба нешта мякчэйшае, лягчэйшае, прасцейшае — водар свежаскошанай травы. Не кіслотны, не джазавы, не амі-

ячны — наш беласкуры чалавек. Пасля сыходу з *SEPHORA* гадзіны са дзве ўсё не выветрываліся з майго носа спірытусныя духі. Яны жылі сваім жыццём глыбока за вачыма. І як толькі я крышку шырэй удыхаў паветра, імгненна апынаўся ў парфумным пекле.

І яшчэ ты не прамінеш шыльдачку: *URINOIR* — 2F. Класны надпіс! Важнейшы за РЭНУАР у музеі Арсэ. У музей Арсэ можна не хадзіць, і Агюста Рэнуара, аматара жаночых дупаў і жыватоў можна не ведаць. А да шыльдачкі *URINOIR* — 2F абавязкова трапіш. І калі не за 2F, дык проста да бясплатнага *URINOIR*, у якім Макдональдсе. Такі наш лёс — сцаць, сікаць, сурляць, струмень пускаць. І ў Жуля Рэнара быў такі, і ў Жоржа Руо не іншы. Усім трэба пісяць. Жыццё — бясконцае сікунапусканне. Біялогія, цела, арганізм... Яны цябе і загоняць у прыбіральню, дзе мужчынскія пісуары аддзеленыя ад жаночых кабінаў толькі турнікетамі, што харчуюцца двухфранковікамі, — 2F. Стаіш, аблегчваешся, глядзіш праз плячо, бачыш, як выходзяць-заходзяць жанчыны. І не вельмі каб утульна сябе пачуваеш. Такая ў Хранцыі хрэнавастая урынатэрапія і выдатная жываПіснасць.

Парыж — жывапісны, жыдапісны, імпрэсіяністычны, арабаістычны, пуантэлістычны, мурыназначны... І ў гэтым праўда, а не стэрэатып. Нават чортава вежа намалёвана не рукой інжынера, а пэндзлікам жывапісца на ўскудлачаным, кучаравым французскім небе.

А цяпер пра розныя месцы распавяду.

Пачну пра кнігарні. У кнігарнях, менавіта ў іх, захоўваюцца парэшткі інтэлектуальнай дзейнасці, калі браць за інтэлект усведамленне непатрэбнасці (добра-добра), малапатрэбнасці ўсяго існага. У кнігарні ты бачыш, наколькі неістотная розніца паміж чытачом Вальтэра і чытачом Дзюма ў коміксах. Абодва п'юць гарачы шакалад і засяроджана перагортваюць старонкі. Чытач Дзюма ў карцінках — рудабароды, ружовашчокі, сінявокі маладзён. Чытач Вальтэра — мурынка, якой далёка-далёка-далёка за 15. І розніцы паміж імі ў кнігарні *Fnac* я не адчуў.

Па дарозе з *Fnac*(у) у Луўр сутыкнуўся са сляпою, яна неяк злосна зіркнула ў мой бок чорнымі шкельцамі. Пэўна, пазайздросціла, што я пабачу Луўр. А Луўр баставаў. Было б цікавей, каб забаставала Бастылія. Але Бастылія не дажыла да майго прыезду. Бастылія збэсцілася, яе збурылі. А Луўр дажыў, ва ўсім шумлівым шыку. Штрайк у Луўры шыкоўны. Заходзь. Квіткоў купляць не трэба. Ідзі і глядзі.

Растрэсканы Батычэлі. Празрысты і светлы, як успамін пра першае сапраўднае каханне.

Леанарда цёмны, цьмяны, задымлены мудрасцю, зашклёны, залакіраваны ўсеагульнай павагай і цікаўнасцю.

Панторма хімічны, кіслотны, дыскатэчна-клубны, *fashion* — адным словам.

Мікеланджэла нібыта пакрыты танюткім і празрыстым слоем золата, ягоныя мармуровыя рабы — цеплакроўныя. Толькі прафесіянал ведае, што непаўторнае адценне мармуру дае чалавечая мача, без яе ён блакітна-сцюдзёны, мярцвяны і гідкі.

У Луўры безліч залацістага мармуру. Натоўпы мужчын у парыках. Мармуровыя парыкі на парыжанах — раздражняюць. Мяне раздражняюць. Усе парыкі, акрамя Вальтэравага. Гудон высек усмешку саркастычнага Вальтэра. Вальтэр насміхаецца з мяне, з цябе, з нас, з вас... Узорная зорная ўсмешка. Вальтэр Гудона — твар Луўра.

Нягледзячы на вальтэраўскі сарказм, я пачуваў сябе цэнтравым. Я заўсёды пачуваю сябе цэнтравым. І ў Менску на праспекце Скарыны, і ў Маскве на Цвярской, і ў Вільні на Гедэміна, і ў Парыжы ў Цэнтры імя Пампіду... Пампіду ці Гедэмін, якая розніца, галоўнае цэнтар. І калі ў музеі паставілі чалавекалічыльнікі, мяне гэта цешыць. Хай лічаць. Статыстыка — навука імпатэнтаў-статыстаў. Мастаку статыстыка не замінае. Асабліва сучаснаму, які зразумеў, што хэпенінг — мастацтва мазахістаў. Гэта ж якім трэба быць мазахістам, каб легчы на жалезны ложак, а пад ім запаліць свечкі, і ляжаць, і падсмажвацца?! Ці павярнуцца голай сракай да камеры і гадзінамі таптацца на месцы, як Ёка Она. Ці без супраціву даць сябе павінціць на мітынгу пратэсту. XX ст. і ягонае мастацтва — суцэльны мазафазахізм. І чым можна скончыць? Скочыць на палатно, залезці на дом, і скокнуць долу, і праўваць дзірку ўласным целам — механістычны мазахізм, маразмахізм. Лепей

старыя труп у добрай труне, чым малады на непадмеценым асфальце. З такімі чорна-гумарнымі думкамі я пакінуў Цэнтар мастацтва на вуліцы Бабур і пайшоў у Нотр-Дам.

У Парыж нельга прыехаць першы раз і здзівіцца. Ты ў ім быў мільёны разоў. Карціны. Кнігі. Кіно. TV. Яны назаўсёды выключылі магчымасць першага здзіўлення вялікім горадам. З Парыжа знікла створаная ў ім жа ўражлівасць. Нотр-Дам — змрочны, запоўнены ценямі, напоўнены водгуллем галасоў. У недасяжных далячынях свяцяцца каляровыя шкельцы.

З Нотр-Дама праз мост пойдзем у музей Арсэ. Парыжскі мост больш, чым проста мост. На ім Альбер Камю ўбачыў падзенне маралі, маральнае падзенне. Чалавек не выратаваў дзяўчыну-самазабойцу з-за думкі пра халодную ваду, нібыта з-за ледзяной вады. Я іграў у кіно чалавека, якому спавядаецца герой аповесці "Падзенне". Ідучы па мосце ў Парыжы, ты абавязкова трапіш у стан выбару і не дапаможаш самагубцу. Такія там масты. І як жа кранальна глядзелася сцэна кармлення на мосце... Сівая жанчына пакарміла з рукі таблеткамі згорбленага дзядка, падобнага да старой нашаторанай птушкі.

Музей Арсэ размешчаны ў памяшканнях былога чыгуначнага вакзала. І вакзальная атмасфера не выветрылася за 100 гадоў. За вокнамі ўяўных цягнікоў ты бачыш XIX стагоддзе, намалёванае бездакорнымі пэндзлямі. А замест пасажыраў паўсюль стаяць, сядзяць, ляжаць мармуровыя дзядзькі з цёткамі, апранутыя і агаленыя.

На палотнах Курбэ перапляліся чорна-аліўкавы драматызм і смертаносная эратычнасць.

Энгр сціплы і абаяльны. Аголеная дзяўчына трымае збан, з якога падае вада. Энгр змог намаляваць спакойнае падзенне вады, такога няма ў прыродзе, такое існуе выключна на палатне — метафізічнае падзенне струменяў побач са светлай аголенасцю цноты.

Дэлакруа з сакаўных долек памаранчыка павыкладаў бітвы ільвоў.

Міле — гэта Ван Гог, сфатаграфаваны позна ўвечары...






Так пішу, бо ніколі раней не бачыў палотнаў Міле. А на самай справе Ван Гог — Міле, сфатаграфаваны ў сонечны дзень.

Дам'е выглядае большым іспанцам за Пікаса, напэўна, з-за непрыхаванай любові да Гойі, Сервантэса і Дон Кіхота.

Рыбак Шэванэса занадта нагадвае Хрыста, але Ісус не быў рыбаком, як каму таго ні хацелася.

Сняданак на траве быў у сапраўднасці больш удалым, чым на карціне Эдуарда Манэ. Вось і думай пра вартасці мастацтва пасля такога адкрыцця.

Дэга хацеў жыць добра, таму маляваў і ляпіў конікаў і дзяўчат, дзяўчат і конікаў. І, безумоўна, жыў добра і доўга.

Індыкі Клода Монэ — арыстакраты часоў Людовіка XIV, ні больш ні менш.

У мадонны Рэнуара галоўная дэталь — цыцка з малаком.

У доктары Гашэ Ван Гог убачыў Каперніка.

Калі і бывае геніяльны правінцыял у мастацтве, дык гэта Сезан. Яблыкі, жонка, люлька, бутэлька, гара, дрэвы, рэчка... Простае, правінцыйнае, роднае і геніяльнае.

У сталічным Парыжы найдаражэйшая, найпрыгажэйшая, найкаштоўнейшая садавіна (не паверыш!) — яблыкі. Вось таму і маляваў іх разважлівы, уважлівы, спакойны, як зямля, Поль Сезан.

А можа, і правільна парэзалі Латрэка на кавалкі і папрадавалі часткамі? Ну нашто пісаць такія вялізныя карціны?

Пасля ўсіх гэтых музеяў самы час паесці ў рэстарацыі. Стол вялікі (нарэшце!), зручны, густоўны, утульны, мой.

Мужчыны ў ружовых, бэзавых, жоўтых швэдрах. Мужчыны пачэсваюць пазногцямі ружовыя ад віна мочкі вушэй. Мужчыны кураць цыгарэты праз доўгія мундштукі. Мужчыны з валасамі, пафарбаванымі ў залаты і плацінавы колеры. Мужчыны ядуць марозіва, густа пасыпанае шакаладам.

Лёгкасць і неабавязковасць.

Тоўсты і кепска паголены афіцыянт не напружваецца.

Ем паштэт са свіных вантробаў, тлусты і масляністы. Агурок, поўны воцату, і ліст салаты ствараюць тактоўны букет смакаў. Бакал вады не дае воцату апякаць язык і страўнік. Удалая закуска.

Жанчыны выціраюць вусны сурвэткамі. Жанчыны папраўляюць валасы. Жанчыны разгладжваюць белыя ядвабныя каўнерыкі. Жанчыны глядзяцца ў меню, як у люстэркі, і бачаць там усе хібы сваіх пастаў.

Стэк памерам з фаліянт. Без віна я спажыў няшмат свежаніны, менш за палову. І, колькі ні вабіла пяшчотная ружовасць разрэзаў, стрымаўся.

Сальвадор Далі муміфікаваўся пры жыцці. У кутку сядзела і ела сухарыкі з гарбатаю падобная да маладзенькага Сальвадора мумія.

Кава такой моцы, што давялося запіваць вадзічкаю.

У светлай прыбіральні можна вывудзіць з апарату аднаразовую зубную шчотку, але я карыстаюся зубачысткамі з мяккага дрэва і з мятным водарам.

Пад вечар так стаміўся, што паехаў на метро не ў свой бок. Схамянуўся, прахапіўся, выскачыў з вагона і зразумеў, што тамтэйшае метро паскуднейшае за менскае: каб паехаць у супрацьлеглы бок, давялося выходзіць на вуліцу і набыць новы квіток. 5F як і не было. Але што такое 5F, я б і 15F заплаціў, каб толькі не ехаць у вагоне, бітма набітым афрыканкамі. Як яны смярдзелі! Востра-кіслай атрутаю тхнула ад нізкарослай мурынкі сталага веку. Яе галава хісталася ў мяне пад пахаю прыпынкі са два. А з другога боку на мяне навальвалася зграя арабак-школьніц са сваім саладжава-гнілым духам. Як я разумею Сартра з ягонай вечнай млосцю ў Парыжы! Як разумею! Я згадаў, што Сартр не парыжанін, як і я. Згадка пра Сартра выратавала. Я ўспомніў юнацтва, абярнуўся ў менскага мікраённага жлаба і выдраўся з гнойнай куламесы на свежае паветра. Нікога не скалечыў — і дзякуй французскаму атэістычнаму Богу.

Ёсць месцы, якія не апісваю і нікому не паказваю, мае месцы. І ў Парыжы яны ёсць. Іх я пакіну сабе.

Цяпер пра людзей, пра чалавекаў, якія стаяць напрыканцы зямной эвалюцыі. Мы ж так думаем... Цяперака пра нас...

У Парыжы процьма геніяў, і яны мёртвыя. Сёра, Сіньяк, Сегананзак, Суцін... А бяздары жывыя. Парыж напампаваны няздарамі, якія трызняць пра геніяльнасць. Заслонаў, Заторын, Запораў... Драбната мкнецца ў зоркі. Паскуднікі вераць у цудадзейную сілу мастакоўскай сталіцы. Сёра верыў. Сіньяк верыў. Хто не верыў? І пераўтваралася Папялушка ў прынцэсу. Парыж здатны на цуд. Шарль Перо пра французскую цудадзейнасць давёў усяму свету. Хто захоча прызнаць адваротнае? Тое, што прынц мае не толькі прынцыпы, але пранцы і п'янтоса вадзіцеля, які можа абрубіцца за стырном "мерседэса" і размазаць усіх па тунелі. Усіх: сябе, прынца і прынцэсу, напрыклад, Дыяну.

І заплакалі ўсе... І Манмартр, і пляц Пігаль, і Елісейскія палі...

Між іншым, калі захочаш адпачыць ад выяўленчага мастацтва, схадзі на Манмартр. Жывапісу там няма. Зусім! Адны самадзейныя відзікі-відуты трухлявых вулак, завулкаў і тупікоў. А на тле гэтай несапраўднасці вельмі праўдзіва выглядаюць берэты камерцыйных мастачкоў. Увесь жывапіс сканцэнтраваўся ў іх налітых вінам насах, у нячэсаных барадах і зашмальцаваных куртках. Яны старанна лепяць з сябе вобразы жывапісцаў пазамінулага стагоддзя. Карціны ў іх не атрымліваюцца, а вось акторы яны добрыя. Зрэшты, кожны зарабляе, як умее. Манмартр — пляцоўка для акторскага, а не для жывапіснага майстэрства.

А перад тым, як выбрацца ў Парыж, я прагна збіраў чужыя ўражанні.

— О-о-о! Парыж трэба адчуць. Я адразу адчуў. На чыгуначным вакзале сядзелі п'янтосы — нашы людзі з вялізнай бутэлькай. У мяне з імі адна мацаваная кроў. Я хуценька запёр карціны ў галерэю. Атрымаў аванс. Зайшоў у бар. Выпіў шклянку чырвонага. Вермут палыновы. І пайшоў глядзець Парыж. Праз гадзіну — бар. Шклянка. Прагулка. Ці спаў у Парыжы? Не помню. Мусіць, спаў. Аднойчы бар уночы быў зачынены, я павалокся ў гатэль. Пакімарыў. А так: віно, горад, шклянка, вуліца. Карціны прадаліся. Грошы прапіліся да санціма. Завітаў у бар развітацца. Бармен за так апошнюю шклянку наліў. Падарунак ад установы. Не мой гэта горад. Занадта мастацкі. Перабор, — расказаў колеразнаўца з кулінарным прозвішчам Лапша. Распавёў, падшыўся і ў мёртвай завязцы з'ехаў у Іеру-

салім. Набыў пісталет. Працуе начным вартаўніком і гуляе ў камп'ютэрную графіку.

— Маразм. Не вер! Ні фіга ад мастацтва ў Парыжы не засталося. Кіч! І больш нічога. Цэлафан, фальга, гума... Ні кроплі існага. Паказуха! Сурагат! Гэта пшэкі з маскалямі нарыдумлялі казак пра Хрянцыю і АПарыж-ж-ш. Напрыдумлялі і паверылі. Ёлупы. Чужое там. Кардоннае, мітуслівае, смярдзючае... Заўтра ад парыжскае славы і следу не застанецца. Без патрэбы не едзь, — казаў экспрэсіўны карцінарабільшчык Пятроў-Хруцкі. Ці купілі ягоныя палотны? Не спытаў.

— Асцерагайся вустрыц. Смачныя, але небяспечныя. Больш за тузін не замаўляй. Мы замовілі 4 тузіны на 4. Я з'ела, можа, 20, а можа, 30 праглынула. Парыж для мяне сціснуўся ў адлегласць паміж гатэльным ложкам і прыбіральняю. З-за нейкага слімака мегаполіс згортваецца ў тры квадратныя метры, — так атруцілася братавая жонка Таццяна.

— Быў у Луўры — багата! — найкарацейшы аповед даслаў на паштоўцы Хацкевіч-Мінскі.

— Быў у Дыснейлэндзе — змрочнае месца. Квасілі да дзвюх ночы. Абрубіўся. А Сашык з Лёшыкам сарваліся. Я ведаю, куды яны матанулі. Па кокс да негрылаў паімчалі. Кінулі мяне. А я з бадуна пацягнуўся ў Дыснейлэнд. Змрочнае месца, — Сярожа Шыманскі не раіў наведваць змрочнае месца. Настойліва не раіў.

— Хадзіў з жонкаю ў "Лідо", канкан глядзець. Пабыць у Парыжы і не пабачыць канкан — няправільна. Канкан там нарадзіўся, у "Мулен-руж". Але мы пайшлі ў "Лідо", у прэстыжны тэатр. Дзеўкі так задзіралі ногі, што было відаць, якая нараджала, а якая не. Мы вызначылі ўсіх, хто нарадзіў, — будаўнік Баранкевіч раіў схадзіць на канкан, але я не пайшоў.

Калі чалавек даведваецца, што ляціш у Парыж, абавязкова дасць параду. Дачка сказала, каб не фатаграфаваў Эйфелеву вежу ўночы, плёнку сапсуеш. Тата параіў накупіць таннай драбязы ў падарункі. Тата любіць падарункі. Прывозіў усім з Парыжа. Цяпер прывозяць яму. Найцікавейшую параду даў 25 гадоў таму настаўнік кампазіцыі Альгерд Малішэўскі:

— Варта прыехаць у Парыж, каб наведаць Луўр. Трэба






схадзіць у Луўр, каб узнікла жаданне зноў вярнуцца ў Парыж і Луўр. А там можна памерці.

Альгерд наведаў Луўр два разы і раптоўна памёр на мінскім чыгуначным вакзале.

А я не люблю цягнікі. Падабаюцца мне самалёты.

Аэрапорт. Запаўненне дэкларацыі.

— Ты куды?

— На Парыж.

— Што ў такім паважаным узросце рабіць у Хуянцыі?

— Не ведаю. Ні разу не быў.

— І я не была.

— Дажывеш да паважанага ўзросту — будзеш.

Кожны мастак раней ці пазней трапляе ў Парыж, але сутыкненні з французамі адбываюцца раней. І сутыкаешся ты пераважна з чыноўнікамі.

Французскія чыноўнікі слаўныя дасціпнасцю і жорсткасцю. Сустракаўся я з імі ў Мінску. Яны абяцалі набыць правы на выданне Батая. Паабяцалі і ні фіга не зрабілі. А калі кніга выйшла, з'явілася смуглявая Мальвіна-маліна і сказала, што я — злодзей. Спачатку апраўдваўся: люблю і выдаю кнігі Ламетры, Бергсона...

— І не плаціце за правы? — упікнула ідыётка.

— Не плачу, не плаціў і не буду плаціць Ламетры.

— Вы свядома парушаеце закон, гэта абцяжарвае вінаватасць!

Я не сказаў, каб Маліна-мальвіна валіла ў Батаеву вульву. Я выправіў яе інтэлігентабельна. І зрабіў выснову: французскі чыноўнік небяспечны для майго здароўя. У парыжскім метро я назіраў за чыноўнікам мужчынскага полу. Ён павязваў гальштук. Дастаў з "дыпламата", наставіў каўнер і павязваў цэлы перагон між прыпынкамі. Папраўляў вузел разоў 100, падцягваў і адпускаў. А потым неадрыўна, не міргаючы, любаваўся сваім адбіткам у шыбе. Такі не засіліцца. Ён павесіць на шыбеніцах 1000 іншых. І будзе з замілаваннем назіраць перадсмяротныя канвульсіі. А калі не павесіць цябе, дык гільяцінуе. Памятаеш, маркіз дэ Сад адзін час працаваў чыноўнікам? Нельга забыць.

Акрамя чыноўнікаў, не люблю барменаў. Колькі разоў назіраў за імі, і ні разу не захацеў стаць барменам, нават на паўхвілінкі. З-за падману. У кожным жэсце парыжскага (а мы ў Парыжы) бармена жыве падман. Ён недасыпае (у сэнсе: сыпле менш), недакладвае, недалівае, недавешвае, пералічвае, накідае... Бармен жыве па-за мераю, па-за нормаю. Бармен жывіцца падманам. Бармен — Казанова ў свеце харчовых прадуктаў. Скаціна ведае норму, але не выконвае. У гэтым сутнасць пастрыжанага, паголенага, чыстакашульнага стварэння, якім я не хачу быць.

А вось букіністам стаў бы. Букіністы з берагоў Сены — сонцалюбівыя жывёлы. Зрэшты, хто будзе разглядаць і купляць кнігі ў дождж? Хіба я. Гартаў старыя гравюры і думаў: вось знайду Беларусь і набуду. Знайшоў. Не набыў. Нашто мне выгляд Магілёва падчас паводкі на Дняпры? Мінск не знайшоў. Якія ў Мінску паводкі?

Сена разлілася. Травеньская вада павыганяла вырадкаў з-пад мостаў. Яны ляжаць-сядзяць на вуліцах, на вентыляцыйных кратах, у цвілым духу метрапалітэннага паветра. Смокчуць віно, каўтаюць віскі, жаруць булачкі. Рамантыка сну пад парыжскім мостам знікла назаўсёды. Клашары смярдзяць. Пэўна, з-за іх парыжане так любяць парфумныя крамы, не хочуць патыхаць прэлай чалавечынай.

— Дык што ў такім паважаным узросце рабіць у Парыжы?

— Разглядаць маладыя твары. Парыж глядзіць на мяне сотнямі маладых вачэй. Усе прастытуткі і прадавачкі маладыя і ветлівыя. Ад колькасці парыжскай маладосці сам сябе паважаеш. І цябе не раздражняюць прышчы на лобе мурынкі, ты з замілаваннем любуешся ружовымі ракаўкамі яе пазногцяў.

У парыжанак (я кажу пра белае паходжанне) вузенькія твары, доўгія і задоўгія торсы, кароткія ногі. Яны носяць палітоны да пятаў і высокія абцасы.

А вось гонарам парыжанкі і парыжаніна з'яўляецца нос. Чаму Гогаль, а не дэ Голь напісаў аповесць "Нос"? Чаму хахол па-расійску, а не генерал па-французску? Аповесць пра Нос мусіў прыдумаць парыжанін, бо Нос — найважнейшая дэталь, самы каштоўны орган у француза. Дзякуючы Носу ён беспамылкова адрознівае водар каньяку ад смуроду клапоў, водар камамберу ад духу цвілых анучаў. Французскі Нос такі чуйны, што іншым насам складана наблізіцца да парфумнага бізнесу. Даводзіцца доўга назіраць за тамтэйшым Носам у адэкалоннай краме перад тым, як наважышся нешта нюхаць, а тым больш набываць. Цяпер Нос захапляецца лёгкімі, нястойкімі, натуральнымі пахамі зялёнай гарбаты і лаўровага лісця. Празрыстыя, жывыя, лёгкаплынныя водары. Каб я паспадзяваўся на ўласны нос, ніколі б не знайшоў сярод сотняў флаконаў дзіўнапростыя водары. А я здагадаўся сачыць за парыжскім Носам. Ён існуе амаль асобна ад чалавека. Ён ідзе на паўкрока наперадзе. Ён заходзіць у памяшканне за два імгненні да гаспадара. Парыж — Нос Еўропы і астатняга свету таксама.

Яшчэ парыжанкі любяць уласную шыю. Даглядаюць, лашчаць і песцяць. У сонечны дзень яны адкрываюць яе, каб ты мог палюбавацца шыяю, гатовай да пацалунка. Яны цалуюцца шыямі і шчокамі, а не вуснамі, як мы.

Пакуль запісваў пра шыі, нахабны верабейка ўспырхнуў на мой столік і дзеўбануў у шакаладнае піроўнае — гад драбнапёры, гад з кароткай шыяю.

Тыдзень з раніцы да вечара хаджу ў Парыжы. Ад ператомы вочы пад вечар робяцца чырвоныя, як у марскога акуня. Але спыняцца-стамляцца не збіраюся.

Стамлюся я ў Мінску. Стамлюся і пачую:

— А якія яны, француженкі? Якія яны ў інтыме, у ложку?

— Не паспытаў.

— Я-я-як? Можа, ты быў у Парыжы толькі адзін раз і больш ніколі не пабудзеш?! Гэта ненармальна, пабыць у Парыжы і не займець сексу з парыжанкаю. Не-нар-маль-на!!!

— Брыдкія яны, парыжанкі. У фільмах, на карцінах — эталоны, а ў жыцці на іх не ўстае. У мяне не паўстае. Хай іх пранцавітыя французы-прынцы ператвараюць з Папялушак у прынцэсаў і топчуць. А я займуся нашымі, белымі, блакітнавокімі, ружовашчокімі белабеларускамі.

*Парыж. Травень 2001 года*

# Адам Глобус як індыкатар літаратуры і грамадства

**К**олькі разоў чуў меркаванне, прычым ад людзей з розных літаратурных "тусовак" і пакаленняў, што сёння Адама Глобуса зашмат. Маецца на ўвазе, што пра Глобуса шмат пішуць як у дзяржаўных, так і ў недзяржаўных літаратурных выданнях, актыўна выходзяць ягоныя кнігі, перыядычна з'яўляецца ягоны голас на "замежных" беларускіх радыёстанцыях.

*Аднак, трэба прызнаць, эфекту Адама Глобуса пакуль не назіраецца. Глобус не стаў не толькі культавым беларускім пісьменнікам, але і проста вядомым.*

На тое ёсць некалькі прычынаў.

Па-першае, беларуская культура перажывае сёння не лепшыя свае часы. Ці не ў найгоршым стане апынулася літаратура. Увага грамадства да яе нізкая, адпаведна і агучваемасць літаратурных твораў і імёнаў пісьменнікаў вельмі слабая. Цяжка прыгадаць, калі апошні раз які-кольвечы літаратурны твор беларускага майстра слова выклікаў розгалас у беларускім грамадстве ці хаця б у беларускіх інтэлектуальных колах. (Перш чым таму розгаласу нарадзіцца, трэба, каб літаратурны твор дайшоў да чытачоў; каналы, па якіх творы перадаюцца-цыркулююць, робяцца ўсё больш плыткімі і менш разгалінаванымі; а Інтэрнэт для сярэднестатыстычнага беларускага літаратара па-ранейшаму застаецца недаступным цудам тэхнікі, беларускага літаратурнага Інтэрнэта практычна не існуе).

Па-другое... без дзяржаўнага ўшанавання (уганаравання) вельмі складана стварыць "поўнафарматнага", прызнанага беларускага пісьменніка. У Беларусі амаль усе сферы, звязаныя з жыццёвай дзейнасцю чалавека, вельмі істотна кантралююцца ўладай. Пад кантролем нават такія рэчы, як грамадскае прызнанне. Літаратура — досыць дарагі від мастацтва, асабліва беларуская літаратура, якая патрабуе сур'ёзных дзяржаўных датацыяў. Вядома, тэатр або кінематограф значна даражэйшыя, таму ў нас няма айчыннага кінематографа, а тэатр ледзь ліпіць. Літаратура, дзякуй Богу, ёсць. Але яна ператварылася ў вельмі элітарны занятак. Адам Глобус можа сабе яго дазволіць, аднак наўрад ці ў бліжэйшай перспектыве яго чакаюць дзяржаўныя лаўры або хаця б медаль Францішка Скарыны. А без "дзяржінаўгурацыі" Адам Глобус не можа адбыцца як масавы беларускі пісьменнік. Улада будзе яго ігнараваць не таму, што Глобус якісьці апазіцыйны або крамольны. Ён проста няз-ручны (непатрэбны). Яго нельга скарыстаць ні ў ідэалагічных, ні ў палітычных мэтах...

Па-трэцяе, асоба Адама Глобуса вельмі размаітая. Ён і літаратар, і выдавец, і фундатар, і філосаф, і мастак, і аглядальнік, і бізнесоўца. Але што з гэтага пераліку галоўнае? Сам Адам Глобус, відавочна, назаве — літаратар. Але ў вачах людзей ён найперш выдавец-бізнесоўца, бо поспех у сённяшнім свеце вымяраецца заробленымі грашыма. Свой поспех (адпаведна і грошы) Глобус зарабіў у выдавецкім бізнесе, таму ў вачах людзей (абазнаных людзей, а неабазнаныя ўвогуле пра яго не чулі) Глобус — бізнесоўца. Аляксандр Патупа або Алесь Усеня таксама літаратары, прынамсі, былі, але іхняя літаратурная дзейнасць сёння нідзе не згадваецца. Гэтыя людзі набылі прызнанне ў іншых сферах. У адрозненне ад іх, Глобус працягвае вельмі актыўна займацца літаратурай і мае вялікія амбіцыі, вось толькі пераўзысці свой поспех у бізнесе літаратурнымі творамі наўрад ці ён здолее. Бо сёння прыкладаў беларускага літаратурнага поспеху папросту не існуе.

Што з усяго сказанага вынікае? Тое, што і наша краіна, і яе грамадства знаходзяцца ў вельмі складаным становішчы. Беларусь не будуе свайго культурнага прасцягу, таго "азонавага" слоя, які мусіць абараняць краіну ад дэструктыўнага вонкавага ўплыву і ў той самы час яднаць грамадства. Гэта настолькі комплексная і маштабная праблема, што вырашэнне толькі нейкай часткі яе, напрыклад, павелічэнне колькасці выдаваемых кніг, не прынясе нам прыкметных станоўчых зрухаў.

Праблемы Адама Глобуса не павінны радаваць яго нядобразычліўцаў (якіх насамрэч нямала). На самай справе гэта не толькі яго, але і наша агульная праблема. Няцяжка ўявіць, якога поспеху можа дамагчыся, напрыклад, цікавы празаік з Мастоў Язэп Палубятка (дарэчы, ён быў некалі лаўрэатам прэміі часопіса "Крыніца") або паэтка з Веткі Ларыса Раманава. Адсутнасць прыкладу беларускага літаратурнага поспеху робіць беларускую літаратуру бесперспектыўнай.

Дык няхай будзе хоць Адам Глобус!

**Алесь АРКУШ**

# "Літаратура — гэта я..."

**Г**лобус абяцаў прынесці ў "Полымя" невялікую аповесць, але замест яе прынёс дзённікавыя запісы пра свайго бацьку. Аказалася, ледзь не кожны запіс — своеасаблівая закончаная мініяцюра, мастацкі твор, а гэта ўжо нешта большае, чым звычайны дзённік. У іх, часам да страху адкрытых, — у асноўным апошнія гады жыцця, смерць і пахаванне Вячаслава Адамчыка. Па сваёй унутранай насычанасці — і праўда, чым не мікрааповесць?

Прызнаюся, адразу падумаў, што, здаецца, нічога падобнага ў нашай літаратуры яшчэ не сустракаў.

Здаецца, такое ж адчуванне было раней, даўно, калі ў "Дні паэзіі-84" чытаў яго вялікую — як для маладога аўтара — вершаваную падборку:

*Дужыя рогі быка*
*Цяжкае сонца трымаюць.*
*Шчыльную чырвань рака*
*Коціць.*
*Каменні спяваюць*
*Хорам глухіх галасоў.*
*Вецер гарачы хістае*
*Поле рудых каласоў.*







*Стомлены дзень памірае.*
*Прысак згарэлага дню,*
*Шарай гадзінай названы,*
*Вільгаць расы ў цішыню*
*Сыпле.*
*Прыродай абраны*

*Бык павярнуў галаву —*
*Падае сонца ў траву.*

А да гэтага былі яшчэ Глобусавы хоку — форма, неўзабаве паднятая на шчыт многімі тагачаснымі маладымі паэтамі. Але Глобус не любіць быць адным з усіх. Ён любіць здзіўляць і быць першым, ці, у любым выпадку, адным з першых.

І ў хуткім часе з'явіліся ягоныя урбаністычныя апавяданні, пасля — "Дамавікамерон", пасля... затым... нарэшце...

Многія глобусаўскія героі пазнаюцца ў рэальным жыцці, многіх ён называе сваімі імёнамі (у тых жа ягоных "нашаніўскіх" карацельках), дзякуючы чаму ён нажыў сабе дастаткова для беларускага пісьменніка ворагаў. Аднак, несумненна, чытачоў у яго куды больш, чым ворагаў, і нават сярод ворагаў нямала ягоных чытачоў.

"Літаратура — гэта мы, — гавораць глобусаўскія апаненты. — Каб выжыць, нам трэба трымацца разам".

"Літаратура — гэта я, — гаворыць Глобус, — а ўсё астатняе — аб'ект маёй творчасці".

І справа не толькі ў ягоным характары. Яму так цікавей. І гэтая тэза Глобуса цалкам задавальняе, каб самарэалізавацца. Прынамсі, пакуль.

Што ж да заўтрашняга дня... Адзін з праваабразаў заўтрашняга дня Глобус ужо стварыў — сваім выдавецтвам. Як ні дзіўна камусьці можа падацца, зноў першы.

Дарэчы, і свой зборнік "Парк", які ў 1988 годзе выйшаў у серыі "Першая кніга паэта", Глобус падпісаў мне так: "Алесю Бадаку, з якім рабілі першы і самы лепшы нумар "Крыніцы".

Праўда, я не ведаю, ці быў той нумар сапраўды самым лепшым. Сумненне ж — не лепшы памагаты таму, хто шукае цалік, а не вытаптаную сцежку. І Глобус гэта разумее.

**Алесь БАДАК**

# “Час Адама ад яблыка горкі”...

Адама Глобуса адначасова і любяць, і ненавідзяць, і баяцца, і паважаюць... А я асабіста зайздрошчу Глобусу... Так. Зайздрошчу. І не столькі ягонаму таленту, колькі ягонаму шляхетнаму паходжанню. Радаводнае дрэва Глобуса трымаецца на каранях матчынай інтэлігентнасці і бацькавай пісьменніцкай вядомасці. Ён лёгка мог стаць у сучаснай беларускай літаратуры — Уладзімірам Адамчыкам-2. А стаў не Адамчыкам, а — Адамам. Ды яшчэ і Глобусам. Адзіным і непаўторным у сваёй творчай іпастасі. Для мяне гэтыя два словы — Адам і Глобус — існуюць у своеасаблівым біблійна-касмічным вымярэнні. Адам — першачалавек. І Глобус — як мадэль свету. Дзе Адам выступае ў ролі стваральніка свайго творчага свету. І робіць ён гэта, трэба прызнацца, па-д'ябальску таленавіта... Ён сапраўды стварае сябе, мадэлюе свой творчы імідж.

На вокладцы ягонага збору твораў пад назовам “Тэксты” згадваецца, што Адам Глобус — ”культавая фігура беларускай культуры 80 — 90-х гадоў...Ключавое слова ў гэтым азначэнні — ”культавая” — для многіх ягоных калег па літаратуры стала калі не "яблыкам разладу”, дык сапраўднай “притчей во языцех”. "Канешне, стварыў пад сябе газету і часопіс і культывуе там сябе і сваю творчасць...” Або “Караля стварае світа...”

Шаноўныя, а хто перашкаджае нам? На мой погляд, куды лепш стварыць пад сябе газету ці часопіс, чым “тварыць пад сябе” і з гэтым сваім “літдзярмом” пішчом лезці ў дзяржаўныя выдавецтвы. Лепш мець сваю світу, чым увесь час скардзіцца на адсутнасць світкі... Адсюль і разнабачанне Глобуса.

Адны даўно схільныя бачыць Глобуса толькі ў блакітным святле...



Для другіх ён — зялёны — пад колер даляраў, заробленых на “пірацкім” кнігавыданні.

Трэція ўспрымаюць яго выключна ў жоўта-бульварным акрасе...

Для мяне Адам Глобус — асоба шматколерная, разнамайтая: як навакольны свет, як само жыццё, як супервокладка з яго новай кнігі. То ён барселоніста-футбольны па вяртанні з іспанскай вандроўкі. То дыяментава-крыштальны, як гузік на ягонай кашулі, пасля паездкі ў Амстэрдам.То брунатна-карычневы і “смяротна” інфіцыраваны пасля малаазійскай адысеі...

Але скрозь калейдаскоп колераў і адценняў, на якія так багатая асоба аўтара “Тэкстаў”, вельмі выразна вымалёўваюцца дзве неаспрэчныя творчыя прэрагатывы — ягоны паэтычны “Парк”, з узгадванымі ў ім некалькімі анталагічнымі вершадрэвамі, і мястэчка “Койданава” — увекавечанае ў нашай літаратуры рукой самавітага майстра беларускай навелы — Адама Глобуса.

**P.S.** *Паставіў кропку і адчуў унутраную незадаволенасць сабой. Зразумеў, што калі скончу свае нататкі пра Глобуса такімі словамі, то міжволі пушчу па руках тую самую “фальшывую манету”, пра якую гаворыцца ў адной з ягоных кантамінацый.*

Чамусьці мне даўно карціць запытаць у Глобуса (як, дарэчы, у Сыса і Федарэнкі), ці ходзіць ён у царкву або касцёл...

## "Божа, забяры маю душу..."

Гэта адзіны радок, які я памятаю з Глобуса. Калі я набіраў яго на экране камп'ютэрнага манітора, у першым слове двойчы загадкава знікла першая літара... Насланнё?.. Аднойчы, праходзячы міма сталічнай крамы “Глобус”, я ўспомніў Адама і раптоўна, як з-пад зямлі, ён узнік перада мной. “Глобус, ты як Мефістофель”,— пажартаваў я тады. Дарэчы, тым днём ён падараваў мне сваю кнігу са схаваным за чорнымі акулярамі пранізліва-тагасветным паглядам.

І я не прамінуў пацікавіцца колькасцю старонак гэтага чырвона-мармуровага фаліянта. Аказалася — 1088. А я чакаў — 999... Іншым разам за адным бясседным сталом, пахваліўшыся прылюдна сваёй маладосцю, прыгажосцю і багаццем (аб чым

сведчылі ягоны дарагі гарнітур і швейцарскі гадзіннік на руцэ), ён раптоўна загаварыў пра зморшчыны ля маіх вачэй. "Мне хутка—сорак",—адказаў я і падняў пагляд на Глобуса. Зморшчын ля ягоных вачэй я не заўважыў. Яны былі ў саміх вачах... "Якая старая душа ў гэтага чалавека...",—падумалася мне тады.

"З д'яблам можна пагаварыць, паспрачацца, пажартаваць...", "Бог—гэта прадчуванне катастрофы..."—чытаю ў кантамінацыях Глобуса і ніякавею ад вар'яцкай думкі, што гэта і ёсць —голас з цемры...

Адам Глобус любіць абражаць... Аднойчы ён абразіў мяне, параўнаўшы мае вершы з "зэкаўскімі падзелкамі"— маўляў, рэчы прыгожыя, але ніякай мастацкай вартасці не маюць. У гэтых словах было столькі непрыхаванай злосці і ментарскага катэгарызму! І прагучалі яны ў далёкім 83-м, калі мы толькі пазнаёміліся з ім на адным з паэтычных семінараў, што ладзіліся ў Каралішчавічах. Шчыра кажучы, калі б не сяброўская падтрымка Алега Мінкіна, які адным з каралішчавіцкіх вечароў сабраў у сваім пакоі, па ягоных словах, самых таленавітых удзельнікаў семінара (усяго чалавек 7, але сярод іх разам з Глобусам быў запрошаны і я...), магчыма, цяпер бы я не меў ніводнага паэтычнага зборніка, ніводнага свайго магнітаальбома —настолькі глыбока параніла мяне ў той час глобусаўскае слова-прысуд. "Вораг—пераапрануты сябра..."; "Найгоршы вораг той, хто цябе прыніжае..."—скантамінуе ён пазней.

Калі я стаў думаць аб тым, з чым можна параўнаць паэзію і наогул творчасць Адама Глобуса, то адказ знайшоў у яго самога: "...люблю прагулянкі па могілках..."

Так і ёсць, творчасць Глобуса для мяне — тыя самыя могілкі, дакладней—Некропаль з яго манументальнай статыкай, мёртвымі штучнымі кветкамі і кантамінацыямі ў выглядзе "мудрых" эпітафій, са скразнымі радамі імёнаў сусветных славутасцей— своеасаблівы меморый чалавечага інтэлекту.

Дык вось адкуль той ледзь улоўны тагасветны скразнячок між старонак "Дамавікамерона" і лёгкі некрафілічны душок у шатах паркавых прысад паэзіі Глобуса! Вось адкуль ягоная схільнасць да " парафіну", "дзюралю", "пластыку", "азбесту" і "нейлону"; ягоная "рафінаваная бездакорнасць" і астатняя паэтычная "металургія"...






*Засталося простую работу*
*здзейсніць хірургічнаму нажу—*
*Не пашкодзіўшы лязом аорту,*
*замяніць сапраўдную душу...*

"Робіцца смешна, калі чуеш: "Не хапае душы... "Не ставаць можа розуму...",—пацвердзіць праз дзесятак гадоў Глобус-кантамінатар.

"Адам, чаму ты ўвесь час малюеш квадратных людзей?"—неяк запытаўся я ў Глобуса. І ўбачыўшы ў ягоных зрэнках скрозь шкло прыцемненых акуляраў абрыс надмагільнага каменя — жахнуўся...

## У чарзе па славу...

Сведчу, што аднойчы пры мне вядомая ў адраджэнскіх колах дзяячка з пафасным узвывам стала цытаваць на памяць Глобуса:

*Адчыніце ўсе дзверы,*
*Паламіце замкі,*
*Адпусціце ўсе душы*
*На чатыры бакі.*
*Паляцелі ўсе душы*
*На чатыры бакі,*
*Зачыніліся дзверы,*
*Іржавеюць замкі.*
*Я стаю на крыжы*
*Беларускіх дарог*
*І не бачу дзвярэй,*
*За якімі ёсць Бог.*

Значыць, гэта камусьці патрэбна? А з іншага боку —ёсць жа "дзівакаватыя "людзі, якія калекцыяніруюць магільныя кветкі... Назва гэтага верша " Скрыжаванне", але ён не менш эфектна выглядаў бы і пад назовам "Крэматорый"... Той, каму даводзілася бываць на Паўночных могілках, — мяне зразумее. Дарэчы, у Глобуса, як і ў Сыса, колькі я ні стараўся, так і не знайшоў ніводнага "жывога" верша пра каханне. Можа, таму, што адзін з іх ніколі не кахаў, а другі прывык купляць каханне за грошы?..

Дык хто ж ён, Адам Глобус, насамрэч? Вялікі літаратар ці

вялікі кампілятар? Антыфедарэнка, антысыс, "антыхрыст" сучаснай беларускай літаратуры ці папярэднік прышлай тэхнакратычнай, "абяздушанай" культуры? Галоўнае, што сёння мы маем у нашым літаратурным жыцці парадаксальную з'яву — беларускі глобус, ці дакладней — Глобус Беларусі...Чаго ён варты — пакажа Час.

**Эдуард АКУЛІН**

# МАСТАК

*Са жмені ў жменю*
*Няспынна і марудна*
*Сыплецца жарства.*
(А.Глобус. Парк.)

*Не разумееш — не асуджай.*
(А.Глобус. Кантамінацыі.)

*Маё пакаленне абвінавачваюць у маніі велічы, не бачачы, што гэта пачуццё ўласнай годнасці, пачуццё ягамосці.*
(А.Глобус. Смерць-мужчына.)

Ад самага пачатку знаёмства да сённяшніх дзён нашы ўзаемаадносіны так і засталіся прыстойна-прахалоднымі, як гэта зазвычай бывае паміж своеасаблівымі творчымі натурамі. Стасункаў, можна сказаць, і ўвогуле ніякіх не было. Хацеў напісаць: няма і сёння, ды своечасова адумваюся, бо што, як не літаратурныя стасункі, гэтая "крынічная" "постаць" Адама Глобуса, якую я "курыраваў" як рэдактар часопіса, асобнік якога, шаноўны чытач, ты трымаеш у сваіх руках...

Зрэшты, былі, ёсць і будуць паміж творчымі людзьмі і завочныя, духоўныя стасункі — нашы публічныя тэксты і кніжкі. Чытаем мы адзін аднаго ці не чытаем, а так ці іначай знаходзімся ў адным магнітна-сілавым полі літаратурнага працэсу...

Безумоўна, я магу крытычна ўспрымаць тэксты Адама Глобуса як жанрава, так і стылёва, але я не магу змусіць гэтак жа ставіцца да яго творчасці ўсю астатнюю літаратурную грамаду... Ды якраз дзякуючы такому неадназначнаму ўспрыманню мастацкага працэсу літаратура і застаецца жывой і дарэшты несмяротнай, бо ў кожным выпадку мае свой асабовы знак памяці пра канкрэтныя творчыя і літаратурныя з'явы, якія, у рэшце рэшт, і складваюцца ў адзіную мастацкую ІЛІЯДУ чалавецтва.

Адам Глобус — творца таленавіты і мастак неардынарны. Зглядзеўшы яго постаць здалёк на пустым заснежаным гарадскім пляцы, можна ўявіць сабе просты графічны аловак на белым лісце ватмана, па першапачатковым кірунку штрыха якога можна беспамылкова і дакладна вызначыць прамую лінію яго канчатковага шляху...

Ён — адмысловы графік, які ніколі не карыстаецца цыркулем ці лякалам. Усе яго лініі прамыя альбо ломана-вугольныя і, як вынік, — бясколерныя, аднатонныя і аднатанальныя... Цікава, што падобная рацыянальна-лаканічная творчая манера амаль пазбаўленая памылковых мастацкіх вырашэнняў...

Каб такім спрошчаным літаратурным метадам замахвацца на складаныя мастацкія задачы, трэба мець дастаткова аб'ёмны гістарычны досвед развіцця як нацыянальнай, так і сусветнай культуры і літаратуры. Глобус сваім адпрыродным чуйнанязманным нюхам адным з першых адчуў новы ход і рэзкую перамену постсавецкага літаратурнага працэсу на Беларусі. Прабачаюся, але, метафарычна кажучы, дзеля сваіх надзённых творчых і вытворчых мэтаў, пасля малапаваротлівага загнанага калгаснага коніка, запрэжанага ў цяжка нагружаны воз састарэлых сацрэалістычных ідэй, ён закілзаў для сябе шпаркага іначодца...

Інтэлігентная сям'я, мастакоўская адукацыя і жыццё сярод творчай багемы — усё гэта гарманічна уладкоўвала яго ўнутраны інтэлект. Аднак бракавала драматычнасці зямнога прасталюднага вопыту. Не было рэзкага лёсавага надлому і разлому ўнутранага духоўнага свету... Дзякаваць Богу, як чалавек ён пазбег жыццёвай драмы, але і вялікая драма Творцы, на жаль, абмінула яго таксама...

У творах мастака, не здольнага ўсумніцца ў праявах усяго жывога і існага, а тым болей у праявах свайго прыватнага быцця, наўрад ці варта шукаць неардынарных адказаў на спрадвечныя чалавечыя пытанні жыцця і смерці...

Я і не шукаю. Ды і сам ён не прэтэндуе, як некаторыя

нашы народныя, на месіянскае прароцтва і апостальскую нова-запаветнасць.

Ён — таленавіты і годны літаратар сённяшняга беларускага часу. У яго ёсць свой, немалы па нацыянальных мерках, малады, адукаваны і “продвинутый” чытач... Ёсць сям’я, праца і дабрабыт... Ён выдае розную літаратуру, дзякуючы чаму і сам *выдаецца з яе* настолькі, што гэта заўважна нават візуальна на фоне згалелай беларускай культурнай рэчаіснасці.

Жывучы сваім — багатым і living... 

Мы паразумеліся з ім, можна сказаць, яшчэ да сустрэчы, аднак пайшлі да адной і той жа дабрадзейнай мэты рознымі накірункамі... Спадзяюся, што калі-небудзь недзе мы ўсё ж сустрэнемся... бо, хоць і жывём па-рознаму, а — паміраем аднолькава...

Заангажаваны яго прозай апошняга часу, я ўсё ж па-сапраўднаму люблю яго паэзію. І хоць пра любімае, як і пра таемнае, разумныя людзі не словаблудзяць — я змушаны сказаць, бо паталагічна схільны да шчырасці. Чамусьці не запомніў яго вершаванага дэбюту і дакніжных публікацый. Таму пачну з размовы пра “ПАРК” — першы паэтычны зборнік Адама Глобуса. З перадсмяротнай прадмовай Міхася Стральцова. Мажліва, і памяць мая пра паэта Глобуса вырасла з лірычнай прозы яшчэ жывога Стральцова. А мо — на кантрасце трута і крэсіва...

І вось сяджу ўначы і “дымлю” распаленую імі лірычную піпку:

*Не глядзі ў парафінавы стаў —*
*Дзе пад лёдам згарэла лілея,*
*Над якім скавытаў і стагнаў*
*Незашпілены вецер завеі.*

*Паглядзі на вясновы пясок,*
*Што цячэ і цячэ праз пальцы;*
*І паслухай, як шашаль-жучок*
*Ціха точыць калону ў альтанцы,*
*Ціха рэжа азбеставы блок.*



Што ты адчуваеш сваёй дарэшты ўтомленай урбаністычнай душой, шаноўны чытач, бегла ўхапіўшы сваімі вострымі камп’ютэрнымі зрэнкамі гэтыя дзевяць не роўна падзеленых, але прафесійна зарыфмаваных вершаваных радкоў?

Калі ты нічога не бачыш і не адчуваеш, то я прапаную табе сваю ненавязлівую версію, хоць, пэўна, вельмі далёкую ад аўтарскай. Але на тое аўтар і мастак, каб незаўважна для сябе тварыць для іншых. Таму ўласна мне ў першым чатырохрадкоўі “бачыцца” не надта яшчэ аддалены вобраз паэта Міхася Стральцова, а ў другім — ужо самога аўтара, будучага празаіка Адама Глобуса. Менавіта адтуль, на мой погляд, — з савецкіх перабудоўчых часоў — пачаў, як шашаль, “прарэзвацца” праз гэты беларускі “суверэнны натоўп” незалежны СМЕРЦЬ-МУЖЧЫНА!

Паважаю мужнасць слабых. Але пасміхаюся са скрухі двурушнікаў. Таму цытую яшчэ. Няўжо і гэта яго?

*Я спяваю і слухаю песню,*
*Выдумляю, складаю казкі,*
*І надзею на лепшае пешчу,*
*І чакаю любові і ласкі.*

Зрэшты — мажліва. Бо хто ведае нас у той час, калі мы і самі не ведаем і не разумеем сябе?!

Але ўжо калі зведаў, з якім д’яблам у сэрцы і анёлам у душы ты жывеш, то нікому да скону не скажаш таго, і нават напішаш менш, чым скажаш на споведзі, дый на самой споведзі запалошна зашэпчаш да незразумеласці існае і праўдзівае ў табе...

*Я той, у кім заблыталіся страсці,*
*Хто хоча працай выратаваць хворых,*
*Хто не паспеў пакуль яшчэ упасці,*
*Той, хто змяшае разам радасць з горам.*
*.....................................*
*Я там, дзе крышаць неба самалёты,*
*Дзе цягнікі руйнуюць рэшткі цішы,*
*Дзе чалавек пакутліва-самотны*
*І дзе не можа быць ніякі іншы.*

Адсюль, напэўна, халоднай вужакай запаўзала ў аўтарскую душу тая яго “АДЗІНОТА НА СТАДЫЁНЕ”...

А з глыбокага крынічна-чыстага дна такіх сцюдзёных вершаў, як "Казік", "Брат", "Рэгіна", "Бронік", высвечваецца дзіцяча-помнае станцыйнае "КОЙДАНАВА"...

І як тут урэшце не паверыш, што:

*Лірыка — гэта касмічная станцыя,*
*Здатная ажыццявіць узнясенне,*
*Вылепленая з пялёсткаў акацыя,*
*Клямка, намацаная ў цёмных сенях,*
*Рытмамі створаная дэкарацыя*
*Для азарэння і ўваскрасення,*
*Дадзеныя на хвіліну вакацыі,*
*Ліпеньскі водар асфальту і сена...*

Выдзяленне "асфальту і сена" маё. Начытаным тлумачыць не буду. Таму вяртаюся да прадмовы зборніка "ПАРК", трапна названай Міхасём Стральцовым "СЛОВА І АБРЫС". (Не стрымаюся і зноў дам волю свайму ўяўленню: *слова* — то слова, прабачаюся за таўталогію, стральцоўскае, а *абрыс* — глобусаўскае?) Не буду сцвярджаць катэгарычна, бо ўсё аднасна...

"А.Глобус часам нібы баіцца даверыцца душэўнаму, аўтабіяграфічнаму вопыту і больш пакладаецца на паэтычны прыём, больш націскае на лінію, на прыкмету, на абрыс, на канструкцыю, урэшце, а гэта азначае ў выніку — на сам працэс пошуку, калі-нікалі забываючыся, што чытача найбольш цікавіць не пошук, а ўражлівы і паўнацэнны вынік", — піша Стральцоў, але не забываецца заўважыць са свайго "алімпу", што "і гэта добра", калі яно гарманічна спалучана з усім астатнім. Аднак "вучань" і праз дзесяць гадоў, хоць і казённа, але ўпарта пярэчыць "настаўніку": "Галоўнае ў творчасьці — наладжваньне працэсу, а не канчатковы прадукт". Ды яшчэ і дадае наўздагон у адным сваім афарызме, што месціцца ў яго "КАНТАМІНАЦЫЯХ" непадалёк ад папярэдне згаданага: "Здатнасьць мастака да пераўвасабленьняў і вызначае працягласьць творчага жыцьця"...

Ад паэтычнага "ПАРКА" да празаічна-беспардоннага "ДАМАВІКАМЕРОНА" было яшчэ, ой, як далёка. Але ўжо вельмі блізка да разумення аўтарам уласнай творчай сутнасці,



сумнага разумення для кожнага самакрытычнага і годнага літаратара...

І гэта ў той час, як усё яго стваральнае жыццё, няхай сабе і празаічнае, па вялікім рахунку, было (і ёсць!) яшчэ наперадзе...

Бо: "Колькі мне казалі: "Не распавядай ты пра паэтаў, пішы пра людзей простых". Але з усіх станоўчых вызначэнняў беларуса я пагаджаюся толькі з адным: беларус — паэт. Бо ўсе гэтыя: *сціплы, лагодны, зычлівы,* вельмі ўжо лёгка пераварочваюцца ў *баязлівы, млявы, абыякавы...* Але не ў гэтым бяда, а ў тым, што сягоння герой нашай нацыі — паэт і толькі паэт, пясняр кахання. І хай сабе розныя сябры БНФ (Беларускага народнага фронту) мне не павераць. А я буду настойваць: беларус толькі тады беларус, калі ён паэт, і тутэйшы адно настолькі беларус, наколькі ён здатны разумець вершы".

Так ідэнтыфікуе сваіх крэўных братоў па Айчыне Адам Глобус. А паколькі ўсе яны і мае браты па няшчасці, то на гэтай вузкай сцежцы паразумення мне з аўтарам, нарэшце, можна было б і сысціся... калі б я своечасова не пакінуў пісаць вершы...

Ды, думаецца, усё адно нікуды мы з ім не падзенемся ад суровай прозы жыцця, якая ўсё-ткі звядзе нас аднойчы самнасам...

І ці не з гэтай прычыны час ад часу непакоіць мяне яго колішняе выслоўе: "Чытача можна падмануць толькі адзін раз, а потым даводзіцца мяняць псеўданім".

Крый Божа...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# Рэйтынгавы Глобус

Мой допіс "Рэйтынгавы Сыс", друкаваны "Крыніцаю" раней, грунтаваўся на арыфметычным падліку вершаў, якія мае студэнты выбіраюць для завучвання на памяць. Папярэдняя дамова з імі: верш павінен "класціся на сэрца".

Глобус, апроч вершаў, стварае тэксты ў іншых жанрах: ад караделек-"постскрыптумаў" і хайку да працяглых навелаў, якія на памяць аніяк не вывучыш. Спрабую крэсліць кардыяграму чытацкіх прыхільнасцей або непрыхільнасцей на падставе асабістых, а значыць, і суб'ектыўных назіранняў. Мне гэта лягчэй рабіць, бо абыякавых да Глобусавай творчасці мала — ганяць адны, хваляць іншыя, а чытаюць тыя і гэтыя.

Мініяцюру "Мама і запалкі" не зганіў ніхто. Мама дае шасцігадоваму Вову сем запалак, каб не згубіўся па дарозе да бабы Ядзі. На кожнай станцыі хлопчык ламае па запалцы і шчасліва прыбывае на станцыю Койданава. Памятаю: гадоў пятнаццаць таму інтэлектуальная сябрына Акадэміі навук сустракалася з маладым Глобусам у Інстытуце гісторыі, і ўсе агулам хвалілі гэтую карацельку. Чаму? Можа, таму, што яна вылучалася сваёй традыцыйнасцю на фоне авангардысцкіх спробаў аўтара? Або прыгадвалася андэрсэнаўская "Дзяўчынка з запалкамі"?

Яшчэ ніхто не пахваліў "Гісторыю ка́та". "Я-герой" узгадвае, як калісьці катаваў і вешаў ката. Апісанне здзеку над няшчаснай істотай — на мяжы літаратурнага фолу. Або па-за рысай.

Мяркую, жыхарам Дзяржынска даспадобы койданаўскі цыкл апаведаў і вершаў. Сам чуў, праязджаючы электрычкаю памянёную станцыю, як адна мясцовая бабуля спявала радок, тыражаваны "Бондай": "На станцыі Ко-о-ойданава-а..."

"Дамавікамэрон" падабаецца, як кажуць, толькі мужчынам. Адрасаваны ім, як гавораць. Але паспрабуйце скажыце пра гэта нашым фемінізаваным паненкам! Яны справяць: "Гвалт!" і "Дыскрымінацыя!" — і пабягуць шукаць першую кнігу ў беларускай літаратуры, якую трэба хаваць ад дзяцей.

Затое аповесць "Артэк" не трэба хаваць ад юнага чытача. У ёй распавядаецца пра піянера-героя брэжнеўскіх часоў, які пусціў юшку аднагодку за тое, што не паважаў Беларусь. За гэта Вовачку не пусцілі на дыскатэку.

Магу меркаваць, што творы з цыкла "Новы дамавікамэрон" не падабаюцца іх рэальным прататыпам, якіх Глобус змяніў у дэманаў новага часу.

Вось верш, які даспадобы Анатолю Сысу; на вечарынах ён просіць Глобуса чытаць яго. Называецца верш "Браты":

*На гары валуны гудуць.*
*Хмары шарая каламуць*
*Зверху падае на зару,*
*Абдымае, хавае гару.*
*Пад гарою гарыць агонь.*
*Праз агонь скача чорны конь.*
*На кані тым сядзіць салдат.*
*Пад гарою ляжыць яго брат.*
*Кліча коннік: "Мой брат, устань!*
*Будзем разам змагацца са злом,*
*Назавём нашу справу дабром!"*
*Узнялася чырвоная здань,*
*Засіпела змяёю зямля,*
*Брату брат крыкнуў: "Зло ж гэта — я!"*

Твор, за які я ўдзячны Глобусу, — ягонае кароткае эсэ пра купалаўскага "Хлопчыка і лётчыка". У свой час я таксама раздумваў пра тое, што магло здарыцца з хлопчыкам пасля ягонага палёту над Крамлём. Купала абарваў радок — напэўна, самалёт упаў, як піша Глобус. Праваднр, магчыма, не ўпадабаў, што нехта кружляе *над* ім ды яшчэ нешта крычыць з самалёта "ўсімі грудзьмі". Студэнты ўжо сёння смеючыся называюць хлопчыка Рустам сталінскае эпохі.

Мне гэты вобраз дапамагае думаць пра Купалу трыццатых гадоў, з якім улады спрабавалі паводзіць сябе, як з хлопчыкам ("у дзіцячы хадзі адно сад"), а ён ірваўся да нейкага выраю, дзе "іншы парадак і лад".

У барацьбе з асяроддзем, матэрыялам або сабой мастакі часам адмаўляюцца ад сваёй дарослацсці і пераўвасабляюцца ў дзіця, паслухмянае або не, лагоднае або калючае. Магчыма, ім так лягчэй. Але гэта ўжо іншае, не рэйтынгавае меркаванне.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

# Пра Глобуса за бутэлькай лёгкага віна

Я: — Як вам Глобус?

Н: — Калі праўда, у мяне Глобус выклікае вось такую асацыяцыю. Нарадзіўся хлопчык у сям'і музыкантаў. З самага маленькага ўзросту ім займаліся лепшыя педагогі на лепшых інструментах. Скрупулёзна адпрацоўваючы кожную нотку, кожны гук. У выніку ён вырас. Дзякуючы імёнам бацькоў стаў удзельнічаць там, сям. У тых конкурсах, сіх. I ніхто ні разу не задумваўся аб тым, што музычнага слыху ў хлопчыка няма.

Я: — Хачу прывесці думку Разанава пра відушчасць змяркання, відушчасць няпэўнага часу. Так і Глобус, нарадзіўшыся як бы на памежжы (і часавым, і культурным), ужо ад пачатку меў "відушчасць". Ён пастаўлены быў у такое месца, адкуль своеасабліва відаць...

Н: — Тут не ў месцы справа. Справа вось у чым: хібы таго, што для цябе сваё, твайго роднага асяродку меней за ўсё заўважаеш. А той, для каго гэты асяродак не ёсць адзіны ў свеце родны, ён можа нешта бачыць...

Я: — ...Але потым ён стаў вычэрпвацца: спрабаваў пісаць і пра тое, і пра гэта, і гэтак, і так, і "хвастом", і "левай нагой". Ужо пісаў не ад таго, што хацелася нешта выказаць, а ад таго, што хацелася пісаць.

Н: — А мне падаецца, у яго заўжды гэта было механістычна. I толькі, наадварот, у апошні час ён прабіўся да нейкага псіхалагізму.

Але менавіта ён быў адной з першых ластавак у тым сэнсе, што з яго падачы беларуская літаратура пачала пераставаць быць вясковай, быць лапцюжнай. Шмат каго гэта адштурхоўвала — тэматыка. На гэты конт у Семашкевіча: "У творчасці класіка такога-та, у цэнтры ягоных твораў стаяў мужык. Пяць год у цэнтры стаяў і стаяў той мужык. Хоць бы прысеў ці прылёг". Вось гэта шмат каго адштурхоўвала ад беларускай літаратуры. А ў цяперашні перыяд у беларускую літаратуру сталі прыходзіць гарадчукі ў другім пакаленні, у трэцім. Ім пра вёску ад пачатку было нецікава. Глобус быў адным з першых, хто паказаў, што і не так можна.

Я: — Глобус ствараў местачковую літаратуру. Тое ж "Койданава". Гэтаму аддалі даніну многія з яго пакалення: свет мястэчка.

Н: — Так, такая з'ява ёсць.

Я: — А вы заўважылі, колькі смерцяў у творах Глобуса? Я пра тое, што яму ўсё роўна...

Н: — Менавіта абыякавасць аўтара да сваіх герояў. Таму яны так лёгка паміраюць. Таму не шкада, што яны паміраюць. Таму іх можна забіваць, як мышэй, сотнямі.

Я: — Кніга "Койданава" мне ў першую чаргу была цікавай, бо Койданава — гэта ў нейкім сэнсе і мой горад.

А як вам кніга "Дамавікамэрон"?

Н: — Я вось скажу: сканструяваная, зададзеная.

Т: — У "Толькі не гавары маёй маме" адчуваецца, што яна напісана толькі для таго, каб падтрымаць сваю папулярнасць. Увогуле ад гэтай кнігі я чакала большага. Гледзячы на яе прыгожае афармленне, так хочацца яе прачытаць. Але потым было нешта накшталт расчаравання. Мне здаецца, што ён (Глобус) большага дасягнуў бы, калі б усе сілы паклаў на нешта адно. Калі б ён займаўся нечым адным.

Я не згодная, што ў яго "музычнага слыху" няма. Да таго ж музычны слых развіваецца. Іншая справа — можна гаварыць наконт яго мастацкіх арыенціраў.

Н: — Проста яму сваіх герояў не шкада. Яны неяк ад пачатку папяровыя. Але, разам з тым, абсалютна не згодная, што, займаючыся толькі адной галіной, можна нечага дасягнуць. Наадварот, мне падабаецца, калі чалавек мнагапланавы. Плюс да таго, талент яго (Глобуса) несумненны як выдаўца. Выдаўцоў многа. А паспяховых выдаўцоў?

Але тут (Т.) заліла свой швэдар ужо памянёным віном. Мы перапынілі размову і заняліся іншым.

**Занатаваў Усевалад ГАРАЧКА.**

# Квадратура пляскатага глобуса

*Літаратурна-крытычнае эсэ ў трох раздзелах*

*Прыгажосць мае крышку мінорнае адценне.*
**(Адам Глобус. Кантамінацыі. С.9.)**

**РАЗДЗЕЛ 0, альбо ўвогуле ніякі, які варта было б назваць “уводзінамі”, але пэўная спецыфіка прадмета даследавання патрабуе прытрымлівацца некаторай асцярожнасці, каб надта кемлівыя чытачы не зразумелі надзвычай двухсэнсоўнай, але з якога ўсё ж можна аб нечым даведацца.**

Нуль, як надзьмуты паветраны шар, нагадвае глобус.

Таму ў дадзеным эсэ не ставіцца мэтай абвяржэнне пэўных тэзісаў, якія, на першы погляд, не вытрымліваюць крытыкі, што выклікае гарачы пратэст сапраўдных знаўцаў (літаратуразнаўцаў, безумоўна, якія павінны імкнуцца нібы да “максімальна аб’ектыўнай ацэнкі”) і г.д. і да т.п. У пятым нумары *“ARCHE”* (2000) была дасягнута пэўная спроба акрэслення межаў поля даследаванняў літаратурнага даробку А.Глобуса і былі зроблены вынікі, з якімі, несумнеўна, павінен суадносіцца кожны, хто збіраецца даследаваць сучасную беларускую літаратуру праз прызму творчасці Адама Глобуса, хаця “прызма” як геаметрычная фігура не выглядае трапнай, можа, крышталёвая куля? Здаецца, з гэтым спінозаўскім *more geometricae* таксама не варта перабольшваць; нам, такім, прапануецца разгледзець постаць Беларускага Сэлінджэра (Надзя Садзікава пасля пільнага прачытання “Тайнапісу Сэлінджэра” зрабіла бліскучую выснову, што восем аповесцей з кнігі “Толькі не гавары маёй маме” А.Глобуса — гэта “Дзевяць апавяданняў” Дж.Сэлінджэра, а што адной не хапае — дык гэта няважна, значыць, праяўляе сваёй адсутнасцю, для сапраўднага будыста толькі ў маўклівасці праяўляецца слова), Кубафутурыста (П.Васючэнка заўважыў, што і героі як паэтычных, так і празаічных твораў А.Глобуса нагадваюць геаметрычныя фігуры, ды і гумар нейкі ў яго плоскі) і, урэшце, Наміналіста (А.Савіцкі параўнаў А.Глобуса з тымі схаластамі-дэкадэнтамі, якія пракладвалі шлях да нігілізму, сцвярджаючы, што універсальныя паняцці (паміж якімі былі і Праўда, Дабро, Прыгажосць і г.д.) — толькі назвы — *potepa*). Наміналіст В.Акам раіў пладзіць новыя існасці толькі ў разе канчатковай неабходнасці, таму будзем лічыць найлепшымі дабрачыннасцямі пільнага літаратурнага аналітыка сціпласць і ўмеркаванасць, а нуль можна мінімалізаваць, скажам, да памераў кропкі і паглядзець, што з гэтага атрымаецца.

**РАЗДЗЕЛ 1, у якім упершыню ў беларускай літаратуры прадстаўляецца эпіграма на пісьменніка Адама Глобуса, якая складаецца з адной кропкі.**

*Чытача можна падмануць толькі адзін раз, а потым даводзіцца мяняць псеўданім. (С.18.)*

У слове "Глёбус" паставіць кропку перад “Ё”.

**РАЗДЗЕЛ 2, у якім як бы падаецца каментар да раздзела 1.**

*У пасрэдных людзей ёсьць патаемны пароль: прэч заслугі. І калі ты хоцьн на крок выйдзеш наперад, дык адразу пачуеш за сьпінаю абразы й зьнявагі, якія выканае хор пасрэднасьцяў.*
(Кантамінацыі. С.12.)

Безумоўна, першы раздзел гэтага эсэ самадастатковы і цалкам мог бы выступаць у якасці самастойнага твора, але ў

часопісе "Крыніца", дзе, нягледзячы на пэўныя зрухі ў бок лібералізацыі, ганарары плацяць не за якасць, але за колькасць знакаў, прэмія за лаканічнасць увогуле ніколі не была прадугледжана, таму варта перайсці адразу да трэцяга раздзела, дзе і будуць выказаныя асноўныя крытычныя думкі да творчага лёсу беларускага пісьменніка Адама Глобуса.

**РАЗДЗЕЛ 3, дзе даецца спроба крытычнага аналізу творчасці мастака, паэта і празаіка Адама Глобуса і робяцца прадказанні магчымых наступстваў яго літаратурнай і грамадскай дзейнасці.**

*Кантамінацыі — афарызмы, якія робяць жарт, што яны выглядаюць як афарызмы.*

*Лепш пішы на пяску.*

**(Архімед Сіракузскі.)**

Што такое Глобус для беларускай літаратуры?

Відавочна, нават няўзброеным вокам, што больш за ўсіх здзівіла б звестка пра "эпіграму" з першага раздзела самога Уладзіміра Адамчыка, бо нічога такога яму б і не прымроілася, калі той друкаваў свае першыя паэтычныя творы пад псеўданімам *Адам Глобус.* Славу, і славу скандальную, пісьменніку прынеслі правакацыйна-"эратычныя" навелы, якія трапна і своечасова задаволілі попыт пэўнай групы спажыўцоў беларускай літаратуры. Безумоўна, Адам Глобус быў ужо на час напісання "Дамавікамэрона" аўтарам некалькіх кніжак вершаў, а некаторыя з вершаў нават сталі песнямі ў выкананні "Новага Неба" і іншых гуртоў, прызнаны бамондам, чытаемы аўтар часопіса "Крыніца", амаль дзяжурны пісьменнік газеты "Наша Ніва", часопіса *"ARCHE"* і г.д. Аднак сваіх братоў па пяру Адам Глёбус пераўзышоў як аўтар *скандальны.* Эпатаж — раздражненне чытача, казытанне нерваў, шок, дагэтуль невядомыя ў беларускай літаратуры, прымат формы над зместам -- дапамог аўтару заняць сваё адмысловае месца ў айчыннай літаратуры. Узгадваецца адна показка пра ўжыванне эротыкі з рэкламнымі мэтамі:






*"Маладая настаўніца геаграфіі першы дзень у школе, не можа звярнуць на сябе ўвагу вучняў, са слязьмі на вачах бяжыць да дырэктара. Той суцяшае яе, пытаецца, пра што тэма заняткаў: "Пра... глобус..." — адказвае праз слёзы бедная "вучылка". "Добра, я вам пакажу, як трэба зацікавіць дзяцей, хадземце!" Яны ўваходзяць у клас, тады адбываецца наступны дыялог: "Прывітанне, снуркі!" — "Здароў, стары бот!" — "А хто мне скажа, хто гандон на глобус нацягнуў?" У класе настае мёртвая цішыня, і толькі адна маленькая дзяўчынка падымае руку і пытаецца: "А... скажыце, калі ласка, што такое... глобус?" — "А вось гэтая мяцёлка будзе ў вас геаграфію весці, яна і раскажа!"*

Але поле дзеяння Глобуса — не геаграфія, нягледзячы на шматлікія падарожныя нататкі, а геаметрыя. Мастацкая геаметрычнасць Глобуса-паэта, як гэта заўважыў Пятро Васючэнка ("*ARCHE*", 5-2000, с.64: "Кубістычны вершнік атакуе кубістычнага цмока, замест мяча ў руцэ вершніка кубістычная галінка"), ці прамалінейная геаметрычнасць уражвае, нахабна кідаецца ў вочы, бянтэжыць больш, чым проста аголенае, непрыкрытае, як трохвугольнікі і кружкі з дзвярэй прыбіральні на авангарднай карціне, а не каляровыя фотаздымкі ў аж да прыстойнасці непрыстойнага часопіса. Нас цікавіць, чаму, аднак, "вербальны тэкст замяняецца выявай"? (П.Васючэнка. Тамсама.)

Барыс Гройс (Гройс Б. Утопия и обмен. М.; Знак, 1993) пазначыў, што ўся тэорыя супрэматызму, пабудаваная Малевічам дзеля тлумачэння свайго метаду, з'яўляецца празмернай і, па сутнасці, непатрэбнай. Больш істотным выдаецца сам факт яўлення геаметрычнай (прафаннай) фігуры ў выглядзе карціны. Даследчык неаднаразова падкрэслівае, што мастацкім творам з'яўляецца не сама карціна, а гэтая пераацэнка каштоўнасцяў, якая (у выпадку з Малевічам) адбываецца ў наступстве перанясення прафаннага геаметрычнага элемента ў поле культуры.

"Прафаннага элемента" (тут — геаметрычных фігур) у творчасці Адама Глобуса зашмат. Глобус-мастак праілюстраваў дзіцячую кніжку пра дзікае паляванне, дзе трохвугольныя вер-

шнікі скачуць на квадратовых канях. У апавяданнях Адама Глобуса адбываецца аўтаматычнае спалучэнне тых самых геаметрычных фігур: пляскатыя квадраты і трохвугольнікі спалучаюцца з такімі ж пляскатымі трохвугольнікамі і квадратамі, гэта нават не "капуляцыя хатніх мухаў альбо лускакрылых", як піша А.Савіцкі (*"ARCHE"* 5—2000, с.70). Тут няма мужчын і жанчын, і ўвогуле жывых істот. Тут няма плоці — толькі пратэзы. Затое ёсць ідэя.

Нават нацыянальная: рэпетытарка збэсціла вучня і змусіла яго да садамазахісцкай оргіі за тое, што той не паставіў у хатнім заданні адпаведную колькасць бел-чырвона-белых мяккіх знакаў ("Рэпетытарка". *"ARCHE"*. №5. 2000). Рэктар са сваім непаўналетнім каханкам назіраюць праз акно за бойкай апазіцыйных баевікоў з атрадам АМАПаўцаў. ("Рэктар". "Форум лямбда". 2001). Зрэшты, розніца паміж схематычным персанажам і так званым "рэалістычным" героем не так істотная:

"Трохкутнік і Гамлет маюць адзін і той самы радавод. Яны — дзеці шалёнай сям'і. Так сцвярджаў Артэга-і-Гасэт, а пад "шалёнай сям'ёй" меў на ўвазе фантазію людзей.

А квадраты хутка ўжо будуць адзначаць свой стогадовы юбілей "жыцця ў мастацтве". Сам аўтар выдатна ведае пра гэта і між іншымі шчырымі прызнаннямі-стрыптызамі не саромеецца прызнацца ў сваёй прыхільнасці да такіх простых рэчаў, як квадраты: *"Дарэчы, чорны квадрат зь белым чэрапам і перакрыжаванымі пад ім косткамі таксама вабіў мяне. Анархізм, індывідуаль-анархізм, ці, найлепей сказаць: эгаанархізм прыцягваў сваімі набыткамі ў галіне мастацтва. Я зачытваўся Альбэрам Камю, мяне натхнялі палотны авангардыстаў 10-х гадоў, усе гэтыя хлопцы з "бубновых вальтоў" дый сініх коньнікаў"*. ("Толькі не гавары маёй маме". С.81.)

"Геаметрычныя", ці мінімалістычныя, накірункі ў мастацтве ўзніклі ў перыяд гарачых спрэчак паміж тымі, хто лічыў, што творам мастацтва можа быць тое, што, прынамсі, звонку нагадвае твор мастацтва. Авангардысты прадстаўлялі радыкальную містычную плынь, у якой яшчэ не адмаўлялася ў існаванні "істоты" рэчаў — ёсць нешта, дзякуючы чаму квадрат Малевіча ці пісуар Дзюшана — мастацкі твор, а "жанчына з вяслом" у парку ці "Ленін на суботніку" — смецце. Квадрат, нават кропка, намаляваныя ў адпаведным месцы, у адпаведны час і за адпаведнай інтэнцыяй, становяцца творам мастацтва. (Бываюць, безумоўна, і кур'ёзныя выпадкі, калі выстаўляецца жывапіс шымпанзе і шызафрэнікаў, але і тыя, і другія павінны быць сапраўднымі.)

"*Нават падробка пад мудрасьць — ужо філязофія. Казаў Дыяген Сынопскі... Сапраўды, каб навучыцца нешта рабіць, спачатку неабходна ўмець тое нешта падрабляць*". (С.84.)

Падроблены "чорны квадрат"? А чаму не? Калі адзін (Аляксандр Брэнер) здзейсніў акт вандалізму перад карцінай Малевіча, чаму нехта не можа са з'едлівым сарказмам перайманць стыль састарэлых "рэвалюцыянераў духу", калі гэткі мінімалізм дапаможа схаваць інтэлектуальнае ўбоства і адсутнасць уласных творчых ідэй? Сам гэты прыём, між тым, сведчыць аб пэўным творчым пошуку — не кожны паэт адважыўся б перастаць пісаць вершыкі пасля такога адносна вялікага поспеху, так і крапаў бы пра аксамітную котку да скону. Сэнс афарызму, калі яго паўтарыць і яшчэ паўтарыць, падвойваецца і нават патройваецца. Для чытача, які прывык давяраць усяму, што надрукавана на паперы, шматзначнасць слова — пошукі чорнай аксамітнай коткі ў чорным пакоі, калі яе там даўно няма. Можна сказаць, што творы Адама Глобуса адзначаны лэйблам "падроблена Адамам Глобусам", і гэта — "трайд марк", а не "яўка з павіннай". Паспрабуйце так напісаць, пасля выдаць і дачакацца такога ж выніку. Паспрабуйце перачытаць Адама Глёбуса. Таксама цяжка.

"*Люблю Вавенарга яшчэ і за тое, што ягоныя "Фрагменты" й "Афарызмы" чытаў і цытаваў мой бацька*". (С.114.)

Яшчэ адзін крытэрый мастацкасці — "клінамэн" (адхіленне). Мастак, падобна атамам Эпікура, не проста паўтарае траекторыю сваіх папярэднікаў (традыцыйнасць), але і праяўляе самастойнасць — адхіляецца ў той ці іншы бок (цікава, што па-польску слова "збачэнец" азначае вычварэнца, а не таго, хто зварочвае ўправа ці ўлева ад мэйнстрыму). Уладзімір Адамчык не толькі з'яўляецца прадаўжальнікам літаратурнай традыцыі беларускай літаратуры, ён літаратар у другім пакаленні.

З'ява хаця і рэдкая, але за некалькі апошніх стагоддзяў існавання літаратуры як жанру можна наскрэбсці колькі там прыкладаў, каб скончыць гэтае і так ужо надта зацягнутае незвычайнае эсэ. Ягор Радаў, сын славутай паэткі Рымы Казаковай. Піша скандальныя аповесці, насычаныя нецэнзурнай лексікай. Уільям Бэрроўз-малодшы. У адрозненне ад таты-гомасексуаліста, яшчэ і наркаман. Памёр ад перадазіроўкі. Сын французскага пісьменніка Крэбійёна праславіўся скандальна-эратычнай аповесцю "Канапа", за што быў нават выгнаны з Францыі і хаваўся то ў Галандыі, то ў Швейцарыі, як Русо і Вальтэр. Аднойчы на званым банкеце Крэбійёна-бацьку спыталі, які са сваіх твораў ён лічыць найбольш удалым. Той адказаў, паказваючы на сына: "Ва ўсякім выпадку, не гэты", на што Крэбійён-сын адрэагаваў наступным чынам: "У дадзеным выпадку, шаноўны тата, аўтарства вам яшчэ трэба будзе давесці!" Здаецца, беларускай літаратуры трэба будзе пастарацца, каб давесці сваяцкія адносіны са сваім надта ўжо самастойным "сынам". Так, бываюць прыклады ў літаратурным бамондзе, калі ў "прыстойнага" пісьменніка сын не зусім укладваецца ў рамкі. Можна ўзгадаць прыклад Андрэя Скарынкіна (як няўдалы). Лявон Вольскі, магчыма, шчаслівае выключэнне: тата — казачнік, сын — таксама спявае для падлеткавай аўдыторыі свае рок-казкі. Хаця тут яшчэ пытанне: хто больш зрабіў для папулярызацыі мовы ў маладзёвым асяроддзі — Адам Глобус са сваімі дамавікамі ці рок-зоркі, накшталт Лявона Вольскага з гуртом "НРМ". Але фактам застаецца тое, што Глобус аўтар чытаны і вядомы. "Прынамсі, яго прачытаюць", — як трохі цынічна заўважыў П.Васючэнка. А гэта не так мала. Праўда, перачытваць не будуць. Не Сэлінджэр, як ні спрабавала давесці сп. Надзя Садзікава, а можа, такі і павінен быць беларускі Сэлінджэр (можа, гэта наша доля такая? кожны народ мае такіх сэлінджэраў, якіх заслужыў)? Усе рэцэпты дадзеныя, каб пісаць псеўдабудыйскую прозу, трэба прачытаць "Тайнапіс Сэлінджэра" якія таямніцы! няма ніякіх таямніц! можна купіць любы ноў-хаў (*нават падробка пад Сэлінджэра — ужо Сэлінджэр*), а каб стаць інтэлектуалам, трэба купіць чорны капялюш, каб выдаць цагліну на 1000 старонак з усімі сваімі творамі, трэба мець свае выдавецтва. Усё гэта ёсць у Адама Глобуса. Шчаслівы чалавек! Каб сустрэць годную старасць.

***P.S.*** Дарэчы, Сэлінджэр пасля "Дзевяці апавяданняў" надоўга замаўчаў і застаўся неразгаданай загадкай для наступных пакаленняў літаратурных аналітыкаў. Добры прыклад! Ці не пара паставіць кропку?

**Дзмітрый СЕРАБРАКОЎ**

# Пра імкненне ўверх, і не толькі

Аднойчы старажытнакітайскі філосаф Мэн-цзы сказаў: "У добрага кіраўніка дзяржавы старыя апранаюцца ў шоўк і ядуць мяса, калі захочуць". Мяркуючы па ўсім, на кнігах падобнага зместу і гадаваўся будучы беларускі пісьменнік Адам Глобус. Добра было б, каб такіх, як ён, станавілася ў нас больш. Бо зроблена ім для беларускай эканомікі і культуры ўжо шмат; прадпрымальнік, літаратар, А.Глобус працягвае працаваць у тым жа рэчышчы, прыносячы значную карысць усяму нашаму грамадству. Але не кожнаму дадзена быць такім, як ён. Многія зайздросцяць. А вось я кажу шчыра: не зайздрошчу — бяру за ўзор. Арганізаванасці, моцы духу, сілы характару. Мала таго: калі б Бог даў мне сына, я выхавала б яго, напэўна, падобным на А.Глобуса. Шчаслівая маці, якой ніколі не будзе сорамна за сваё дзіця, бо яно не здолее нарабіць глупстваў, заўсёды будзе мець і на хлеб, і да хлеба. Можа, адзін з сакрэтаў выхавання супер-бізнес-герояў у тым, каб часцей завітваць да касцёла?..

Але думаю і яшчэ пра адно: ці ж не сумна Адаму на сваім Алімпе, дасягнутым вельмі рана, у маладыя гады? Здагадваюся, што сумна. *"И скуч-*

*но, и грустно...”* Вось у гэтым прахалодна-абыякавым алімпійскім спакоі — уся сутнасць мастацкай і літаратурнай творчасці А.Глобуса. Нехта запытае: як гэта так, у пісьменніка яшчэ і два сыны таксама пісьменнікі? Ды проста выйсця іншага не было! І здарылася... Як быццам некаму ад таго кепска... І наконт г.зв. “заходнікаў” скажу коратка: яны разбілі мне сэрца. Колькі б іх ні было ў маім жыцці. (На “не-заходнікаў”, праўда, я і не глядзела.)

Калі даводзіцца браць у рукі “Нашу Ніву”, з асаблівым задавальненнем чытаю там у першую чаргу творы В.Шніпа і А.Глобуса, надрукаваныя ў гэтым штотыднёвіку. Аднак Адам ужо даўно і сам — выдавец, рэдактар. Штодня ён выдае па некалькі раманаў (не сваіх уласных, зразумела). Рэдагуе часопіс *“ARCHE”*, які набыў шырокую вядомасць у чытачоў. І піша прозу. Вельмі патрэбную, бо — створаную незакамплексаваным чалавекам (але *правільна* выхаваным). У ёй ён уяўляе сябе ў ложку з ангелькай, падарожнічае, разважае, карацей, жыве ў слове. Цікава, ці працягвае А.Глобус-бізнесмен малявацъ? Ён жа па адукацыі мастак (вось так, пачаўшы з рамантыкі безграшоўя, можна дасягнуць вышыняў дабрабыту).

Сярод маіх знаёмых няма ніводнага, хто не чуў бы пра нашага героя. Многія працавалі на яго (і на сябе ў тым ліку). Хто захапляецца, хто лае. Абыякавых не сустрэнеш! Для ўсіх гэты А.Глобус — як стрэмка ў воку. Ці малайчына ён, ці “сучы сын” — вырашыць, магчыма, толькі час. Тады і будзе прааналізаваны, даследаваны, узважаны матэрыяльны і творчы даробак вышэйпамянёнага пана. Або спадара. Ва ўсякім разе, аніяк не таварыша. І гэта асабіста мяне надта ж цешыць...

Толькі не кажыце маёй маме. А то яна і так дзівіцца, чаму я ў касцёл лётаю, як да некага на спатканне. (Ці то з Богам спатканне, ці ўспамін пра каханне?.. З дарагім маім *каталіком.*) Хаця я добра ведаю, што́ менавіта падабаецца мне ў А.Глобуса, — ягоны стыль. Паводзін, жыцця, творчасці. Ён мне проста імпануе. Прымушае ім цікавіцца.

Першае, што я некалі прачытала з Глобусавых твораў, — гэта ягоныя хоку. Яны так мяне ўразілі, што я зацікавілася старажытнаўсходняй паэзіяй (асабліва на любоўную тэматыку) і нават сама напісала некалькі вершаў у гэтым жанры. Калі верыць гараскопам, дык у мінулым жыцці я жыла ў Карэі. Таму мне ўсё гэта настолькі блізка і знаёма! Матылькі, бамбук, плеценая цыноўка на падлозе — і самурай на маім парозе, стаміўшыся ў дарозе. І я ўстаю ў трывозе... Прыгожа, загадкава і таямніча.

Потым у Валодзі Адамчыка з’явіліся сакраментальныя радкі: “Я стаяў у чарзе па хлеб. //Дачакаўся, а тамака — соль”. А пасля і пайшло, і пайшло... Адна за адной выйшлі некалькі кніжак прозы, пастаянна з’яўляліся публікацыі ў перыядычным друку, і водгукі чытачоў як сведчылі, так і сведчаць, зноў жа, аб неабыякавасці да творчасці пісьменніка. У штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва” са здзіўленнем прачытала абвінавачанне А.Глобуса ў... “сатанізме”! Катэгарычна не пагаджаюся з падобнымі папрокамі! Якраз “сатанізм” у нашых умовах заключаецца не ў атрымліванні празмернай радасці і асалоды ад жыцця, а ў адваротным — у занудлівым маралізатарстве, адмаўленні ад зямных уцех, закліках “здавольвацца малым”. І гэта, заўважце, пры існаванні *“в миру”*! Кажуць, цыган таксама вучыў свайго каня нічога не есці. Давучыўся да таго, што конь узяў ды і здох. (Выбачайце, проста да слова прыйшлося.)

Апошнія кнігі прозы А.Глобуса вельмі дарагія па цане. Выдадзены яны камерцыйным коштам. Але попыт, прычым трывалы, на іх яўна ёсць. А чаго яшчэ можна жадаць пісьменніку?..

Калі чытаеш кнігі А.Глобуса, часам здаецца: ну што тут асаблівага, незвычайнага? Нейкія ўспаміны, асацыяцыі, пабытавыя замалёўкі. Усё разам — матэрыял хутчэй для напісання карціны або, наадварот, навуковага даследу — псіхалагічнага ці сацыялагічнага, але ніяк не падмурак літаратурнага твора. Праўда, суб’ектыўнасць тут ёсць, і выяўляецца яна досыць яскрава. Мова (скажу як былы лінгвіст) таксама вельмі каларытная, далёкая ад той, якую многія людзі ведаюць толькі па розных слоўніках. Хапае ў ёй “заходніх” і местачковых слоў, аўтарскіх наватвораў, афарыстычных выразаў і да т.п. Што ж “трымае” апавяданні і аповесці А.Глобуса, не дае ім рассыпацца на кавалкі, выклікае цікаўнасць таго, хто з імі знаёміцца? Галоўнае, думаю, у тым, што яны належаць пяру пісьменніка, які мысліць і стварае нестэрэатыпна,

не імкнучыся быць падобным на майстроў г.зв. "сацыялістычнага рэалізму"? Гэта проза нечаканая, і прываблівае яна больш за ўсё тым, што нікуды не кліча і нічому не стараецца навучыць. Яна канстатуе, разважае, сцвярджае зусім новыя для *homo sovieticus* ісціны. (Ды ці ведае А.Глобуса той "савецікус"?) Ёсць у ёй, безумоўна, і займальнасць: аўтар, адчуваецца, добра ўмее закруціць сюжэт.

Аднак асноўная вартасць Глобусавай прозы — прыхільнасць пісьменніка да традыцыйных каштоўнасцей капіталістычнага грамадства. У ёй знойдзецца нешта і ад здаровага беларускага фундаменталізму. Падобная літаратура не выхавае Аляксандра Матросава, здольнага кінуцца на амбразуру і закрыць яе сваім целам, або Мікалая Гастэлу, ці наогул камікадзэ. Нягледзячы на сваё даўнейшае захапленне старажытнаўсходняй філасофіяй, А.Глобус-празаік можа навучыць хіба што любіць сябе, сваю сям'ю і зарабляць грошы, каб гэтае пачуццё было падмацавана матэрыяльна, з густам траціць іх і г.д. Тут назіраецца відавочнае імкненне "ісці ў рожкі" са старымі, якое бярэ свой пачатак у бунце "маладнякоўцаў" 20—30-х гадоў. У А.Глобусе мне хочацца бачыць аднаго з найбольш паслядоўных сяброў літаратурнага аб'яднання "Тутэйшыя". Нават калі яно распалася, ён выяўляе сябе як прыхільнік галоўных яго прынцыпаў, па-ранейшаму выказвае прыхільнасць да яго тагачасных ідэалаў і лозунгаў. І ўсё ж: якую жыццёвую філасофію прапагандуе сваёй творчасцю А.Глобус? Можа, гэткую хутаранска-кулацкую: "Маё — гэта маё, мне чужога не трэба, але за сваё я і галаву адарваць, фігуральна кажучы, магу"? (Ці не Яўхіма Глушака з "Палескай хронікі" І.Мележа, дарэчы, бачым мы тут у асобе аўтара?) Цвярозы, разумны, адукаваны эгаізм. На мой погляд, не такі і дрэнны. Арыгінальна гучаць і заўвагі А.Глобуса наконт паняцця "кар'ера" ў яе класічным разуменні: "А вось у мяне вельмі слабыя кар'ерныя здольнасці. ...У гэтым нічога кепскага няма, бо калі чалавека ўмоўна прызнаць не чаротам, які думае, а сцяблінаю, якая затрымлівае святло, дык з краю святла якраз і болей". Адна фраза з твораў А.Глобуса мне вельмі спадабалася — пра, як казалі раней, "актыўную жыццёвую пазіцыю": "У тэлевізара трупнае святло"...







Чаму жанчыны любяць такіх, як Адам Глобус? Таму, што "такія" ўпэўнены ў сабе, за імі як за каменнай сцяной. З імі заўсёды цікава. І дзяцей яны любяць. Карацей, абмаляваўся гэткі Джэймс Бонд, агент 007, ідэал мужчыны. Але якая-небудзь кабета, расчараваная ў асабістым жыцці, магчыма, абзаве яго халодным эгаістам ці нейкім "плэйбоем" — і з ёю таксама будзе можна пагадзіцца. У гэтай неадназначнасці — "плюс", адна з вельмі станоўчых рыс і лірычнага героя, і самога пісьменніка. А.Глобус прымушае адказваць на пытанні, а значыць — працуе інтэлект, як у тым мульціку пра зайца і ваўка: "Я понять тебя пытаюсь, кто же ты на самом деле, кто же ты на самом деле — хищник или человек?" Можа быць, прычына ўсіх гэтых парадоксаў у натуры лірычнага героя — тыя "дзіцячыя і юнацкія страхі, яны падпільноўваюць за кожным рогам, на кожным скрыжаванні...(...) Навокал бясконцыя люстраныя лабірынты дзіцячых страхаў, у якіх губляецца нават уласнае "я".

А.Глобус, як любы драпежнік, любіць ноч: "Я не сплю. Я позна кладуся, я позна ўстаю, бо люблю начны Менск, пусты і чысты, вымыты і падмецены. Самае вялікае смецце ў горадзе нясе з сабою пасажыра-плынь у час пік. А ўночы яны спяць, яны паслухмяныя, іх навучылі з'ядаць варанае сала, спаць на правым баку, паважаць выхаваццеля, старшыню, загадчыка, начальніка і камандзіра. А мяне навучылі стаяць у прыбіральні і не гідзіцца, калі астатніх ванітуе. Мяне навучылі любіць ноч. А гаварыць тое, што думаю, я навучыўся сам, бо заўважыў — можна апавядаць пра самыя вясёлыя рэчы і выклікаць сум, а можна гаварыць пра непатрэбшчыну, і будзе цікава слухаць".

І ўсюды пісьменніку сумна: "Багацце дадае ўпэўненасці, але не дае весялосці". Што ж, як найлепей падыходзіць да А.Глобуса вядомы афарыстычны выраз: "Гора ад розуму". Ці не хварэе на гэта ўся, без выключэння, беларуская інтэлігенцыя?.. "Мяжы паміж праўдаю і хлуснёю няма, як паміж вераю і сумневам". "А я нарадзіўся дзеля лёгкага шпацыру, дзеля зіхцення і ліючасці. Я не збіраюся быць ахвяраю, я не намерваюся рабіцца героем, паэтам, мастаком, беларусам, мінаком, кліентам, рызыкантам. Я — праява часу". "Славянскі пісьменнік з кас-

мапалітычным псеўданімам", грамадзянін сусвету — гэта таксама Адам Глобус...

Вось начыталася ягоных твораў — і стаў ён мне, нібыта радня.

І на заканчэнне. Міжволі падумалася: а ўсё ж якія адносіны скаліся ў Адама Глобуса з нашаю дзяржавай?..

**Святлана ЯВАР**

# ЗНАКІ ГАРЫЗАНТАЛЬНАГА ЧАСУ

**Ж**ыццё кароткае, мастацтва бясконцае... Калі расцеш у сям'і літаратараў, гэты афарызм здаецца бясспрэчнай ісцінай. Калі бачыш, як за пару гадзін ператвараецца ў пыл вывява каменнага Буды, якую рабілі не адно дзесяцігоддзе тысячы людзей, разумееш, што няма не толькі вечнага, але і вечнасці.

Вечнасць разбіваецца на суму момантаў, і гэта мяняе нашу свядомасць, прынамсі мастацкую. Літаратура аддае перавагу не эпічнасці хронік, а секундарнасці кароткай навелы-паказкі. Не рэалізм страчвае свае пазіцыі, а рэальнасць.

Рэальнасць сёння нагадвае разбітую і склееную наноў парцалянавую кітайскую вазу — ёю яшчэ можна любавацца, але да яе страшна дакрануцца. Адсюль суцэльная візуалізацыя мастацтва — акцэнтуецца знешняе, бачнае. Любое заглыбленне ў сутнасць выглядае нерацыянальным выкарыстаннем часу. Проза пачынае нагадваць рэкламны ролік, паэзія — рэкламны слоган. А сам пісьменнік, відавочна, павінен выглядаць, як актор, што рэкламуе мыла для галення.

Аголенасць сімвалізуе ў сённяшняй літаратуры, хутчэй, безабароннасць, але ніяк не беднасць ці сексуальнасць. Беларуская літаратура пазбягае гэтых двух апошніх паняццяў з настойлівасцю, роўнай адмаўленню. Затое часта сталі згадвацца грошы і секс. "Грошы" — першая думка, з якой прачынаецца Адам Глобус, "секс" — назва трэцяга раздзела яго апошняй кнігі.

Кнігі Глобуса крытыкай разрэкламаваны як нешта, што варта хаваць ад дзяцей. Аднак жа хочацца схаваць не кнігі, а дзяцей, і не ад Глобуса, а ад жыцця. Хочацца схаваць чалавека — ад рэальнасці. "Тое, што мы прымаем як рэальнасць, ёсць ужо вялізнай сімуляцыяй, "падробленнем рэчаў", "штучным светам без сэнсу" — піша Д.Алькоўскі-Лэтц, маючы на ўвазе тое, што сучасны ці, інакш кажучы, постмадэрнавы чалавек успрымае свет праз прызму сацыяльных кодаў, моўных дыскурсаў, з дзяцінства рэгламентаваных установак, засвойванне і расчытванне якіх стварае яго асноўны занятак. Хто можа з упэўненасцю сказаць, што яго думка — прадукт уласнай мазгавой дзейнасці, а не інспірацыя сацыякультурнага асяродка? І дзе хованка ад назіральніка і выхавацеля, ад усёбачнага вока, якое цікуе за намі нават у самыя інтымныя моманты жыцця? Ложак, ванна, прыбіральня — як мала месцаў, дзе наша свядомасць хаця б адносна вольная ад улады маўлення...

Хованкі гэтыя даволі вядомыя і ўдала апісаныя пісьменнікамі так званага згубленага пакалення — Хемінгуэем, Рэмаркам, Фіцджэральдам, Г.Мілерам і іншымі, якія адчулі і выявілі шкляную крохкасць свету, дзе трывалымі, надзейнымі застаюцца самыя простыя рэчы.

Глобус належыць да пакалення "Тутэйшых" — пакалення, якое мае ўсе падставы называцца "згубленым". "Сярдзітыя маладыя людзі" — яшчэ адно найменне-сінонім — падыходзіць ім нават болей, чым іх замежным папярэднікам. Яны неаднойчы адчулі смак паразы, перажываючы не толькі крах грамадскіх ідэалаў свайго юнацтва, але і ўласнае бяссілле ў ролі рэвалюцыянераў ад літаратуры. Творчасць Глобуса — аднаго з тых, хто аказаўся найбольш моцным у гэтай няпростай сітуацыі, — энцыклапедыя мастацкіх і жыццёвых фетышаў яго пакалення.

Хоку, Сэлінджэр, дзэн-будызм... Духоўныя эмблемы тых, хто прэтэндуе на тое, каб лічыцца першым інтэлектуальным

беларускім пакаленнем. Яны ўтваралі ўласныя філасофскія семінары, складалі зборнікі трохрадкоўяў і верылі ў тое, што застануцца падлеткамі на ўсё жыццё. Спрабуючы правесці паралель паміж "Дзевяццю апаведамі" Д.Сэлінджэра і кнігай апавесцяў "Толькі не гавары маёй маме" А.Глобуса, Надзя Садзікава зыходзіла з тэзы, што вандроўка на Усход пачынаецца для еўрапейца, і для беларускага аўтара ў прыватнасці, з пошукаў гармоніі, ведаў і супакою.

Гэтыя тры апошнія словы — паўтораныя ў пачатку і ў канцы артыкула "Беларускі дзэн" — бязлітасна выкрываюць памылку крытыка, які павёўся на аўтарскія самавызначэнні і стаў шукаць пісьменніцкае "цела" сярод пазычаных на час апранахаў. Прымерванне чужых мастацкіх кодаў — улюбёны занятак Глобуса-постмадэрніста. Прычым панящці "чужое" і "сваё" патрабуюць каментару, бо гэты аўтар свядома асвойвае чужое (ад хоку да рамана Маргарэт Мітчэл) і адчужае ў літаратуру свойскае і блізкае ("Койданава").

"Зlaві мяне" — выклік чытачу, крытыку, каханай. "Скажы, што любіш мяне". *"I love you"* . "Скажы, што ловіш мяне". "Лаўлю". "А можна яшчэ раз..." "Можна, можна... Люблю, лаўлю, люлілю..." "І я цябе злаўлю". Насамрэч зла́віць — з націскам на першы склад, у сэнсе "наталіць любоўю", і з націскам на другі, у сэнсе "знайсці і ідэнтыфікаваць" — у Глобуса немагчыма. Замест пісьменніка мы знаходзім нейкую літаратурна-мастацкую канструкцыю, пустую змяіную скуру, здольную здаля настрашыць, а зблізку — насмяшыць ці выклікаць шкадаванне.

Паказальнае ў гэтым плане апавяданне "Дамавік ненатольны", якое было апублікавана ў нумары *"ARCHE"* , прысвечаным парнаграфіі. "Герой" Глобуса на працягу сутак атрымлівае сексуальнае задавальненне ад самых розных рэчаў — ад палавога акта з жонкай і маладой суседкай да крадзяжу семачак і таптання залатых рыбак. Сказ з гэтага апавядання — "Гноем і крывёю Дамавік перапэцкаў сваё жытло", — які ўжо пачаў чытацца крытыкай як знакавы ў адносінах да творчасці гэтага пісьменніка, хутчэй за ўсё, стане вызначальным для ўсіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры постмадэрнісцкага кірунку.





Аднак, па-першае, кроў у Глобуса яўна сіліконавая, падробленая, уяўная, як, дарэчы, і яго эмоцыі. Баяцца яе — як захапляцца струменем піва ў тэлеролiку, дзе, як вядома, замяняюць натуральны прадукт гліцэрынай. Таму скаргі на немагчымасць чытаць Глобусавы творы з-за брутальнасці зместу выклікаюць павагу да тых, хто скардзіцца, — якой моцы павінна быць уяўленне, каб ад літаратурнага твора пачало ванітаваць! І што тады павінна рабіцца з гэтымі людзьмі, калі яны глядзяць крымінальную хроніку па ТБ... А што будзе, калі яны трапяць у сапраўдную аварыю... Уявіць іх на вайне ці ў зоне стыхійнага бедства ўжо проста немагчыма. Сам сабой напрошваецца вывад — не толькі Глобус удае, што страшыць, але і чытач — што яму страшна.

Па-другое, звяртае на сябе ўвагу абсалютнае падабенства гэтага твора на змешчаныя літаральна праз пару старонак "Прыватныя прыемнасці" Гары Мэцьюза, і на кароткія навелы Альда Новэ, італьянскага празаіка пакалення "маладых канібалаў", якія друкаваліся ў рускамоўных перакладах. Падабенства — змястоўнае і архітэктанічнае — настолькі моцнае, што даволі складана пазбавіцца ад уражання, што нехта некага чытаў раней. Аднак будаўнічая жорсткасць і застыласць формы, дзе кожны абзац-падзея мае аднолькавую значнасць (што, дарэчы, і ставарае ілюзію запазычанасці), — праява постмадэрнісцкага пісьма, якое, нягледзячы на дэкларацыі радыкальнай плюральнасці стылю, з цягам часу кандэнсавалася ў пэўную колькасць даволі пазнавальных канструкцый. І ўсё-ткі не столькі фармальная клішыраванасць аб'ядноўвае гэтых аўтараў, колькі іх заангажаванасць часам, які і становіцца сапраўдным героем іх твораў.

Час мяняе нашыя адносіны нават да самых інтымных, вельмі індывідуальных рэчаў. Тое, што пазаўчора было табуізавана, учора здавалася прыватным, ужо сёння становіцца падкрэслена грамадскім, агульнаўжытковым, навязлівым.

Порна-фільм... Рэклама, што апелюе да сексуальных інстынктаў... Інтэрнэт, які ставарае ўражанне магчымасці зведаць усё і застацца ананімным і чыстым... Секс адасабляецца ад чалавека і становіцца бясполым. Ён становіцца голай ідэяй,

паняццем, сферай, якая не закранае... Калі на пачатку васьмідзесятых Глобус ствараў сваіх першых "дамавікоў", секс у літаратуры ўспрымаўся як метафара вітальнасці, як сімвал чалавечай свабоды, як праява непадуладнасці грамадству, якое неабачліва ўзялося стрымліваць спрадвечныя інстынкты з мэтай пераўтварыць іх у энергію сацыяльных і эканамічных зрухаў. Малады пісьменнік аспрэчваў звужэнне любоўных пачуццяў да неабходнасці працягу роду і высмейваў імкненне звесці занятак каханнем да гігіены (паказальная ў гэтым плане навела "Супрацоўнік").

Аднак ужо ў "Новым дамавікамероне" секс увасабляе "падманны росквіт магчымасцяў" (А.Дынько), маркіруе рэчаіснасць, дзе ўсё можна, але нічога не хочацца. Калі ў першым "Дамавікамероне" секс падаваўся ў якасці агульнай для ўсяго пакалення хованкі ад абсурду сацыялістычнай дадзенасці, то ў "Новым" — аўтар апратэстоўвае мажлівасць схавацца дзе б то ні было. Змяняецца назіральнік — замест пільнага вока суседзяў, калег, службоўцаў усіх масцей, ахоўнікаў любых рангаў з'яўляецца тэлевізійная камера, якая прышчэплівае альбо ўзмацняе схільнасць да вуайерызму, да падглядвання.

Хто хаця б раз не паглядзеў перадачу "За шклом", дзе маладыя людзі добраахвотна жывуць, мыюцца, голяцца, любяцца за празрыстымі шклянымі сценамі? У сучаснага чалавека адбіраюць права на таямніцу, а значыць, і на каханне — як вядома, большасць людзей прываблівае не татальная адкрытасць, аголенасць, а якраз закрытасць, якая дае спажыву ўяўленню, марам, мроям. Глобус іранізуе з грамадства, дзе цялеснасць не можа пераадолець межы фізічнага цела з мэтай выйсці ў сферу духу, а культура, гаворачы словамі нямецкага філосафа Петэра Казлоўскі, "рэдуцыруецца да фітнэс-культуры".

Яшчэ больш жорсткай і бессэнсоўнай паўстае рэальнасць у трэцяй кнізе "Дамавікамерона", дзе словазлучэнне "сексуальныя адносіны" проста страчвае сэнс, а само паняцце зводзіцца да механічнага дзеяння, за якім хаваецца ідэя гвалту, пакарання, прысуду. Тое, што давала жыццё, становіцца прычынай смерці (напрыклад, у навеле "Начны анёл"). Само існаванне людзей асуджана. Праблема не ў тым, што чалавеку няма дзе



схавацца, а ў тым, што яму няма чаго хаваць. Гэтая думка, якая належыць італьянскаму пісьменніку Т.Ландольфі, і вядомая Глобусу ў актуалізаваным пераказе Л.Аненскага, вымушае змяніць пазіцыю аб'ектыўна-іранічнага назіральніка на актыўна-рэжысёрскую — стваральніка падзей.

Напачатку навелы "Дамавікамерона" ўспрымаліся як "гарадскі фальклор" (С.Яновіч), пасля як "квазіфальклор" (В.Акудовіч) ці як "неапаганскі" міф (А.Кучарава). Аднак найбольш удалым у дадзенай сітуацыі магло б стаць вызначэнне Глобусавых навел як антыміфаў. Згодна К.Орушу, які займаўся даследаваннем феномена антыміфа, міфалагічная тэорыя выяўляецца ва ўзаемадачыненні двух складнікаў — намінатыўнага і дэнамінатыўнага. Яны ёсць частка дактрыны і засноўваюцца на прамым называнні вядомага вобраза (намінатыўны падыход), альбо міфалагічны вобраз, сюжэт ці фабула з'яўляюцца пад новым найменнем, хоць яны і маюць эквівалент у міфалагічнай спадчыне (дэнамінатыўны падыход). Аналізуючы літаратуру постмадэрна, Оруш робіць выснову аб неабходнасці ўвядзення трэцяга падыходу, які даследчык называе анамінатыўным. Яго мэта — стварэнне і вынаходства міфагенных сітуацый, за якімі няма і не можа быць ранейшых міфалагічных прататыпаў. Калі разглядаць "Дамавікамерон" Глобуса з пункту гледжання гэтай тэорыі, то становіцца зразумелым, чаму пісьменнік у сваіх інтэрв'ю адсылае чытача то да "домаўправа", то да "дамавіны". "Дамавік" — тыповы ўзор ілжывага наймення, чарговая хованка, ловы для прасцякоў. Ліфтавікі, Лазовікі, Лесуны, Людажэры і Лірыкі — не выява новай дэманалогіі, а вузкафункцыянальныя "знакі гарызантальнага часу". Псіхалагічная і мастацкая нераспрацаванасць гэтых вобразаў знаходзіцца ў прамой залежнасці ад усталяванасці і моцы таго таталітарнага соцыуму, які, нараджаючы ўсё новыя ідэалагічныя міфы, сам становіцца метафарай сусветнага зла.

У навелах "Дамавікамерона" ставіцца пад сумніў сама ідэя гарманічнага ўладкавання свету, а гэта значыць, што ліквідуецца асноўная характарыстыка так званай міфалагічнай свядомасці. Творы Глобуса ўяўляюць сабой антыміфы, ілюзорная рэальнасць якіх існуе па сваіх, выключна кантэкстуальных, за-

конах і не прэтэндуе на адлюстраванне катэгарыяльных асноў быцця. Вечнасць падмяняецца секундарнасцю, дабро — злом, каханне — сексам.

Аднак не трэба забываць, што Глобус — не Дэміург. Ён толькі наратар, які спрабуе звярнуць нашу з вамі ўвагу на перакуленасць свету, у якім мы жывём. Некалі Гогаля сучаснікі называлі "пошлым" і "вульгарным" за стварэнне "Мёртвых душаў", сёння Глобуса абвінавачваюць у тым жа за стварэнне "Дамавікамерона". Сучаснікі адмаўляюцца спазнаваць сябе ў партрэтнай галерэі літаратуры — сітуацыя не новая.

Між тым сусветная гісторыя паказвае, што нават самае раскаванае, моцнае мастацкае ўяўленне, як правіла, аказваецца слабейшым за тыя выдовішчы, што падкідвае нам жыццё. Сённяшняя канстатацыя крохкасці, безуладнасці свету, якая пужае нас на старонках літаратурных твораў, заўтра можа падацца лубачнай казкаю для самых маленькіх.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**







# Сяргей Трахімёнак

***З*** *усім нечакана мая аповесць "Заложнікі" сама апынулася ў стане "літаратурнага заложніка"...*

*Яна была напісана ў 1990 годзе. У аснову пакладзены рэальныя падзеі восені 1988 года, удзельнікам якіх я з'яўляўся па службе.*

*Розныя выданні адпрэчвалі рукапіс аповесці то за "чарнату", то за паказ "тэхналогій", то за "нетыповасць", паколькі, на іх думку, на восьмым дзесятку гадоў Савецкай улады падобныя з'явы "хутчэй выключэнне, чым правіла". Абсалютна ніхто не хацеў заўважаць відавочнага: у той час ужо не толькі "леў скочыў", але і сам джын сусветнага зла быў выпушчаны з бутэлькі... Усё апісанае ў аповесці было кветачкамі, што неўзабаве выспелі ў Будзёнаўску, Кізляры і Першамайскім.*

*Ды... відаць, гісторыі трэба час ад часу губляць адчуванне болю і заліваць крывёю тую ці іншую частку чалавецтва, каб, у рэшце рэшт, з пашанотай ставіцца да людскога жыцця.*

Сяргей ТРАХІМЁНАК

# ЗАЛОЖНІКІ

*"Смерць аднаго чалавека — трагедыя, смерць мільёнаў — статыстыка..."*
**(З нататніка Унучака.)**

— Мне пара, пара, — ён ласкава разняў яе рукі.

— Так, — сказала яна, і хоць у голасе не праступала крыўды, ён угадаў яе думкі.

— Не трэба, мы ж дамовіліся...

— Дамовіліся, — адказала яна ледзь чутна, — а ведаеш?.. Не, лепей заўтра... ідзі...

Ён адчыніў дзверы на вуліцу і прыслухаўся. Было ціха, як можа быць ціха за гадзіну да поўначы ў маленькім пасёлку на паўтары тысячы жыхароў, у якім адзіны клуб, і той зачыняецца а палове дзесятай, пасля апошняга кінасеанса.

Да веснічак ён дайшоў хутка, а па вуліцы рушыў няспешным крокам, трымаючыся больш цёмнага боку. На вуліцах пасёлка не было ліхтароў, але пражэктары асвятлялі калонію па перыметры, і святло падала на пасёлак. На яго шляху была якраз такая паласа святла. Яе перасячы — і можна спакойна сустракацца з любым, хто яго ведаў. Не пашанцавала: па асветленай вуліцы ішла кампанія падлеткаў. Ён спыніўся перачакаць.

Тры дзесяцікласніцы мясцовай школы і хлопец, іхні пагодак, кіраваліся да вышкі з пражэктарам. Дзяўчаткі былі апрануты ў аднолькавыя прыталеныя паліто, некалі завезеныя ў сельмаг, на галовах, замест хустак, на своеасаблівы манер завязаныя шалікі — апошні крык пасялковай моды. На хлопцу гожа сядзеў армейскі бушлат — сведчанне пра яго сяброўскія адносіны з салдатамі роты аховы калоніі. За спінаю, на белым шнуры ад бялізны, вісела гітара.





Сяргей ТРАХІМЁНАК

Як толькі моладзь аддалілася, рушыў і ён.

— Ну, нарэшце, — сказала жонка, калі ён з'явіўся на парозе.

— Здарылася што? — запытаўся цесць, адклаўшы газету.

— Усё нармальна,— адказаў ён, — трэба было разабрацца з другою зменай.

— А Пецька ўжо даўно дома, — заўважыла цешча.

— Пецька — кантралёр, — перабіў яе цесць, — а наш — начальнік.

— Есці будзеш? — звярнулася жонка.

— Вядома, — адказаў за яго цесць, — не з гулянкі прыйшоў мужык, а з працы...

Пасля вячэры ён накінуў на плечы шынель, надзеў шапку і выйшаў на ганак пакурыць. Прысеўшы на парэнчы, запаліў цыгарэту і пачаў глядзець на касы промень пражэктара, што свяціў з адной з вышак. Два пражэктары, скіраваныя не ў зону, а на пасёлак, былі ўсталяваны нядаўна, пасля чарговых уцёкаў. На мясцовай падстанцыі ўвечары вяліся рамонтныя работы, і два дні запар у адзін і той самы час на некалькі хвілін адключалі святло. Двух адключэнняў было дастаткова, каб зразумець — заўтра будзе трэцяе. І адзін рызыкоўны зэк за дзве хвіліны поўнае цемры пры дапамозе самаробнай кошкі і вяроўкі пералез цераз плот і абястоачаную агароджу.

Уцекача злавілі, а начальнік калоніі — "хазяін", як па традыцыі яго называлі і ў калоніі, і ў пасёлку, — загадаў дадаткова ўсталяваць пражэктары, каб вартавыя з вышак маглі ноччу бачыць не толькі тэрыторыю калоніі, але і пасёлак. Гэта было вартавым на радасць: цяпер яны глядзелі не ў квадрат зоны, а на вуліцы пасёлка...

Цыгарэта дагарэла і прыпякла пальцы. Ён выкінуў апалак, дастаў з пачка другую цыгарэту і больш зручна прымасціўся на парэнчах...

Два гады таму ён ажаніўся. Год бадзяўся па інтэрнатах і кватэрах Н-ска, пакуль да іх не прыехаў цесць.

— Пераязджайце да нас, — прапанаваў ён. — Інжынеры паўсюль патрэбныя, жыць будзеце з намі — дом вялікі... ды і

на харчы не трэба траціцца. Падымецеся — тады і ў горад можна вярнуцца.

Пасля гэтай размовы ён звольніўся з завода і прыехаў да цесця ў пасёлак Тараканіна. Гэта была цэнтральная сядзіба саўгаса, тут размяшчалася і калонія строгага рэжыму. Калонія была ворагам дырэктара саўгаса, бо перацягвала да сябе работнікаў: там плацілі болей, ды яшчэ ішлі надбаўкі за "баюся".

У калоніі была наладжана вялікая вытворчасць тары і мэблі, спецыялістаў не хапала. Цесць паспрыяў — і праз тыдзень пасля прыезду Віктар ужо працаваў. Хлопец ён быў цягавіты, не п'яніца, і праз месяц сам "хазяін" пачаў угаворваць яго атэставацца — "каб атрымліваць болей і на вопратку не траціцца", а яшчэ праз тры месяцы яго атэставалі, выдалі форму.

У працу ўцягнуўся хутка, пасябраваў з калегамі, перастаў рэагаваць на зэкаў, але задаволенасці не было, у душы гняздзілася пачуццё, што жыццё ў Тараканіна — часовае.

— Віця, — паклікала праз аконныя шыбы жонка, — прастудзішся.

— Іду, — адгукнуўся ён і кінуў у снег апалак.

Ужо ў дзвярах, пачуўшы гукі гітары, прыпыніўся. Зноўку ўгледзеўся ў прамень пражэктарнага святла: як і меркаваў, вартавы на паддашшы вышкі глядзеў у бок пасёлка. "Гітару слухае", — падумаў ён і пайшоў у сенцы.

А вартавы на вышцы нешта крычаў дзяўчатам і гітарысту. Крычаў па-руску, але з моцным узбекскім акцэнтам. Хлопец у бушлаце пад акампанент сваёй гітары заспяваў шчымлівую песню. Вартавы ўсхвалявана слухаў. На яго глядзелі па гэты бок вышкі, з пасёлка, тры пары чароўных дзявочых вачэй, а чацвёртая, насцярожаная пара — з-за вугла барака другога атрада: гэта быў Шныр, спрытны хлопец гадоў трыццаці.

Шныр толькі што вылез праз акно на першым паверсе і такім чынам размінуўся з днявальным. Хоць што Шныру днявальны? Свой чалавек — яму не трэба нават казаць: ты мяне не бачыў. Але... беражонага — Бог беражэ, а нябераженага — канвой сцеражэ. Калі днявальны і працуе на кума[1], баяцца не варта: пакуль даложаць, што Шныр ноччу пакідаў атрад, справа будзе зроблена...

Шныр зноўку выглянуў з-за барака. Вартавы стаяў спіною да зоны, слухаў гітару і цалкам быў захоплены тым, што адбываецца каля вышкі.

Шныр падлез пад дротам лакалкі[2], перабег паласу святла і апынуўся перад калючым дротам, што аддзяляў жылую зону ад рабочай. Ён падсунуў пад электрычны дрот дзве драўляныя рагаткі і пралез на КСП[3]. На некалі ўзаранай, а цяпер замерзлай зямлі, вядома, застануцца сляды, іх заўтра ўбачаць, але пакуль будуць разбірацца... Другі рад калючкі Шныр адолеў гэтак жа, як і першы, і бегма кінуўся да тарнага цэха. Прыпаў да сцяны, аддыхаўся, а потым сунуў руку ў выемку карніза, выцягнуў абматаныя шпагатам заточкі і пабег назад. Тое, што знаходзілася ў скрутку, можна было ў жылую зону перанесці ўпотайкі па частках, але на гэта трэба час, ды і кантралёры пачалі шманаць падчыстую. Вартавы ўсё яшчэ перагаворваўся з дзяўчатамі, на пасёлку перабрэхваліся сабакі, а ў калоніі было ціха. Шныр прабраўся назад, улез праз акно ўмывальніка, выкінуў у сметніцу рагаткі, прайшоў у спальнае памяшканне і ў вопратцы залез пад коўдру. Заточкі за поясам сагрэліся ад цела, і ён заснуў.

Віктар прыйшоў на працу а палове восьмай. Ён прамінуў вахту, дзе за шклом сядзеў сяржант — "стары" з роты аховы, які ведаў усіх пастаянных работнікаў калоніі ў твар і не правяраў у іх дакументаў. Віктар накіраваўся да вагончыка — там сядзелі кантралёры і знаходзілася другая вахта, праз якую прапускалі зэкаў у рабочую зону, — і не глядзеў па баках. Ды і што было глядзець, што тут магло змяніцца за ноч? Справа — кацельня, злева — сталоўка, пасярэдзіне — пляц, на якім зараз адбудзецца развод і брыгады пойдуць у рабочую зону.

---

[1] Кум *(жарг.)* — начальнік аперчасці калоніі.
[2] Лакалка *(жарг.)* — унутраная агароджа.
[3] КСП — кантрольна-следавая паласа.

Два прапаршчыкі-кантралёры чакалі ў вагончыку зняволеных і перамывалі косткі "дурню ротнаму". "Дурні начальнікі" і пагрозы звольніцца — звычайныя гаворкі супрацоўнікаў. Усе клянуць сваё сабачае жыццё і працу, кажуць, што звольняцца ці, калі іх звольняць, нікольні не засмуцяцца... Але куды можна пайсці ў Тараканіна? Даглядаць жывёлу на ферму? Дык там працаваць трэба, а тутэйшыя хлопцы ад гэтага ўжо адвыклі.

Віктар увайшоў у тарны цэх, паглядзеў на гадзіннік: да пачатку змены — дзесяць хвілін. Тарны ў калоніі вырабляе тое ж, што і тарныя прадпрыемствы на волі, і нічым ад іх не розніцца. Калі не зважаць, вядома, што рабочыя ў аднолькавых робах, твары ў іх больш цёмныя і змрочныя, мат густа вісне ў паветры ды кантралёр мільгае паміж верстакамі і радамі скрынак.

На працягу першых месяцаў працы ў калоніі Віктар натуральна, неўпрыкмет для сябе страціў пачуццё небяспекі. У зоне, як у высотнікаў: пра страхоўку і небяспеку ўспамінаюць, калі з кім з сяброў здарыцца няшчасце.

А дзевятай гадзіне яму патэлефанавалі. У калоніі, акрамя адміністратыўнага корпуса, тэлефонная сувязь была толькі ўнутранай.

— Віктар Сяргеевіч, вас выклікае начальнік калоніі, — паведаміла трубка голасам сакратаркі "хазяіна".

Праз дзесяць хвілін ён быў ужо ў прыёмнай, але сакратарка папрасіла пачакаць. Раптам расчыніліся дзверы і ўвайшоў начальнік аперчасці Зубаў, ён жа кум — трэці чалавек у калоніі пасля "хазяіна" і намесніка па рэжыму.

— Во, цябе сам Бог паслаў, — звярнуўся ён да Віктара. — Не ў службу, а ў дружбу, схадзі, Віця, у зону. Тут Сямёнаўна на зуб пакутуе і просіцца ў санчастку, каб Валя дала ёй таблеткі, а ўсе мае хлопцы ў разгоне: у другім атрадзе рагаткі ў сметніцы знайшлі, значыць, хтосьці лазіў ноччу ў рабочую зону... Пакуль начальнік заняты, схадзі з Сямёнаўнай.

У калоніі існавала правіла: жанчыны па тэрыторыі калоніі хадзілі толькі ў суправаджэнні супрацоўнікаў-мужчын.

Сямёнаўна, намеснік галоўнага бухгалтара, пяцідзесяцігадовая жанчына, стаяла ў калідоры і трымалася рукой за шчаку. Віктар без вялікай ахвоты падняўся з крэсла і выйшаў на калідор, а сабе зазначыў, што кум, калі казаў пра Валянціну, неяк па-змоўніцку на яго паглядзеў.





Каля кабінета доктара, дзе фельчарка Валянціна прымала хворых, сядзелі двое: здаровы, набычаны зэк з другога атрада Сафонаў трымаўся рукамі за жывот, а другі — малы, рухавы, вядомы ў зоне як Шныр — клапатліва падтрымліваў яго. Хоць Сафонаў і стараўся паказаць, як моцна ён пакутуе ад болю, па твары было відаць: прыдурваецца.

У кабінеце Валянціна слухала хворага, прыкладваючы фанендаскоп да ягоных грудзей. Хворы старанна хрыпеў бранхітам курыльшчыка. На ўсю спіну ў яго быў выкалаты "Бой Чалубея з Перасветам". Закончыўшы агляд, Валянціна выправіла наведвальніка і звярнулася да Сямёнаўны:

— Што здарылася?

— Жубы, — прастагнала тая, — а тут справаждачу трэба рабіць, а-а....

Скрып дзвярэй не даў ёй дагаварыць. Шныр увёў у пакой сагнутага Сафонава. Віктар паглядзеў на яго і ўспомніў ягоную мянушку...

***

Капітан Унучак быў дома адзін. Жонка яшчэ з раніцы пайшла да сакратаркі Байметавай, у якой, пэўна, у адзінай ва ўсім пасёлку была падшыўка "Бурда модэн". Унучак памыў падлогу, прыняў душ і ў чаканні жонкі прылёг на канапу.

Пасада Унучака, згодна са штатным раскладам Камінскага гараддзялення КДБ, — старшы аператыўны ўпаўнаважаны. У Камінску ён працаваў усяго тры месяцы. Першы, як і належыць, ён пражыў у гасцініцы, два наступныя — у інтэрнаце мясцовага тэхнікума. У канцы снежня падышоў яго чарговы водпуск — і да Унучака з Н-ска прыехала жонка. Хіба ж у інтэрнаце сустракаць маладую жанчыну, якая ўпэўнена, што ў Камінск яе муж пераведзены "на павышэнне"? І Унучак дамовіўся з сябрам пажыць колькі дзён у яго аднапакаёвай кватэры,

а той заняў месца Унучака ў інтэрнаце. Якраз сёння Унучак з жонкай збіраліся паехаць у Н-ск, а адтуль "цягнікам здароўя" — у Лужбу, якую ў Н-ску называлі няйначай як "сібірскаю Швейцарыяй". "Горы, сонца, снег іскрыцца, — спакушала расказам жонка, бо яшчэ да замужжа бывала там, — запомніцца на ўсё жыццё!"

Унучак з асалодай пацягнуўся і паглядзеў на спакаваныя ў дарогу валізкі, да якіх былі прывязаны новенькія лыжныя чаравікі, купленыя дзеля гэтай паездкі.

Зазваніў тэлефон. Унучак зняў трубку ў надзеі пачуць голас жонкі.

— Фёдар Сцяпанавіч? Ледзьве вас знайшоў, — раздаўся абрадаваны голас шэфа.

Унучак быў операм, і прафесійная інтуіцыя імгненна падказала: горы, сонца, іскрысты снег — не прыемная будучыня, а нясправўджанае мінулае.

— У Тараканіна, — працягваў шэф, — двое ці трое зняволеных захапілі заложнікаў.

Шэф не працаваў у месцах пазбаўлення волі і таму "не ведаў", што ў СССР няма зняволеных, а ёсць асуджаныя...

— А мы тут пры чым? — перабіў яго Унучак, — да Тараканіна сто пяцьдзесят напрасткі, а па дарозе яшчэ болей.

— Начальства званіла з Н-ска, — сказаў шэф, — просяць увайсці ў штаб па вызваленню заложнікаў.

— Мне збірацца ў Тараканіна?

— Не, штаб ствараюць у Камінску, у СІЗА.

— Але ж я ў адпачынку, білеты ў Лужбу на руках... мяне жонка з'есць, — сказаў Унучак, а сам падумаў: чаму б табе не ўвайсці ў штаб?

Але шэф таксама быў операм, ён угадаў думкі падначаленага:

— Фёдар Сцяпанавіч, вы адзіны спецыяліст па месцах зняволення... збор праз паўгадзіны ў следчым ізалятары.

— Добра, — адказаў Унучак і ледзь не мацюкнуўся.

Пасля размовы з шэфам ён набраў нумар Байметавай. Унучаку не хацелася гаварыць жонцы па тэлефоне пра тое, што здарылася, і ён папрасіў яе як мага хутчэй прыйсці дамоў.







Праз колькі хвілін Наташа з'явілася на парозе кватэры: расчырванелая ад марозу і ў прадчуванні нечага нядобрага.

— Здарэнне невялікае...— пачаў ён.

— А ты тут пры чым? Ты ж у адпачынку...

— Давядзецца затрымацца... на суткі ці двое...

— Федзя, у нас цягнік праз некалькі гадзін!

Яму хацелася сказаць "едзь адна, я цябе дагоню", але жыццёвы вопыт падказваў: не варта абяцаць, хто ведае, што яшчэ здарыцца.

— Можа, паедзеш адна? — прапанаваў ён, спадзеючыся, што Наташа адмовіцца.

— Добра! — рашуча сказала жонка. — Я паеду адна, а ты працуй, служы — і, можа, калі-небудзь ордэн "гарбатага" атрымаеш, ім якраз такіх, як ты, узнагароджваюць.

Вось гэтага ён ад жонкі не чакаў! Стрымана сказаў:

— Едзь... Ключ я вазьму, а ты дзверы зачыніш.

Ён апрануўся і адправіўся ў СІЗА.

***

Не дзіўна, што Віктар успомніў мянушку Сафонава — Кныр. Лепш і нельга назваць чалавека сярэдняга росту, з поўным нерухомым тварам і маленькімі вочкамі.

— Віця, — сказала Валянціна, убачыўшы, як Шныр цягне Сафонава, — дапамажы...

Віктар падхапіў Сафонава пад пахі. "Цяжкі", — толькі падумаў, як раптам адчуў, што мышцы Сафонава імгненна напружыліся. Сафонаў выпрастаўся і ўдарыў Віктара галавою. Удар патрапіў не ў твар, а ў вуха... Звон, як ад бою насценнага гадзінніка, раздаўся ў галаве, а потым галаву нібыта захінулі шчыльнай, але мяккай коўдрай, і Віктар перастаў што-небудзь чуць і адчуваць.

Калі ён апрытомнеў, моцна балела галава і нешта ціснула паясніцу. Павярнуўшы галаву направа, ён усё зразумеў. Шныр і Кныр паклалі яго і жанчын на падлогу ніцма, а зверху — дагары ножкамі лаўку, на якой толькі што ён, Віктар, сядзеў.

— Ляжаць, усім ляжаць, — пакрыкваў Кныр, ходзячы

па пакоі. — Будзеце ляжаць ціха — застанецеся жыць... Шныр, днявальнага!

Шныр выскачыў на калідор і неўзабаве з'явіўся з днявальным па санчастцы — высокім хлопцам у чыстай робе, з акуратнаю біркай на нагруднай кішэні, дзе разборліва чыталася яго прозвішча — "Каткоў".

— Бачыш? — запытаўся Кныр, паказаўшы на Віктара і жанчын.

— Ага, — адказаў Каткоў. Ён адразу ўсё зразумеў і гатовы быў выканаць любыя загады Кныра.

— Скажаш ДПНК[1], — працягваў Кныр, — што мы ўзялі заложнікаў. Да ўваходу няхай ніхто не сунецца, бо ўсіх кончым, — і Кныр паказаў днявальнаму заточку, а Шныр, як фокуснік, адным рухам выхапіў з рукава целагрэйкі адразу дзве. — Зразумеў?

Днявальны кіўнуў, але Кныра гэта не задаволіла. Ён загадаў:

— Паўтары!

Днявальны, збіваючыся, паўтарыў усё, што сказаў Кныр.

Кныр працягла, не міргаючы, пільна паглядзеў хлопцу ў вочы, ажно той збялеў, і рыкнуў:

— Прэч!..

Па калідоры прагрукалі падкаваныя абцасы, і ўсё сціхла. Шныр зачыніў дзверы санчасткі на ключ, які забраў у Валянціны, падцягнуў да дзвярэй стол.

"Дзверы падперлі", — адзначыў Віктар і... здзівіўся: усё, што адбывалася, ён не ўспрымаў як рэчаіснасць.

***

"Хазяін", кум і ДПНК з'явіліся пад акном кабінета начальніка санчасткі.

— Сафонаў, — закрычаў начальнік калоніі, — канчай дурыць, адпусці людзей!

У адказ пачуўся звон разбітага шкла — і з акна другога паверха паказалася абкручаная шторaю рука Сафонава.

---

[1] ДПНК — дзяжурны памочнік начальніка калоніі.






— Не пылі, начальнік, — сказаў Кныр праз разбітую шыбіну, — людзей я ў момант адпушчу, як ты выпусціш з ШЫЗА Бузу.

— Спыніць! — закрычаў начальнік, але голас яго сарваўся і ён, як рыбіна, толькі варушыў губамі; праз хвіліну голас вярнуўся, і хоць кум спрабаваў супакоіць яго, пачаў пагражаць Сафонаву.

— Канчай базар, — перабіў Кныр, — мы многа не патрабуем: выпусціш Бузу — адпусцім людзей. Даю пятнаццаць хвілін. Не будзе Бузы — зарэжу лейтэнанта. Час пайшоў!.. І без хітрыкаў: заб'еш аднаго — другі ўсіх замочыць...

І Кныр паказаў начальніку калоніі заточку.

Начальнік праслужыў у МУС дваццаць тры гады і ўсялякага нагледзеўся, але гэтак яго прыніжалі першы раз. З "Хазяінам" усе, нават самыя адпетыя зэкі, размаўлялі з павагаю. Канфліктаваць і тузацца ў зоне можна з кім заўгодна, але не з начальнікам калоніі. Яго нездарма называюць "хазяінам" — ад яго сапраўды залежаць і супрацоўнікі, і лёсы тых, хто "матае" тэрмін...

Абражаны начальнік стаяў пад вокнамі санчасткі, а Кныр зашторыў акно і тым самым як бы падкрэсліў, што зараз ён галоўны.

У начальніка было некалькі хвілін на роздум: або аддаць каманду выламаць дзверы і паспрабаваць выратаваць заложнікаў, або... Выратаваць — гучна сказана: калі Шныр і Кныр не блефуюць, заложнікаў не выратуеш. Хранова гэта, але... "загінулі пры вызваленні". Аднак і тут было адно "але". Калі б такое здарылася пасля дакладу ва ўпраўленне і атрымання санкцыі на штурм, тады іншая справа: адказнасць за ахвяры ляжала б на кіраўніцтве. І начальнік загадаў вызваліць з ШЫЗА Бузу.

Бузу, ці Арбузава, каланісцкага аўтарытэта, прывялі пад вокны санчасткі ў наручніках. Начальнік выгукнуў:

— Сафонаў!

У акно выглянуў Кныр і сказаў:

— Няхай ідзе да дзвярэй.

З Бузы ад хвалявання нават забыліся зняць наручнікі.

Шныр адчыніў дзверы і ўпусціў Бузу ў калідор. Удвух яны падперлі сталом дзверы. Шныр кінуўся ў кабінет, адшукаў жалезную скрэпку і адамкнуў ёю наручнікі. Буза, пакуль Шныр вызваляў яго ад бранзалетаў, нічым не выказаў свайго хвалявання. Ён трымаўся так, як і належыць пры яго статусе ў зоне: леў, які дазволіў некаму дакрануцца да сябе, каб той толькі выцягнуў стрэмку...

Буза не быў здаравяком, як Кныр, і спрытнюгам, як Шныр, аднак заложнікі адчулі, што галоўны тут ён, і толькі ён. Буза перш за ўсё загадаў разбіць шкло ў шафе з медыкаментамі, дастаць лекі, а шафай падперці дзверы ў калідоры. Шныр з Кныром паслухмяна выканалі загад. Далей Буза распарадзіўся прыкаваць наручнікамі да батарэі лейтэнанта, а жанчын падняць з падлогі і пасадзіць на лаўку, прывязаўшы бінтамі спіна да спіны. Ён нават паспачуваў Сямёнаўне і запытаўся ў Валянціны, якія даць бухгалтарцы лекі ад зубнога болю.

— Нам нічога не трэба, — сказаў Буза начальніку калоніі, высунуўшыся ў акно. — Звані ў Н-ск... выклікай пракурора вобласці... Гаварыць будзем толькі з ім. Надумаеце хітраваць — усіх парашым. — І, усміхнуўшыся, дадаў: — Канец сувязі...

***

Следчы ізалятар, які ў Камінску звыкла называлі турмою, стаяў на пагорку. Некалі гэта была гарадская ўскраіна, але ішоў час, горад рос — і турма, якую абступілі аднапавярховыя дамы, цяпер нагадвала сярэднявяковую крэпасць. Ад яе зыходзіла нейкая злая энергія, здавалася, турма ўсмоктвала ў сябе горад. Падлеткі, якія жылі паблізу, добра ведалі, што робіцца за мураванымі сценамі. І, як ні сумна, праз нейкі час самі траплялі пад дах Камінскай турмы. Для адных яна была месцам працы, для другіх — месцам пакарання...

Унучак адчыніў дзверы тамбура. У дзяжурным пакойчыку, адгароджаным ад тамбура вялікім кавалкам плексігласу, сядзеў прапаршчык. Ён, хоць і быў знаёмы з Унучакам, доўга ўглядаўся ў фотаздымак на яго службовым пасведчанні, а потым у твар Унучака. Нарэшце раздаўся шчаўчок, што азначала







— засаўка на другіх дзвярах адчынена. Унучак падняўся на другі паверх і ўвайшоў у кабінет начальніка.

— Яшчэ адзін член "тройкі", — з'яхіднічаў начальнік Камінскага гараддзела міліцыі Узякін. Ён усеўся за сталом начальніка ізалятара. За прыстаўным столікам сядзеў камандзір батальёна аховы МУС Сабінаў. Узякін пачуваў сябе гаспадаром у кабінеце, бо ў выпадку надзвычайных здарэнняў ён, падпалкоўнік міліцыі, станавіўся старшым аператыўным начальнікам. — Распранайся, будзем думаць, — звярнуўся да Унучака.

— Мысляры сабраліся, — з'едліва сказаў камбат і мацюкнуўся.

— Так, панове афіцэры, — пачаў начміл, — што мы маем? Трое асуджаных з Тараканінскай турмы, цьфу, калоніі захапілі трох заложнікаў... Дакацілася гэтая зараза і да нас... Каму даводзілася вызваляць заложнікаў? Ага, нікому. Будзем варушыць мазгамі самастойна.

— Не грэх успомніць і тое, чаму нас у "бурсе" вучылі, — сказаў Унучак.

— А ў "бурсе" нас гэтаму не вучылі, — узлаваўся Узякін. — У "бурсе" нам казалі, што арганізаваная злачыннасць, тэрарызм, захопы заложнікаў — толькі "там", гэта не нашы праблемы...

— Годзе вам, — умяшаўся Сабінаў. Ён быў чалавек ваенны, лішніх размоў не любіў.

— Уратаваць людзей, — прамовіў Узякін, — уратаваць... А што для гэтага трэба?

— Людзі, — адказаў Сабінаў.

— Нам неабходна інфармацыя пра тых, хто захапіў, і пра тых, каго захапілі, — уключыўся ў размову Унучак.

— Моладзь мае рацыю, — сказаў Узякін, якому, як і Сабінаву, было пад сорак, у той час як Унучаку — трыццаць тры.

— А мы нічога не ведаем ні пра захопнікаў, ні пра заложнікаў, — дадаў Сабінаў.

— У корпусе тры тэлефоны: у гэтым кабінеце, у спецчасці і ў аператыўнікаў. Разыходзімся да тэлефонаў і спрабуем, кожны праз сваіх калег, даведацца пра захопнікаў і залож-

нікаў усё, што ўдасца, — прапанаваў Унучак. — Мы звонім у Н-ск, а Дзмітрый Іванавіч, — кінуўся ён у бок Сабінава, — у Тараканіна: адна з яго ротаў нясе там ахову.

— Добра, — сказаў Узякін, — разыходзьцеся, я застануся тут як старшы аператыўны начальнік...

***

— Арбузаў! — крычаў начальнік калоніі. — Пашанцавала вам: пракурор вобласці вылецеў на верталёце з Камінска. Якраз быў там у камандзіроўцы. Адпусці хоць жанчын, усё ж лепей будзеш выглядаць у вачах пракурора...

— Мне з пракурорам дзяцей не хрысціць. Прыляціць — пагаворым, — адказаў Буза і нават не выглянуў у акно.

Буза быў заняты з заложнікамі: ён чарговы раз вёў выхаваўчую "работу". Як гэта рабіў некалі адзін з "васпетаў"[1] у ВТК, дзе Буза адбываў першы тэрмін. Ён праходжваўся каля лаўкі, на якой сядзелі жанчыны.

— Яшчэ раз паўтараю, — казаў Буза на манер настаўніка пачатковых класаў, — вам нічога не зробяць... калі вы не пачнеце геройнічаць. Гэта тычыцца вас, грамадзянін начальнік. Сядзіце спакойна, усё, што вам патрэбна, атрымаеце: піць — калі ласка, есці — "ноў проблем", у прыбіральню — Шныр завядзе. Стане спакайней — рукі развяжам. Мы нічога да вас дрэннага не маем, і вам не трэба крыўдаваць на нас. Ты на Кныра зла не трымай, — звярнуўся ён да Віктара, — ты вунь які здаравяк (Буза ведаў, на якіх струнах мужчынскага самалюбства можна сыграць у прысутнасці жанчын), Кныр не стаў бы цябе біць, але сам разумееш... У нас правіла: ты нам не перашкаджаеш — мы цябе не чапаем.

Кныр і Шныр стаялі на калідоры і назіралі "выхаваўчы момант" праз прыадчыненыя дзверы. На твары Шныра была поўная згода з тым, пра што казаў Буза. Кныр крывіўся: ён належаў да тых, пра каго на зоне кажуць "жыве на кулаках", і да размоў ставіўся з пагардай.

— Шныр, — паклікаў Буза, — схадзі да дзвярэй, там у

[1] Васпет *(жарг.)*— выхавацель у выхаваўча-працоўнай калоніі.



ментоў варта, скажы, каб пажраць прынеслі. Няхай паставяць шамаўку і адыдуць, ты пасля забярэш, — інструктаваў Буза. — Скажаш: адзін рух ментоў — і заточкі ў горлах заложнікаў.

Праз чвэрць гадзіны заложнікі былі адгароджаны ад захопнікаў шырмаю, за якою звычайна аглядалі хворых, а пасярод кабінета стаяў стол, на ім у цэнтры высіўся бачок з кашай і мясам, побач ляжалі алюмініевыя лыжкі і буханка чорнага хлеба.

Шныр прывалок з калідора лаўку і запытальна звярнуўся да Бузы:

— Пачнем?

Буза нібы не чуў яго. Ён вытрымаў доўгую паўзу, ажно Шныр адчуў сваю нікчэмнасць, і потым адказаў:

— Ты што, зачуханец? Схадзі яшчэ раз, скажы, што патрэбны лыжкі і відэльцы з ментоўскай сталоўкі, і талеркі таксама. І чай няхай прынясуць, ды не ў атрадах возьмуць, а ў сябе пашныраць. І каб не жартавалі, казлы.

З чаем, відэльцамі, талеркамі атрымалася затрымка. Шныр і Кныр сцякалі слінаю. Шныр нават пачаў пабойвацца, што Буза надумае выкінуць халодную кашу і запатрабаваць новую.

Але вось усё, чаго патрабавалі, ляжала на стале, аднак Буза зноў не спяшаўся. Ён схадзіў да ўваходных дзвярэй, праверыў, ці надзейна яны падпёртыя сталом і шафаю. Прыкінуў: калі іх нават выб'юць таранам, то на гэта спатрэбіцца некалькі хвілін, а яшчэ ж добры дзесятак метраў па калідоры — за гэты час заложнікі тройчы будуць мёртвыя: Буза слоў на вецер не кідае...

Арбузаў вярнуўся ў кабінет, кіўнуў Шныру, і той, зразумеўшы без слоў, накіраваўся за шырму. Ніхто з заложнікаў есці не пагадзіўся. Толькі пасля гэтага, пад ухвальны позірк Бузы, Шныр дзвюма складзенымі лыжкамі расклаў кашу і мяса на талеркі, пачакаў, калі лыжку возьме Буза, і пачаў есці. Кныр накінуўся на ежу і глытаў яе, здавалася, не жаваўшы. Адзін Буза еў няспешна, нібыта не з ШЫЗА пасля васьмі сутак выйшаў, а толькі што паабедаў у рэстаране. На волі Бузу прымалі

за сына вялікага начальніка, ды ён і сам часам казаў: "Тата ў мяне член ЦК, а мама просты ўрач..." Ён не быў махляром, але лёгка мог ім стаць, бо ў ім жыў талент артыста і было тое, што дапамагае не толькі выжыць на зоне, але і падначальваць сабе іншых, кіраваць імі, — воля, якая незразумела як месцілася ў ягоным лядачым, хілым целе.

Пад'еўшы, Буза і Кныр запалілі па цыгарцы. Шныр сабраў брудны посуд і хацеў быў ужо зваліць яго ў кут, але сустрэўся з позіркам Бузы і зразумеў, што таму гэта не спадабаецца. Ён вынес талеркі і бачок у калідор, у пакой вярнуўся з падшыўкай "Медицинской газеты", якую выпісвалі на медсанчастку. Шныр спрытна скруціў з газет некалькі кнотаў, наматаў на руку Валянцінін халат, узяў абматанаю рукою алюмініевы карэц з вадой і, запаліўшы адзін кнот, паднёс яго да дна карца. Падаграваючы такім чынам ваду, Шныр неўзабаве давёў яе да кіпення, усыпаў заварку і зноў паднёс кнот да карца. Шапка пены ўзнялася ўгору і ледзь не збегла на падлогу, але Шныр адняў агонь, а потым яшчэ некалькі разоў паўтарыў тую ж самую працэдуру.

Калі чыфір быў прыгатаваны, Шныр паставіў карэц на стол, запаліў цыгарэту, здзьмуў карычневую пену і, зрабіўшы невялікі глыток, падсунуў карэц Бузе. Той пачакаў нейкі час, зрабіў свой глыток, падсунуў карэц Кныру і зацягнуўся "прымаю".

— Кайф, — сказаў Шныр, калі карэц зноў вярнуўся да яго.

Буза і Кныр нічога не адказалі, але па іхніх тварах было відаць, што яны згодныя.

***

— Ну, чым багатыя? — запытаўся Узякін ва Унучака і Сабінава, калі тыя вярнуліся ў кабінет начальніка ізалятара.

— Чым багатыя, тым і радыя, — адказаў не надта ветліва Унучак. Нічога цікавага і новага ён не даведаўся. Перагаварыў з начальнікам аддзялення, той пераззваніў у Н-ск, а там паведамілі даўно ўжо вядомае Унучаку: нейкія асуджаныя захапілі нейкіх заложнікаў. Хто яны — адны і другія? Чаму рашыліся на такі крок захопнікі і ў якім стане зараз заложнікі?






Без ведання гэтага планаваць мерапрыемствы па вызваленні было нельга.

Службы Узякіна і Сабінава таксама нічым не дапамаглі.

— А ты што, у Н-ск тэлефанаваў? — звярнуўся Узякін да Сабінава.

— Так, — прызнаўся той.

— Ды што яны ў Н-ску, за трыста вёрстаў ад Тараканіна, ведаюць? Табе трэба было тэлефанаваць у Тараканіна, — распаляўся Узякін.

— Я званіў, але там увесь час зрываецца, ідуць кароткія гудкі...

— Кароткія гудкі, — перакрываў Узякін. — Ну, КДБ, дапамагай, у цябе ж усюды свае людзі.

— Бяры паперу, пішы, — сказаў Унучак Сабінаву.

Пакуль камбат даставаў асадку, Унучак набраў "07" і перагаварыў са старшай тэлефаністкай:

— Марына Уладзіміраўна, трэба дапамагчы спецслужбам, тэрміновая размова з Тараканіна... за наш рахунак. Давай нумар, — звярнуўся ён да Сабінава.

Сабінаў размаўляў добрыя дваццаць хвілін, нешта занатоўваў, перапытваў камандзіра роты аховы, зноў пісаў у блакноце. Пад канец размовы ён ажно ўпрэў. Усе напружана чакалі.

— Так, — сказаў Сабінаў, — двое асуджаных...

— Як двое? — перабіў яго Узякін.

Камбат з дакорам глянуў на начміла і цярпліва паўтарыў:

— Двое асуджаных: Сафонаў, пяцьдзесят восьмага года нараджэння, артыкул 145, сем гадоў, і Клявала, шасцідзесятага года нараджэння, 144-ы, пяць гадоў, раніцай прыйшлі ў санчастку і захапілі заложнікамі фельчара, жанчыну, якая прыйшла на прыём, і супрацоўніка калоніі...

— Пасада і званне? — перапытаў Узякін, нібыта гэта мела які сэнс.

— Лейтэнант, — адказаў Сабінаў, начальнік вытворчасці. — Захопнікі забарыкадзіраваліся ў санчастцы і запатрабавалі, каб ім прывялі нейкага Бузу, які сядзеў у ШЫЗА...

— За што сеў у ШЫЗА Буза? — спытаў Унучак. — Гэта можа быць важна.

— Буза заварыў вялікую кашу, стаў "бадацца" са старым злодзеем — Чубатым. "Хазяін", вядома, ведаў аб гэтым. Яму два мядзведзі ў адной бярлозе не трэба, і ён за нейкую правіну пасадзіў Бузу ў ШЫЗА. "Хазяіну" спакайней з Чубатым: той не такі малады і шустры, як Буза.

— Во, — сказаў Узякін, — робіцца цяплей.

— Цяплей, ды не зусім, — адказаў камбат, — на вызваленні Бузы яны не спыніліся, а заявілі, што хочуць гаварыць з пракурорам вобласці. Добра, што ў Камінску ў камандзіроўцы быў намеснік пракурора вобласці, ён вылецеў верталётам у Тараканіна... Але захопнікі заявілі, што пракурор ім быў патрэбен для таго, каб уначы іх не пастралялі, і запатрабавалі перавезці іх у іншую калонію альбо ў бліжэйшы ізалятар.

— Значыць, да нас, — сказаў Узякін.

— У агульных абрысах зразумела, — уступіў у размову Унучак. — Цяпер трэба разабрацца, як у гэтай тройцы размеркаваныя ролі.

— Размеркаванне звычайнае, — камбат зазірнуў у свае запісы, — Буза — галава, я нават думаю, што ўсё гэта арганізаваў ён, а не Сафонаў ці Клявала. Сафонаў — Кныр — салдат, бык. Клявала — Шныр — на пабягушках, хоць таксама небяспечны: тыкнуць заточкаю — ні розуму, ні аўтарытэту не трэба...

***

— Арбузаў, Арбузаў, з вамі будзе гаварыць пракурор вобласці, — хрыпла крычаў начальнік калоніі. Ён быў ужо ў шынялі і шапцы, з-пад якой віднеліся сівыя скроні.

Буза прыпадняў край шторкі і паглядзеў уніз. Побач з начальнікам стаяў мужчына гадоў пяцідзесяці, у норкавай шапцы і кароткай дублёнцы, за яго спінаю — двое смуглявых байцоў з роты аховы, якія, парушаючы інструкцыю аб забароне з'яўлення ў зоне са зброяй, былі ўзброеныя аўтаматамі.

— Мне трэба доказы, — выгукнуў Буза ў фортку.






— Я хачу з вамі гаварыць, — сказаў мужчына ў дублёнцы, — можна сам-насам.

— Мне трэба доказы!

— Чаго? — не зразумеў той і звярнуўся да начальніка калоніі.

— Яны не вераць, што вы пракурор вобласці.

— Я намеснік пракурора, — адказаў мужчына ў дублёнцы.

— Я не магу адпусціць вас аднаго, — сказаў начальнік, а сам падумаў: калі яны і цябе захопяць — мне канец.

— Ну чаму ж, калі яны гарантуюць...

"Якія гарантыі?!" — ледзь не прастагнаў начальнік калоніі і прапанаваў:

— Трэба сустракацца на нейтральнай тэрыторыі.

Дамовіліся нечакана хутка. Буза папярэдзіў, што падчас перагавораў заточкі будуць на глотках у заложнікаў і што калі ён праз пяць хвілін не вернецца ў санчастку, заложнікаў зарэжуць.

Буза сустрэўся з прадстаўніком пракуратуры ў калідоры санчасткі. Мужчына ў дублёнцы паказаў яму сваё пасведчанне. Буза праверыў яго і не стаў патрабаваць галоўнага пракурора, хоць такі варыянт не выключаўся.

— Мы запрасілі вас, — пачаў Буза ўрачыста і ўпэўнена, — каб пакрыўджаныя начальнікі не расстралялі нас ноччу разам з заложнікамі. Цяпер мы ўпэўненыя, што яны гэтага не зробяць, і вось наша апошняе патрабаванне: наша гутарка працягнецца ў іншай калоніі. Туды мы паедзем з заложнікамі і ў вашым суправаджэнні. Даём паўгадзіны на падрыхтоўку... Паўгадзіны. Калі аўтамабіль будзе праз трыццаць хвілін, вызваляем аднаго заложніка, і гэтак далей.

Буза павярнуўся і пайшоў да дзвярэй санчасткі, за якімі яго чакаў Шныр. Намеснік пракурора не ўправіўся сказаць ні слова, хаця перад сустрэчай у думках падрыхтаваў прамову, у якой папярэджваў аб наступствах і пакаранні, калі захопнікі...

Намеснік пракурора, вярнуўшыся ў адміністратыўны корпус, пераказаў начальніку калоніі новыя патрабаванні Бузы. Начальнік быў супраць такога ходу падзей:

— А раптам у дарозе што-небудзь здарыцца, а яны падумаюць, што гэта спроба вызваліць заложнікаў, і заб'юць іх?

У імгненне прамільгнула думка: калі заложнікаў вызваляць тут, то ён будзе начальнікам калоніі, у якога захапілі заложнікаў, але ж і вызвалілі... Калі ж асуджаныя разам з заложнікамі паедуць — ён будзе проста начальнікам калоніі, у якога захапілі заложнікаў...

— У нас няма іншага выйсця, — запярэчыў намеснік пракурора, — гэта доўгі шлях, але бяскроўны.

— Трэба паспрабаваць угаварыць іх не браць з сабою заложнікаў, — прапанаваў начальнік калоніі, — яны вам вераць...

На гэты раз перагаворы вяліся праз дзверы санчасткі. Буза быў няўмольны. Колькі ні ўгаворваў яго намеснік пракурора пакінуць заложнікаў, гарантаваў пераезд у Камінскі ізалятар, — Буза стаяў на сваім. А каб яшчэ раз падкрэсліць, хто ў каго ў руках, нагадаў:

— Засталося 15 хвілін...

Гэта падзейнічала, і ўжо праз дзесяць хвілін перад дзвярамі санчасткі стаяў аўтазак.

— Адпусці літэра, — сказаў Буза Шныру. Той пайшоў у пакой, але хутка вярнуўся:

— Ён не хоча пакідаць жанчын.

Кныр устаў з лаўкі, каб выканаць распараджэнне Бузы, але той спыніў яго жэстам. Ён сам схадзіў у кабінет, пагаварыў з Віктарам, а потым загадаў развязаць Сямёнаўну.

На зоне ўжо ўсе ведалі, што начальства і Буза дагаварыліся аб пераездзе ў Камінск, агульнае напружанне спала. Варта каля дзвярэй санчасткі была знятая, таму Сямёнаўну на вуліцы ніхто не сустрэў. Яна крыху затрымалася на ганку і пайшла прэч ад злашчасных дзвярэй. "А зубы ў мяне больш не баляць", — раптам падумала Сямёнаўна і ў наступны момант асела на ўтаптаны зэкамі снег: сілы пакінулі яе...

***

— Цяпер пра заложнікаў... — сказаў Унучак.

— А заложнікі нам навошта? — пацікавіўся Узякін.







— Ён правільна думае, — падтрымаў Унучака камбат. — Ад паводзін заложнікаў будзе залежаць тактыка вызвалення. Лейтэнант — хлопец малады, яму дваццаць пяць гадоў, начальнік тарнага цэха... Яго жыццю небяспека не пагражае.

— Чаму ты так вырашыў? — запытаўся Узякін.

— Ты маеш справу са злачынцамі на волі, а мы — за дротам. Увесь персанал на зоне зэкі падзяляюць на "чыстых мянтоў" і тых, хто носіць мянтоўскую форму, але іх функцый не выконвае: гэта начальнікі вытворчасці, майстры, дактары, бібліятэкары, настаўнікі...

— Ну, тады і другой жанчыне нічога не пагражае, — сказаў Узякін.

— Дай Бог, — адказаў камбат, — але для яе ёсць іншая небяспека.

— І яна рэальная, калі яны надумалі нешта іншае, чым пераезд з аднае зоны ў другую, — падтрымаў камбата Унучак. — А раптам, выбраўшыся з зоны, яны запатрабуюць машыну і паспрабуюць уцячы разам з заложнікамі? Іх могуць недзе чакаць хаўруснікі...

— Ды ну вас, фантазёры, — абарваў Узякін.

— Трэба падрыхтавацца да любых нечаканасцей, апетыт прыходзіць у час яды, — падтрымаў Унучака камбат. — Яны могуць прыехаць сюды і заявіць, што заложнікаў бяруць з сабою ў камеру. Яны ж разумеюць: пакуль заложнікі ў іхніх руках — яны тузы, а мы — шасцёркі...

— Годзе, песімісты, — сказаў Узякін. — Пра тых, хто да нас прыедзе, мы ўжо ведаем. Давайце прааналізуем свае сілы і сродкі, а таксама агледзім плацдарм баявых дзеянняў.

***

Буза доўга глядзеў на аўтазак, нібыта быў экстрасенсам і спрабаваў пранікнуць у яго нутро, дзе магла хавацца небяспека. Каля машыны нікога не было, але ад гэтага спакайней не рабілася, хутчэй наадварот: аўтазак з адчыненымі дзвярыма нагадваў мышалоўку.

Буза назіраў за аўтамабілем з працэдурнага кабінета, Кныр з заложнікамі знаходзіліся ў кабінеце начальніка сан-

часткі. За спінаю Бузы стаяў Шныр, гатовы ў вокамгненне выканаць любы яго загад.

— Выверні кішэні, — нечакана сказаў Буза.

Вочы Шныра забегалі, аднак ён вывярнуў кішэні робы і паклаў на падваконне некалькі стандартаў тэафедрыну, "канфіскаванага" ў шафе медчасткі. Буза згроб іх адною рукою і выкінуў у фортку, пры гэтым Шныр нават не заўважыў, як спрытна Буза прыціснуў мезенцам да далоні адну ўпакоўку лякарства.

— Выберамся адсюль — усё займеем, — сказаў ён Шныру, — спатыкнёмся — нас, як капусту, пакрышаць. А зараз давай да машыны, правер усё...

З акна было відаць, як Шныр з'явіўся на пляцы, падышоў да аўтазака, з асцярогаю зазірнуў у будку, потым ускочыў у яе. Агледзеў усё, нават пад лаўкамі і ў двух боксіках, у якіх звычайна перавозяць тых, каго трэба ізаляваць ад астатніх асуджаных. Праз хвіліну-другую саскочыў на зямлю і ўпэўнена зазірнуў у кабіну і пад будку. Пасля гэтага сунуў два пальцы ў рот і свіснуў, хоць гэтага можна было і не рабіць: Буза ўважліва назіраў за ім праз акно.

Буза ўвайшоў у пакой, дзе на лаўцы сядзелі Валянціна і Віктар, а перад імі стаяў Кныр з дзвюма заточкамі ў руках, які зняў з Віктара наручнікі і сказаў:

— Зараз я з дамай пайду ў машыну, а ты застанешся тут. Калі мы сядзем у будку, пойдзеце вы. Чым хутчэй мы адсюль паедзем, тым хутчэй вы будзеце дома. Нам вашай крыві не трэба, але і вы паводзьце сябе як належыць... Апраніцеся цяплей...

Ён сам прасачыў, каб Валянціна апранула ўсё цёплае, што толькі было ў яе кабінеце, сказаў "хадзем" так нязмушана, што на душы ў прысутных паспакайнела. У дзвярах на ганку Буза папрасіў у Валянціны прабачэння, левай рукою абхапіў яе шыю, а праваю дэманстратыўна прыставіў заточку да соннай артэрыі...

— Начальнікі, — закрычаў ён, — не дурыце, я іду!

Калі прайшлі палавіну адлегласці да машыны, з-за плота, за якім складвалася і рамантавалася старая мэбля жылой зоны, раздаўся голас:







— Уцякаеш, Буза?

Але Буза і вухам не павёў: такія дробязі не вартыя ўвагі.

Шныр падаў Валянціне руку, і ўсе трое зніклі ў будцы.

Кныр гэтак жа, як і Буза, абхапіў адною рукой галаву Віктара, другой — прыставіў заточку да горла, і рушыў з заложнікам да машыны. Шныр дапамог і Віктару падняцца ў будку, Кныр узлез сам, дзверы за імі зачыніліся, і ў той жа момант у акне будкі з'явілася галава Бузы.

— Начальнік, — зароў ён, — размова ёсць!

Да машыны паспяшаўся ДПНК, але Буза не стаў з ім размаўляць і дачакаўся начальніка калоніі. Буза запатрабаваў прынесці ежы на дарогу, гадзіннік, вядро і тры целагрэйкі, каб мякчэй было сядзець. Пакуль ДПНК нёс усё, што прасілі, начальнік калоніі паспрабаваў яшчэ раз пагаварыць з Бузой:

— Арбузаў, ты свайго дабіўся, не варта спакушаць лёс: адпусці заложнікаў — і едзьце...

— Э не, начальнік, як толькі я іх адпушчу, маё падарожжа тут жа і закончыцца, а я гэтага не хачу...

— Ды кінь ты, — па-свойску прыязна сказаў начальнік, — каму вы патрэбныя цяпер? Вунь і пракурор кажа, што вам жа лепей будзе, калі вы людзей адпусціце...

— Усё, начальнік, закончылі, мне будзе лепей, калі яны застануцца са мною. І не пудрыце мне мазгі, я вас, як рэнтген, наскрозь бачу...

Начальнік адышоў ад машыны, у душы здзіўляючыся інтуіцыі і прадбачлівасці Бузы: сапраўды, у той час, калі Буза і Кныр з заложнікамі пераходзілі з корпуса ў аўтазак, у калонію прыбыла група захопу на чале з двухметровым капітанам з Н-ска, а з імі прыехаў генерал-маёр унутраных войскаў Мараў. У дадзены момант начальнік калоніі ішоў сустрэцца з вайскоўцамі.

Мараў быў моцна незадаволены, што начальнік калоніі, не дачакаўшыся іх, даў магчымасць захопнікам разам з заложнікамі схавацца ў аўтазаку, а сам аўтамабіль быў пастаўлены пасярод пляца — якраз так, каб зручна было толькі захопнікам.

— Ну, ты дадумаўся! — распякаў Мараў начальніка ў прысутнасці малодшых чыноў.

— Вінаваты, таварыш генерал...

Начальнік шкадаваў, што не зацягнуў час перамовамі і даў аўтамабіль: заложнікаў маглі б вызваліць на тэрыторыі калоніі.

Капітан таксама злаваўся. Яго байцы былі прафесіяналамі ў сваёй справе і неаднойчы паспяхова ўдзельнічалі ў рызыкоўных аперацыях, цяпер жа ім давядзецца ў якасці канвою суправаджаць злачынцаў, замест таго каб неадкладна вызваліць заложнікаў. Усім было зразумела: шанц упушчаны.

У пакой увайшоў усхваляваны ДПНК і, нязграбна казырнуўшы, стаў дакладваць начальніку калоніі, што Буза патрабуе таго...

Ад такога парушэння субардынацыі генерал выйшаў з сябе, ён паставіў ДПНК па стойцы "смірна" і пачаў "выхоўваць". ДПНК і начальнік калоніі стаялі чырвоныя, і колькі б гэта доўжылася — невядома, калі б не ўмяшаўся намеснік пракурора вобласці.

— Што ў вас здарылася? — звярнуўся ён да ДПНК.

— Буза... цьфу, Арбузаў патрабуе начальніка калоніі. Сказаў, што яму не падабаецца затрымка з ад'ездам...

Узнікла паўза. Начальнік папрасіў у генерала дазволу выйсці.

— Ідзі, — махнуў рукою Мараў.

— У чым справа, начальнік, — запытаўся Буза ў "хазяіна", калі той падышоў да машыны, — чаму стаім?

— Арбузаў, — сказаў з дакорам начальнік, — гэта ў вас усё проста: прыйшлі, селі, паехалі, — а ў нас канвой не гатовы.

— Валерый Аляксандравіч, — пачуўся голас Віктара з глыбіні будкі, — трэба ехаць, Валянціне блага.

— Валя, — устрывожыўся начальнік, — як ты?

— Нічога, не хвалюйцеся, — адказала Валянціна.

— Холадна ёй, — умяшаўся Шныр.

— Я зараз, Валя, зараз што-небудзь цёплае прынясу... Міша! — закрычаў начальнік. — Прынясі коўдру Валянціне!

— Яшчэ вось што, — сказаў Буза, калі ДПНК усунуў у акно будкі аўтазака прынесеную коўдру, — не падабаюцца мне гэтыя затрымкі... Спыніцца аўтазак у шлюзе ці на сцяну "выпадкова" наскочыць — завалім абодвух, іх кроў будзе на табе...

Начальнік сэрцам адчуў нядобрае і паспяшаўся ў адміністратыўны корпус. Там, у яго кабінеце, заканчвалася кароткая нарада з удзелам Марава, намесніка пракурора і капітана групы захопу.

— Возьмем іх у шлюзе, — сказаў Мараў начальніку калоніі, калі той увайшоў у пакой, — машына рэзка спыніцца насупраць дзвярэй вахты, яны страцяць раўнавагу — і хлопцы паспеюць уварвацца ў будку.

— Яны зачынілі дзверы з сярэдзіны, — сказаў начальнік і, парушыўшы субардынацыю, апусціўся на крэсла. — Буза папярэдзіў: яны падрыхтаваліся — калі машына спыніцца ў шлюзе, заб'юць заложнікаў.

— Блефуюць, — адказаў Мараў.

— Не, так нельга, — умяшаўся намеснік пракурора, — нават калі хлопцы ўварвуцца, як маланка, яны ўсё роўна спозняцца... Лепей гэта зрабіць у дарозе альбо зусім не рабіць, калі, вядома, яны яшчэ чаго-небудзь не запатрабуюць..

— Ну, халера з вамі, едзем, — сазаў генерал, — але ў полі гэта зрабіць будзе яшчэ больш складана...

Буза стрымаў слова: пакуль аўтамабіль не выехаў за вароты калоніі, Кныр і Шныр трымалі заточкі каля горла ў заложнікаў. Потым яны Валянціну і Віктара зачынілі ў боксіках, а самі размясціліся ў будцы. Буза, седзячы за рулём, паглядзеў на гадзіннік і ўпершыню за цэлы дзень задаволена ўсміхнуўся.

***

— Пяць прапаршчыкаў я магу выдзеліць, — сказаў Міхайлавіч, начальнік Камінскага ізалятара.

— Дзесяць маіх хлопцаў з гараддзела, — дадаў Узякін.

— Пажадана бледнатварых, — з'едліва сказаў Сабінаў.

— Чаму? — не зразумеў Узякін.

— Ды з чырвонымі фэйсамі яны не падобныя на зэкаў, — патлумачыў яхідна Сабінаў.

— Вельмі дасціпна, — скрывіўся Узякін, — сам каго дасі?

— Снайпераў, у мяне іх двое, — сказаў камбат, — і дзве вінтоўкі.

— А чаму дзве? Захопнікаў трое — нам тры патрэбны...

— Па штаце паложана дзве...

— Можа, суседзям патэлефанаваць, — прапанаваў Унучак, — пазычым вінтоўку?

— Не трэба, — адказаў Узякін, — знойдуцца ў мяне і снайпер, і вінтоўка... Міхайлавіч, давай сваіх прапаршчыкаў на інструктаж... і целагрэйкі нясі на ўсіх.

Неўзабаве з'явіліся дзесяць чалавек з гараддзела міліцыі. Іх пераапранулі ў целагрэйкі і робы зняволеных, Узякін прыдзірліва агледзеў строй, загадаў схаваць валасы пад шапкі, а таму, хто не змог гэтага зрабіць, — апусціць клапаны.

Пасля агляду сталі думаць, чым узброіць гэтую банду ў турэмных целагрэйках без каўняроў. Штатная зброя не падыходзіла: змагацца, хутчэй за ўсё, давядзецца ў турэмных пераходах, а там бетонныя сцены, і рыкашэту не пазбегнуць — можна сваіх знявечыць. Узбройваць супрацоўнікаў міліцыі і ізалятара гумавымі палкамі наогул несур'ёзна: абстаноўка баявая — і зброя павінна быць баявой.

Узякін і камбат параіліся і адправілі аднаго з міліцыянераў у суседняе СМУ. Праз паўгадзіны той вярнуўся з паўтара дзесяткамі нарэзаных зваркаю прутоў сярэдняй таўшчыні. Узякін узяў прут у рукі, агледзеў.

— Арматура — зброя міліцыянера, як каменне — зброя пралетарыяту, — сказаў ён і даў каманду разабраць пруты.

Далей сталі абмяркоўваць магчымыя варыянты вызвалення заложнікаў. Усяго было тры варыянты. Першы — на выпадак, калі "госці" заедуць на тэрыторыю ізалятара, але не адпусцяць заложнікаў, захочуць забраць іх з сабою ў камеру. Для гэтага варыянта прадугледзелі дзве сітуацыі: вызваляць заложнікаў каля машыны ў двары і ў пераходзе, каля прагулачных дворыкаў, за дзвярыма якіх можна было незаўважна размясціць усю групу захопу.

Другі варыянт — калі "госці" запатрабуюць іншы аўтамабіль. Аўтамабіль даць, але з "сюрпрызам".

Трэці варыянт — вызваленне ў машыне. Гэты выпадак быў самы небяспечны для жыцця заложнікаў. Каб выбіць дзверы ў аўтазаку, давядзецца ўзарваць гранату. Пакуль захопнікі будуць у шоку — паспець вызваліць заложнікаў. Усе разумелі, што гэты варыянт самы дурны...






Унучак прапанаваў распрацаваць і чацвёрты варыянт на выпадак, калі да захопнікаў далучацца іх хаўруснікі на волі і захоп заложнікаў перарасце ва ўцёкі. Але гэты варыянт быў адразу адхілены Узякіным і Сабінавым як немагчымы — "такога быць не можа".

***

Шныр выглянуў у акно аўтазака, наколькі гэта дазвалялі краты.

— Тры, — сказаў ён, — спераду машына з "мігалкай", ззаду "валжанка" і аўтобус з салдатамі.

— Так і павінна быць, — канстатаваў Буза.

— Дзе нас будуць чакаць? — запытаў Кныр.

Буза нічога не адказаў, толькі кіўнуў Шныру прыглядзець за заложнікамі.

Шныр выйшаў у "прадбаннік", спрытна адчыніў заточкаю абодва боксікі, праверыў заложнікаў і вярнуўся ў будку. Машыну моцна кідала на выбоінах.

— Дзе? — зноў спытаў Кныр.

— У адным месцы, — адказаў Буза, — каля чыгункі...

— Каб па чыгунцы ўцячы...

— Кумекай балдою, — пасміхнуўся Буза, — каб мянты так падумалі.

— А канвой? — уставіў Шныр.

— Яму будзе не да нас... Пра канвой паклапоцяцца мае хлопцы, — сказаў Буза, — а мы перасядзем у "жыгуль" колеру кавы і рванем у адваротны ад чыгункі бок.

— Дык дзе? — не суніmaўся Кныр, як бы не верачы, што такое магчыма.

— Дарогу будзем пераязджаць у некалькіх месцах, і кожнага разу трэба падаць хлопцам сігнал — паказаць у акно белую марачку... Але так, каб гэтага не ўбачылі мянты. — Буза выцягнуў з кішэні белую хусцінку і перадаў яе Кныру. — Я скажу, калі... Будзь гатовы.

Кныр пералез у "прымыльнік" і сеў на месца канвойнага. Дзесяткі разоў ён ездзіў у аўтазаку, але на гэтым месцы сядзеў упершыню. Ён зірнуў у адтуліны боксікаў і перавёў позірк на закратаванае акно. Дарога ішла па голым полі. Як можна непрыкметна тут зрабіць засаду? Нават Кныр гэта разумеў. Канвойныя не дурні, адразу сцямяць, што да чаго, і аўтаматамі зробяць рэшата з адных і з другіх. Тым больш што суправаджаюць іх не салдацікі з роты аховы, якія за выраблены зэкамі-ўмельцамі гумавы штампік, што пацвярджае ў ваенным білеце атрыманне воінскага значка, прыносілі на зону гарэлку і чай. Гэтыя гарларэзы нават "стой, страляць буду!" не крыкнуць. Перад вачыма Кныра паўстаў труп уцекача паміж двума радамі калючага дроту. Нехта са зняволеных, каўказцаў, даведаўся, што на вышцы зямляк, палез на дрот і стаў крычаць: "Не страляй, я да мама пайшоў..." Зямляк выпусціў у яго паўмагазіна.

Кныра перасмыкнула ці то ад холаду, ці то ад непрыемнага прадчування. Лепей бы нічога не адбылося, і хлопцы Бузы не паспелі... Нейкі час Кныр тупа глядзеў на аднастайны зімовы пейзаж, і ніводнай думкі не было ў яго галаве ці, як на зоне кажуць, — калгане.

Пачынала змяркацца. З акна дзьмула, Кныру зрабілася зімна, і ён раптам адчуў сябе зняважаным: яго, першага гладыятара зоны, паставілі "на шухеры". Кныр усё-такі не шасцёрка, каб мерзнуць на скразняку. Гэта менавіта ён, Кныр, захапіў заложнікаў.

— Кныр, — данёсся голас Бузы.

Кныр прасунуўся ў дзверы будкі, там было крыху цяплей. Шныр вінавата пазіраў уніз: ён не здолеў прыгатаваць чыфір.

— Чаю не будзе, — сказаў Буза, — пагрэемся інакш.

Ён выцягнуў з кішэні заначаны стандарт тэафедрыну, разламаў напалам і працягнуў Шныру і Кныру.

***

З гараддзела міліцыі прыбыў старшы лейтэнант са снайперскаю вінтоўкай. Ён сядзеў на калідоры на скуранай канапе





і з усмешкай разглядаў сваіх калег у зэкаўскай вопратцы. Паводле першага варыянта вызвалення заложнікаў, аперацыя павінна была пачацца адначасовымі трыма стрэламі снайпераў. Каб "госці" трапілі ў поле зроку стралкоў, быў адгароджаны ўчастак двара, куды павінна заехаць, як у пастку, машына. Засталося прыстраляць вінтоўкі.

— Дзе твае байцы? — спытаў у камбата Узякін.

— А што ім зараз тут рабіць? Машына прыйдзе гадзіны праз дзве-тры...

— І ты вырашыў прывесці іх за пятнаццаць хвілін да аперацыі?

— Не за пятнаццаць, а за трыццаць. Што ім тут рабіць — анекдоты тваіх арлоў слухаць? Гэта салдаты тэрміновай службы, калі яны зараз прыедуць — застануцца без вячэры.

— Іх трэба прывезці цяпер, — сказаў Унучак. — Міхайлавіч накорміць. Калі яны прыбудуць за пятнаццаць хвілін — усё можа сарвацца, тым больш што яны не прафесіяналы. Уявіце сябе на іх месцы: прывезлі ў ізалятар, паставілі каля форткі і сказалі, што прыедуць дрэнныя дзядзькі, якім трэба стрэліць у галаву.

— А калі іх прывезці зараз, дрэнныя дзядзькі перастануць быць дрэннымі?

— А ён мае рацыю, — падтрымаў Унучака Узякін. — Вось мы прыехалі сюды і ніякіх негатыўных пачуццяў да захопнікаў не адчувалі. А даведаліся ўсё пра іх і пра заложнікаў — і завяліся. Не "анекдотаў наслухаюцца" твае хлопцы, а адчуюць нянавісць да захопнікаў і сваю правату. Думаеш, лёгка ўзяць і стрэліць у чалавека? Я на сваіх арлоў гляджу: прыехалі, хіхікалі, а цяпер захопнікі для іх, як кроўныя ворагі. А чаму? Людзі адчулі, што на месцы заложнікаў маглі апынуцца і яны або іх родныя, а заточка — каля іх уласнага горла... Спрэчкі заканчваем, вязі байцоў, а Міхайлавіч накорміць іх вячэраю.

Сабінаў адправіў машыну ў батальён і разам з Унучакам і Узякіным пайшоў праверыць, ці зручна страляць з вокнаў у двор ізалятара. Сталяр выняў шкло з трох шыбін, у калідоры пацягнула сцюдзёным скразняком.

— І чаму заложнікаў захопліваюць не ў ліпені? — пажартаваў нехта з міліцыянераў. Астатнія засмяяліся.

Ад гэтага смеху Унучаку зрабілася сумна. Усё адбывалася не так, як уяўлялася, калі разглядалі аналагічныя сітуацыі на вучэбных занятках. Будзённа і да прымітыву проста... Унучаку падумалася, што лёс не падзяляе людзей на добрых і дрэнных: праз нейкі час і тыя, хто захапіў заложнікаў, і тыя, хто іх будзе вызваляць, і самі заложнікі могуць апынуцца на бруднай турэмнай падлозе, альбо з заточкаю ў горле, альбо з праламаным арматурай чэрапам.

Нарэшце, з'явіліся байцы Сабінава.

— Пацэліш у пачак запалак, — запытаўся Узякін у аднаго з іх, чарнявага, — на дзесяць метраў з оптыкай?

— Не, — коратка адказаў той.

— Ну вось, — павярнуўся Узякін да Сабінава, — а ты кажаш, снайперы...

— На дзесяць метраў, — сказаў салдат, — я без прыцэлу страляю.

Сабінаў пасміхнуўся з дылетанцтва старшага аператыўнага начальніка, які не ведаў, што на адлегласці да ста метраў карыстацца аптычным прыцэлам не мае сэнсу.

Кінулі пачак запалак. Ён упаў на ўтаптаны снег і тут жа падскочыў: яго прабіла куля чарнявага, стрэл другога Сабінавага снайпера разнёс пачак ушчэнт. Настала чарга узякінскага снайпера — ён прамахнуўся. Узякін незадаволена паглядзеў на яго, буркнуў "трэніруйся" і накіраваўся ў корпус. Услед за ім пайшлі Сабінаў, Унучак і Міхайлавіч.

Толькі ўвайшлі ў кабінет, як зазваніў тэлефон. Узякін узяў трубку, выслухаў і выбег з кабінета, на хаду кінуўшы:

— Стралок!.. У чалавека трапіў.

Пазней высветлілася, што снайпер Узякіна вырашыў прыстраляцца з акна другога паверха, а каб выпадкам хто не трапіў пад кулю, загадаў прапаршчыку стаяць каля дзвярэй і нікога не выпускаць у двор. Прапаршчыку ж захацелася паглядзець, як трапна страляе снайпер, і ён прыадчыніў дзверы. У тое ж імгненне куля рыкашэтам адляцела ад умерзлага ў зямлю каменя, трапіла ў дзвярны вушак, адшчапіла ад яго кавалачак дрэва, які і ўпіўся прапаршчыку ў шчаку. Ад нечаканасці і болю той ускрыкнуў і ўпаў. Гэта бачыў са свайго акна ДПНСІ[1] і кінуўся званіць Узякіну: снайпер забіў чалавека.

Неўзабаве ўсе зноў сабраліся ў кабінеце начальніка Камінскага ізалятара. Узякін і Міхайлавіч абмяркоўвалі гэты недарэчны выпадак. Але іх перапыніў званок: па тэлефоне паведамілі, што "госці" і эскорт набліжаюцца да Камінска.

***

Кныр "забалдзеў" мацней, чым Шныр, хоць абодва і ўзялі роўную дозу. Буза "ўмазацца" не пажадаў. Тэафедрын абудзіў у Кныру энергію, якая звычайна вырывалася пад уплывам спіртнога ці наркотыкаў і разбурала ўсё, што траплялася на яго шляху.

— Слухай, Буза, — сказаў ён менш паважліва, чым звычайна звяртаўся да Арбузава, — мы ўсё роўна адсюль вырвемся. Давай бабу адчынім, не прападаць жа дабру...

— І я за тое, — падтрымаў яго Шныр.

— Заткнуліся абодва, — спакойна сказаў Буза. Шныр у імгненне працверазеў і ўспомніў сваё месца. Ён перабраўся ад Кныра на лаўку да Бузы. — Мы не парчугі, — ціха закончыў Буза.

Напамін пра тое, што яны не парчугі, крыху аслабіў напружанасць паміж Кныром і Бузой, але Кныр не супакоіўся:

— Ну, а калі па згодзе?

Гэтым ён паставіў Бузу ў тупік, аднак на хвіліну, пасля чаго Буза сказаў:

— Па згодзе можна...

Кныр выйшаў у "прымыльнік" і, хістаючыся, стаў насупраць боксіка, у якім сядзела Валянціна.

— С-слухай, сяброўка, гэта самае... — ён напружыў свае мазгі ў пошуку слоў, якімі б удалося напусціць чары на Валянціну.

— Адыдзі ад бокса, — сказаў яму Віктар.

Але Кныр зрабіў выгляд, што не пачуў.

[1] ДПНСІ — дзяжурны памочнік начальніка следчага ізалятара.

— Валюха, — нарэшце знайшоў першае ласкавае слова Кныр.

— Адыдзі адсюль, — перасільваючы страх, зноў сказаў Віктар.

— Валюха, бля буду, я цябе люблю... — разрадзіўся Кныр.

На чарговай выбоіне машыну моцна кінула, і Кныр, каб утрымацца на нагах, ухапіўся за акенца боксіка, а потым пачаў заточкаю адчыняць замок. З-за таго, што машыну кідала на няроўнай дарозе, гэта ніяк не ўдавалася, і ён пачаў заводзіцца.

— Адыдзі ад бокса, — на ўвесь голас закрычаў Віктар у надзеі, што яго пачуюць у кабіне.

На гэты раз Кныр адрэагаваў:

— Ах ты, казёл, ды я цябе...

"Па законе подласці" ён адразу патрапіў заточкаю ў адтуліну замка Віктаравага боксіка. Але ў гэты момант атрымаў удар па шыі і асеў на падлогу будкі. Шныр забраў з рук Кныра заточку і пачаў цягнуць яго назад у будку, яму дапамог Буза.

— Перавярні яго, — сказаў Буза Шныру.

Той нахіліўся над Кныром, але ў гэтае імгненне аўтазак нахіліўся на бок — і Буза са Шныром адляцелі да сценкі. Праз хвіліну машына выраўнялася, яе падкінула раз, другі, трэці...

— Марачку! — зароў Буза, зразумеўшы, што яны зараз пераязджаюць чыгунку. Шныр кінуўся выварочваць кішэні Кныра, але хусцінкі не было.

Буза рвануўся ў “прымыльнік”, выглянуў у акно, доўга вылаяўся і пайшоў у будку. Кныр ужо апрытомнеў і трос галавою, седзячы на падлозе.

***

Віктар крануў дзверцы боксіка, яны былі адамкнутыя, а не расчыняліся толькі таму, што крыху заклінілі. Можна было штурхнуць іх каленам, выйсці ў “прымыльнік”, выбіць драўляную засаўку на дзвярах і выскачыць — аўтазак рухаўся на невялікай хуткасці, — але думка пра Валянціну спыніла яго.

— Як ты? — запытаўся Віктар.

— Усё добра, не хвалюйся, — адказала Валянціна.






— Трымайся, хутка ўсё скончыцца, яны цябе не крануць. Буза даў слова...

— Ведаю, — адказала яна, — а ты маўчы, не злуй іх. Добра?

Захопнікаў было не відаць. Ногі замлелі, і Віктар патупаў на месцы, каб размяць іх. Ці думаў ён калі, што давядзецца ехаць у аўтазаку заложнікам? Жыў сабе Віця, вучыўся ў школе, закончыў інстытут, ажаніўся — усё, як у людзей. І раптам трапіў у калонію...

Ён прыгадаў першыя дні на зоне: шэрасць, бруд, мат... Працаваў як вол, але праца не давала радасці, а дом цесця — душэўнага спакою і адпачынку. І ён пачаў затрымлівацца ў кампаніях супрацоўнікаў калоніі. Спачатку з нагоды, а потым і без яе — толькі дзеля таго, каб зняць стрэс і на нейкі час пазбыцца сваёй незадаволенасці жыццём. На адной з вечарынак Віктар пазнаёміўся з ёю... Потым праводзіў яе да веснічак, потым — да парога, потым у яе затрымаўся...

З таго часу ў жыцці нешта змянілася на лепшае. На працы ў яго ўсё ладзілася, а дома нават цешча не магла ім нахваліцца. У яго шэрым і нецікавым жыцці з’явілася салодкая таямніца. І ён ахоўваў яе больш пільна, чым службовыя сакрэты. Ён быў настолькі асцярожны, што нават у думках не называў імя гэтай жанчыны. Дастаткова было толькі раз прагаварыцца, як яе "вылічылі" б калегі — і тады ёй хоць з’язджай з Тараканіна.

Аднак у шчасця ёсць берагі, і Віктар аднойчы адчуў, што яго пачуцці ўжо на прыбярэжнай водмелі. Усё, чым ён некалі быў замілаваны і што яго хвалявала, — аксамітавы грудны голас, сакавітыя губы, пах духоў “Быць можа” і іншае, раней любае сэрцу, — рабілася яму непрыемным. Сустрэчы набывалі прысмак пакуты, а развітанне было ў радасць. І ён пачаў намякаць ёй, што ім трэба расстацца.

Яна не разумела яго, не адчувала, што адбываецца. Наадварот, яна планавала іх сумеснае жыццё, як яны пераедуць у іншы горад, будуць жыць ва ўласнай кватэры, якую купяць мэблю і хто ім дапаможа... А нядаўна яна зразумела, чаму ён нешчаслівы з жонкаю. Тая не можа нарадзіць яму

дзіця, а вось яна народзіць яму хлопчыка — і ў іх усё будзе выдатна.

Ад гэтага "ўсё будзе выдатна" яму рабілася млосна, ён прадчуваў: нешта павінна адбыцца, і гэта чарговы раз зменіць яго жыццё. Але здарылася тое, чаго ён ніяк не чакаў... Ён не першы дзень працаваў у калоніі і ведаў, што абяцанні зэка — пусты гук: зэк трымае слова толькі перад зэкам, ды і то, калі яны аднае масці — злодзей перад злодзеем, парняга перад парнягам, а мужык перад мужыком. Заложнікі для захопнікаў не з'яўляліся "сваімі", і ў гэтым была вялікая небяспека. Заставалася адзіная надзея: можа, пранясе...

У "прымыльнік" зайшоў Буза, прыліп да акна. Аўтазак спусціўся з насыпу чыгуначнага пераезду і паехаў далей па дарозе.

Калі Буза вярнуўся ў будку, Віктар пачуў фразу, сэнс якой не зразумеў:

— Калі яны чакалі нас тут, я цябе на гэтым жа месцы пакладу, — сказаў Буза некаму.

***

Аўтазак заехаў на тэрыторыю ізалятара і спыніўся, бо дарога была перагароджана трактарнымі санкамі. Вадзіцель выключыў матор, стала ціха. З будкі аўтазака саскочыў на зямлю чалавек у целагрэйцы і зэкаўскай шапцы. Ён абышоў машыну, агледзеў пляцоўку і сказаў у будку:

— Усё нармальна.

У гэты момант з акна другога паверха вылецела шкло і разбілася аб мерзлую зямлю на дробныя кавалачкі. Чалавек у целагрэйцы падняў галаву, убачыў у расшклёнай шыбіне ствол вінтоўкі і зароў:

— Назад!

Некалькі супрацоўнікаў з дзвярэй корпуса кінуліся да машыны.

"Тры, чатыры, пяць секундаў", — лічыў Унучак.

— А-а, махнуў рукою Узякін, — доўга, доўга... Яны пераколюць усіх заложнікаў.

— Адставіць! — закрычаў ён. — Усім вярнуцца на свае месцы...






Праз нейкі час Узякін запрасіў у кабінет Унучака, Сабінава і Міхайлавіча.

— Мараў прыехаў, — паведаміў ён. — Ну, зараз пачнецца.

— Трэба патэлефанаваць у "хуткую дапамогу", — прапанаваў Унучак, — няхай на ўсялякі выпадак прышлюць брыгаду.

Зазваніў тэлефон, дзяжурны па гараддзелу міліцыі паведаміў: у горадзе паніка, папаўзлі чуткі, што зэкі, паўнюткі аўтобус, уцяклі з Тараканіна і едуць у Камінск, змятаючы ўсё на сваім шляху.

— Хто такі Мараў? — запытаўся Унучак.

— У-у-у, — як ваўкі ў піліпаўку, завылі міліцыянеры, — зараз даведаешся.

У калідоры пачулася, як нехта барытонам распякае супрацоўніка ізалятара. Дзверы адчыніліся, і ў кабінет увайшлі маленькага росту, каранасты генерал-маёр і намеснік пракурора вобласці. Усе прысутныя выструніліся.

— Ташч генерал, — пачаў дакладваць старшы аператыўны начальнік.

Але генерал спыніў яго пытаннем:

— Што зроблена?

— Распрацаваны план...

— Карацей, — перакасіла генерала.

— Намі.

— Усё ясна, ні храна ў вас няма... Праз хвіліну тут будзе група захопу. Мы загонім іх у шлюз, і калі не здадуцца — возьмем іх там.

Павісла доўгая паўза. Унучак зразумеў, што ніхто з калег не асмеліцца запярэчыць генералу і не скажа, што гэта ў Камінскім ізалятары — самае няўдалае месца для такой аперацыі.

— Мы адпрацоўвалі гэты варыянт, ён не з лепшых, — сказаў Унучак.

Генерал перапыніў яго запытальным позіркам: хто такі?

— Калега з КДБ, — патлумачыў Узякін.

Генерал махнуў рукою і загадаў:

— Размясціце групу і дапамажыце экіпіравацца.

Генерал не кідаў слоў на вецер, праз хвіліну ў кабінет

зайшлі дзевяць чалавек на чале з капітанам і пачалі апранацца. На іх былі плямістыя камбінезоны, бронекамізэлькі, чаравікі на шнуроўцы. Байцы надзелі шлемы, зашчоўкалі затворамі пісталетаў.

— Пісарэнкаў, — звярнуўся да маладога высокага байца капітан, — падрыхтуй гранату.

У душы Унучака зноў узнялася хваля пратэсту: падрыхтаваныя імі варыянты захопу, няхай сабе і менш забяспечанымі спецсродкамі, былі для заложнікаў мінімальна небяспечнымі. Варыянт Марава быў просты, але пакідаў мала шанцаў заложнікам, каб выжыць.

— За мной, — скамандаваў капітан, і група захопу пакінула кабінет начальніка ізалятара. Услед рушылі і прысутныя.

Унучак застаўся ў кабінеце адзін. Ён патэлефанаваў у "хуткую" і папрасіў неадкладна прыслаць брыгаду медыкаў. Там доўга ўдакладнялі, што такое СІЗА, а калі Унучак патлумачыў, адказалі: дык гэта ж турма, трэба было адразу так і сказаць. Аднак усе былі на выкліках, і ў "хуткай" паабяцалі прыслаць машыну, як толькі якая вызваліцца. Унучак па ўнутранай сувязі звязаўся з ДПНСІ і папрасіў яго неадкладна накіраваць да шлюза фельчара з сумкай.

***

У шлюзе камандаваў генерал. Ён загадаў наглуха зачыніць унутраныя дзверы і расчыніць тыя, праз якія будзе ўязджаць аўтазак. На вуліцы стаяла ноч, было ціха, толькі з прыватнага сектара даносіліся сабачы брэх і тарахценне матацыкла.

Праз колькі часу пачуўся гул аўтазака, і машына ўехала ў шлюз. Усе напружыліся: зараз пачнецца. Але вадзіцель не ведаў задумкі генерала і спыніў аўтазак не пасярэдзіне шлюза, а ўпрытык да ўнутраных дзвярэй. "Першы пракол", — падумаў Унучак.

З бакавых дзвярэй з'явіліся генерал і намеснік пракурора вобласці, за імі, як целаахоўнік, ішоў узброены "да зубоў" капітан.

— Арбузаў, — стомленым голасам сказаў пракурор, — мы прывезлі вас у ізалятар, мы выканалі вашы патрабаванні... Выходзьце!

— Не, начальнік, — азваўся з глыбіні будкі Буза, — мы так не дамаўляліся. Вы зачынілі нас у шлюзе і блатуеце. Я папярэджваў, каб машына ў шлюзе не спынялася. Даю дзве хвіліны, каб вывесці машыну назад...

— Добра, — адказаў намеснік пракурора.

Генерал узяў яго за плячо і стаў паціху адводзіць назад, каб вызваліць праход для групы захопу.

"Усё, гэта канец", — адначасова падумалі Сабінаў, Унучак і Узякін.

З бакавых дзвярэй паказаўся Пісарэнкаў з гранатай у руцэ, кальцо ён вырваў яшчэ за дзвярыма. Пісарэнкаў ужо падкрадваўся да машыны, як раптам з акна будкі вылецела і дзынкнула аб бетон заточка, потым яшчэ дзве...

— Усё, начальнікі, — сказаў Буза, — вы ўзялі нас морам... здаёмся...

І тут пачуўся крык капітана:

— Граната, граната!

На шчасце, кальцо засталося ў Пісарэнкава ў руцэ. Чаку ўставілі ў адтуліну, запал выкруцілі...

Першы з машыны выскачыў Шныр, потым Кныр, апошні спусціўся Буза. Байцы з групы захопу ў імгненне абшукалі ўсіх траіх і перадалі супрацоўнікам ізалятара.

У праёме будкі аўтазака паказаліся заложнікі — хлопец у кароткім шынялі і маладая жанчына ў паліто і берэтцы. Жывыя, рукі-ногі цэлыя... Усе з палёгкаю ўздыхнулі.

***

Нервовая напруга спала, і ўсё наўкола зрабілася бесталковым і шумным. Капітан раптам заўважыў, што ў яго прапала зялёная патронная скрынка са спецсродкамі, і кінуўся з некалькімі байцамі яе шукаць. Пісарэнкаў, акружаны астатнімі "спецназаўцамі", трэці раз расказваў, як ледзь не згубіў кальцо. Узякін і Сабінаў не адставалі ад Марава і намесніка пракурора вобласці... З'явіўся капітан з байцамі і знойдзенай скрынкай.

Унучак адвёў Віктара і Валянціну ў кабінет начальніка

ізалятара, але распытваць іх не было магчымасці: следам прыйшлі "спецназаўцы", каб пераапрануцца і сабраць свае рэчы.

Віктар звярнуўся да Унучака:

— У нас праз дваццаць хвілін электрычка, наступная будзе глыбокаю ноччу. Дапамажыце нам дабрацца да вакзала…

— Зараз што-небудзь прыдумаем, — паабяцаў Фёдар і пайшоў шукаць Узякіна.

— Не магу, — адмовіў начміл, — генерала на цягнік везці трэба.

— Да цягніка яшчэ цэлая гадзіна, а электрычка адыходзіць… ужо праз пятнаццаць хвілін. Ты патлумач генералу сітуацыю.

— Ідзі і сам патлумач, — скрывіўся Узякін, але ўсё ж падышоў да Марава. Вярнуўся ён праз хвіліну. — Генерал сказаў, каб машына нікуды не ад’язджала, і заложнікі таксама. Ён хутка вызваліцца і хоча з імі пагаварыць…

Мараў сапраўды вызваліўся праз паўгадзіны і сказаў, што заложнікаў дапытае заўтра пракурор. Сеў з Узякіным у аўтамабіль і паехаў на вакзал.

У гэты час Унучака паклікалі да тэлефона: шэф цікавіўся падрабязнасцямі аперацыі, каб перадаць інфармацыю ва ўпраўленне. Калі Унучак закончыў тэлефонную размову і выйшаў на калідор, там было ціха і пуста. Усе раз’ехаліся, засталіся толькі Узякін, Міхайлавіч і Сабінаў.

— Мужыкі, — сказаў Узякін, — трэба зняць стрэс. У мяне жонка на другой змене, запрашаю да мяне…

— Не магу, — замітусіўся Міхайлавіч, — дзеці ўнукаў падкінулі, трэба дадому.

— Мне таксама час дахаты, — сказаў камбат.

— Ну, калі дахаты… — пасміхнуўся Узякін.

Міхайлавіч і Сабінаў пайшлі да выхаду, следам накіраваўся і Унучак, але Узякін прытрымаў яго рукою.

— Дахаты яму трэба, як бы не так, — яхідна прагаварыў начміл на адрас Сабінава. — Да дзевак паедзе, а жонцы скажа, што на здарэнні быў. Ён мне нейк скардзіўся: не магу зразумець, чаму жонка спакойна мяне сустракае а чацвёртай раніцы са здарэння, а калі з’яўлюся ў гадзіну ночы ад жанчыны — крык уздымае… Што з яго возьмеш? Не опер. Любы опер зразумеў бы даўно, што калі ён вяртаецца са здарэння — прыязджае на машыне, і жонка чуе шум матора, а ад дзевак ён вяртаецца пешшу… Гы-гы…

Яны разам прайшлі праз каморку ДПНСІ, той выпусціў іх на вуліцу без праверкі дакументаў. Перад уваходам у ізалятар стаялі дзве машыны: “уазік” Узякіна і “хуткая дапамога”, з якой выскачыў “медбрат”.

— Мы па выкліку, — звярнуўся ён да Узякіна. — Куды нам ехаць?

— Даўно прыехалі?

— Толькі што.

— Тады на хрэн, з такой хуткасцю можна толькі туды…

***

Вакзал сустрэў іх, як чужынцаў, — насцярожана і варожа. Яны падняліся на другі паверх, адшукалі два вольныя месцы — побач з п’яным мужыком і ягонай жонкай. Той час ад часу засынаў і пачынаў моцна храпці, жонка штурхала яго пад бок, ён прачынаўся і ўзіраўся ў залу пустымі вачыма.

За ўвесь гэты страшны і мітуслівы дзень Віктар прызвычаіўся да становішча чалавека, над якім завіс нож гільяціны. Нож мог сарвацца ў любы момант… Ці страшна яму было? Не, страху ён не адчуваў. З таго моманту, як Кныр выцяў яго ў вуха галавою, ён нібы атупеў, нават вызваленне не выклікала вялікай радасці. Гэтае атупенне не мінула і зараз, яму было нецікавае ўсё. Нават не кранал ні касыя позіркі вакзальнай шпаны, ні п’яны сусед, ні выбухі рогату падвяселенай алкаголем кампаніі мужчын і падлеткаў, апранутых чамусьці ў брызентавыя курткі.

Было на адзінаццатую, калі яны селі ў электрычку. Ездзіць у электрычцы гэтак позна, ды яшчэ ў форме супрацоўніка МУС, было небяспечна, але начаваць на вакзале — тым болей. Электрычка была напоўнена людзьмі, свабодным аказаўся адзін вагон, дзе Віктар з Валянцінай і размясціліся. Але аб гэтым неўзабаве пашкадавалі… У вагоне было мала людзей, таму што якраз там атабарылася шумная кампанія ў брызентавых куртках.

— Глядзі, мянцяра з'явіўся, — сказаў адзін з кампаніі, — у-у, які сур'ёзны...

— І з бабай, — падхапіў другі.

— У іх каханне, чувакі, — аскаліўся трэці, і ўсе заржалі.

— А баба нічога, можна і за вугал з ёю...

Валянціна пацягнула Віктара за рукаў:

— Не звяртай на іх увагі, пойдзем у іншы вагон...

Атупенне пачало рассейвацца, у свядомасць Віктара ўрывалася рэчаіснасць. Працуючы ў калоніі, ведаў: уцякаць ад шакалаў небяспечна... Ён не даў завесці сябе ў суседні вагон, не хацеў, каб шпана падумала, што ён баіцца.

— Пастаім у тамбуры...

— Віця!

— Пастаім.

— Мянцяра, у-у-у... — чулася праз зачыненыя дзверы.

— Не хавайся, мент, мы ўсё роўна цябе дастанем, — пракрычаў нехта з "брызентавых" хлопцаў.

— Не слухай дурняў, хадзем адгэтуль, — угаворвала Валянціна. — Ты быў малайчына, я табою ганаруся. Гэта ты з-за мяне не пайшоў з санчасткі, а Сямёнаўну адправіў... Віця, я так хвалявалася! А мне нельга хвалявацца... Я табе ўчора хацела сказаць: у нас будзе дзіцятка... і цяпер усё будзе добра.

Яна ўзяла Віктара за рукаў шыняля і прытулілася ілбом яму да грудзей...

***

Узякін дастаў з серванта чаркі, нарэзаў каўбасы, выцягнуў з халадзільніка пачаты слоік салёных агуркоў, разбоўтаў у вадзе сочыва і, не знайшоўшы патрэбнай пасудзіны, наліў прыгатаваны морс у вялікую крышталёвую вазу.

— Бачыла б зараз жонка, куды я морс наліваю, — памерла б, — пажартаваў Узякін.

Сервіроўку стала завяршыла запацелая ад холаду бутэлька "Пшанічнай".

Гаспадар наліў гарэлку ў чаркі і запрасіў Фёдара:

— Ну, давай, за шчаслівае заканчэнне аперацыі!

— Давай, — пагадзіўся Фёдар.







Закусілі... Узякін зноў наліў чаркі, але з тостам не спяшаўся.

— Вось ты прыехаў да нас, — звярнуўся ён да госця, — а ці ведаеш ты, што за горад Камінск?!

— Горад як горад...

— Э, не, Камінск — гэта цэнтр Расіі. Я яшчэ ў школе, на ўроку геаграфіі, змераў адлегласць ад Камінска да заходняй мяжы і да ўсходняй — аказалася роўнай... Камінск — гэта сэрца Расіі, зразумеў?

Выпілі за Камінск. Узякін прапанаваў:

— Давай Сабінаву патэлефануем, — і, не дачакаўшыся адказу Унучака, набраў нумар. — Так і ёсць, жонка адказала, што на здарэнні, гы-гы-гы... Слухай, КДБ, куды мы коцімся?

— Не ведаю...

— А-а, цямніла, у бардак мы коцімся. Ты думаеш, мы расхлябалі сёння гэтую кашу, і ўсё? Не-е, гэта толькі першыя ластаўкі. Хутка мы штодня будзем выязджаць на такія здарэнні.

— Угу, — вяла адрэагаваў Фёдар.

Выпілі па трэцяй. Узякіну карцела выказацца:

— Ты працаваў з дысідэнтамі, а яны людзі культурныя, заточак да горла не прыстаўляюць...

— Не працаваў я з дысідэнтамі, — узлаваўся Фёдар.

— Ну добра, прабач, — прыклаў руку да сэрца Узякін, — давай яшчэ па кроплі...

Неўпрыкмет распілі бутэльку, гаспадар тут жа прынёс другую і ўзнёсла сказаў:

— За тых, каго мы сёння выратавалі!

— Выратавалі? Гэта ты моцна сказаў... Ды калі б зэкі іх не адпусцілі, ляжалі б яны ў моргу, — не стрымаўся Фёдар.

— Так ужо і ў моргу, — запярэчыў Узякін. — Ты думаеш, у Марава гэта першыя заложнікі?

— Калі паглядзець, як ён арганізаваў вызваленне, безумоўна...

— Дарэмна ты так, генерала можна зразумець.

— Тады і Бузу таксама можна зразумець: і ён ахвяра абставінаў. Генерал змушаны рабіць так, Буза — гэтак...

— А ў гэтым нешта ёсць, — здзівіўся Узякін, — мы ўсе заложнікі нечага. Буза і яго хаўруснікі — заложнікі зладзейскіх правілаў, генерал і мы з табою — заложнікі іншых правілаў...

— І ў гэтым разе сапраўдныя заложнікі ўжо нібыта і не заложнікі, іх браць у разлік не варта... Кінуў у будку гранату і адрапартаваў: у ходзе аперацыі заложнікі загінулі.

— А як бы ты вызваляў? — запярэчыў Узякін. — Для нас гэта зараза новая, мы да яе не гатовыя. Такіх сродкаў, як на Захадзе — аглушыць, выклікаць шок, — не маем...

— Годзе, — сказаў Фёдар, — так мы далёка зойдзем: няма ў нас гэтага, няма іншага... Я думаю, у нас няма пачуцця, што мы за людзей у адказе. Генерал, ты, я грошы атрымліваем за тое, каб людзей абаранялі, і мы павінны зрабіць, каб усё было "ціп-топ"... А мы нават у драбязе людзям адмовілі: не далі машыну, каб яны своечасова паехалі дадому. Вось што нас характарызуе...

— Даліся табе гэтыя заложнікі. Ды і заложнікамі яны былі ў будцы аўтазака, а калі вызвалілі — сталі звычайнымі грамадзянамі. Наша справа — вызваліць, а развозіць па вакзалах — не наш клопат. — Давай лепей вып'ем, — і Узякін адкарваваў бутэльку.

— Не хачу...

— Ты што, не мужык? Па адной...

— Не буду піць...

— Годзе табе, — прымірэнча сказаў гаспадар, — ужо і пакрыўдзіўся, давай мірыцца... Во, памераемся на руках — хто пераможа, таго і праўда будзе, — і Узякін, адсунуўшы талеркі, паставіў локаць на стол.

— Адчапіся.

Каб раззадорыць Унучака, Узякін тыцнуў яго ў плячо даланёю. Удар быў не моцны, але бесцырымоннасць начміла пакрыўдзіла Фёдара, і ён адказаў кароткім тычком у жывот. Гэта толькі распаліла Узякіна, ён абхапіў госця, каб адужаць. Унучак, вырываючыся, пацягнуў начміла ўправа, а потым рэзка рвануў улева — той не ўтрымаўся і, падаючы, зачапіў стол. Крышталёвая ваза з недапітым морсам грымнулася аб падлогу і раскалолася.

— Ух... яціць тваю, — амаль працверазеў Узякін і ўзяўся за галаву.

— Дагуляліся, — сказаў Фёдар, — я, відаць, пайду.

— Давай, — адказаў Узякін, у думках падбіраючы тлумачэнні для жонкі, якая неўзабаве павінна была вярнуцца з другой змены...

***

Да кватэры Нікалаева Унучак дайшоў без прыгод. Была глыбокая ноч. Ён пачысціў зубы і лёг у ложак, але заснуць не мог. Узгадваліся размова з шэфам, снайперы, генерал, Пісарэнкаў з гранатай, заложнікі... Яму хацелася запісаць думку, выказаную п'яным Узякіным: мы ўсе заложнікі чаго-небудзь. Пакуль адгортваў чыстую старонку ў нататніку, позірк выхапіў раней запісаны выраз: "Смерць аднаго чалавека — трагедыя, смерць мільёнаў — статыстыка". Каб канчаткова не забыцца, што зараз хацеў занатаваць, Унучак пачаў пісаць усё, што прыйшло ў гэты момант у галаву. Вырашыў перачытаць і адрэдагаваць запіс заўтра, на свежую галаву, і пастараўся заснуць...

***

Стаяла ясная марозная ноч, зоркі ў небе былі яркія і буйныя. Апусцелі вуліцы, пагаслі вокны ў дамах, Камінск заснуў.

Шныр нейкі час кідаўся па камеры, але потым супакоіўся. Думка, што справа, якую яны правярнулі разам з Бузою, падвысіць ягоны аўтарытэт у тым асяроддзі, дзе яшчэ доўга давядзецца жыць, саграваў яго.

Даўно спаў Кныр. Яму снілася, як пад ягоным кіраўніцтвам група "гладыятараў" бярэ заложнікаў... Сярод заложнікаў быў і Буза. Ён укленчыў перад Кныром і прасіў прабачыць за ўдар рукаяткай заточкі па патыліцы...

Спаў Буза. У сваіх снах ён не бачыў ні Шныра, ні Кныра. Перад тым, як заснуць, ён згадаў пра таго і другога, але не

пакаяўся, што надурыў іх. Буза не ўмеў спачуваць, тым болей што на зоне не шкадуюць пакрыўджаных, ашуканых, апушчаных.

Буза спаў спакойна, як чалавек, які дасягнуў задуманай мэты. Ён прайграў барацьбу за месца пахана ў Тараканінскай калоніі і вырашыў "зваліць" на другую зону, але "зваліць" так, каб ажно чарцям было моташна і каб усе памяталі Бузу. Ён падмануў Кныра і Шныра: ніхто ні на якім пераездзе іх не чакаў! Ён справакаваў паводзіны Кныра ў машыне, каб той "прамаргаў" сігнал.

Пасля сваркі з жонкаю спаў "граза" блатнога свету Камінска — Узякін.

Асцярожна, каб не разбудзіць суседзяў і жонку, вяртаўся дадому "са здарэння" Сабінаў.

Далей і далей ад Камінска імчала ў начы электрычка. Яе пасажыры, седзячы ці стоячы, драмалі. Віктар і Валянціна паранейшаму стаялі ў тамбуры вагона, у якім шалела п'яная кампанія.

І сама зямля імчала ў чорным космасе. А разам з ёю ў невядомасць ляцелі жыхары адной шостай часткі сушы, пра якіх Унучак у гэтую ноч напісаў у сваім нататніку — "заложнікі палітыкаў"...

***

Тэлефонны званок разбудзіў Унучака а дзевятай раніцы, і ён адчуў: нешта здарылася. Званіў Узякін.

— Федзя, — сказаў ён, — выбачай: твой шэф загадаў нічога табе не казаць, але я ўсё-такі вырашыў дзынкнуць. Ты сам потым рашай, як быць... На чыгунцы нейкая банда ўзяла ў цягніку заложнікаў. Транспартная міліцыя ўхітрылася вагон адчапіць і загнаць у тупік... Ты мяне зразумеў?

— Зразумеў, — адказаў Фёдар і адчуў, што халодаюць рукі.

— Там былі... пасажыры "цягніка здароўя"...

— Наталля?

— Дакладна не ведаю, аднак шэф загадаў табе не паведамляць, так што не выключана...







— Куды прыйсці?

— Выйдзі на вуліцу і "выпадкова" перастрэнь нас, мы выязджаем праз некалькі хвілін. Зрабі так, каб шэф не здагадаўся, што мы цябе праінфармавалі.

Як апранаўся і як бег па вуліцы, па якой павінны ехаць на падмогу "транспартнікам" Узякін з міліцыянерамі, Унучак не ведаў. Апамятаўся ўжо ў машыне, побач з шэфам і незнаёмым міліцыянерам. Узякін сядзеў спераду, маўчаў і не азіраўся. Шэф выглядаў незадаволеным, напэўна, здагадаўся, што Унучак невыпадкова сустрэўся ім на дарозе.

У чыгуначным тупіку сапраўды стаяў вагон. Некалькі міліцыянераў з караткаствольнымі аўтаматамі ў руках хаваліся за бетоннымі плітамі, некалі забытымі тут будаўнікамі. "Хуткая" спынілася на пад'ездзе да тупіка, з-за аддаленасці Унучаку здалося, што з яе акна вытыркаецца шавялюра "медбрата", якога ён бачыў ужо ўчора.

Унучак падышоў да міліцыянераў за плітамі і звярнуўся да высокага лейтэнанта, падобнага вусамі на Будзённага:

— Чаго яны патрабуюць?

— Нічога, — адказаў лейтэнант.

— Навошта ж яны ўзялі заложнікаў? — здзівіўся Унучак. — Поўны абсурд...

— А-а-а... — лейтэнант вылаяўся, — тут усё жыццё абсурд... Яны заявілі, што праз кожныя тры гадзіны будуць аддаваць па заложніку пры ўмове, што мы не станем іх атакаваць. А каб мы не падумалі, што гэта пустыя словы, забілі аднаго, праўда, незразумела, каго — свайго ці пасажыра... Аддаюць, як і абяцалі, праз тры гадзіны па чалавеку, але з перарэзанымі жыламі на нагах.

— А вы?

— А што мы можам зрабіць? Пайсці на штурм — сябе і заложнікаў пакласці, а так яны няхай і калекамі, але жывымі застануцца.

— Ну, а калі захопнікаў зацікавіць чым-небудзь, патаргавацца?

— Па-першае, няма чым таргавацца, а па-другое, яны нічога не хочуць.

— Яны што, камікадзе?

— Хто ведае? Можа, вырадкі якія...

— Шмат засталося пасажыраў?

— Здаецца, не... Жанчына там маладая, ехала з Камінска ў Лужбу здароўя набрацца...

— Колькі захопнікаў?

— Пяць-шэсць, але страляе толькі адзін. Відаць, што спец: выбраў зручную пазіцыю, да яго без трупаў не наблізіцца. Ён страляе, а астатнія шалеюць...

— І чаго вы чакаеце?

— Чакаем, калі апошняга заложніка аддадуць, а потым самі здадуцца альбо перастраляюць адзін аднаго... Гэта будзе лепшы варыянт, бо на суд няма надзеі — іх прызнаюць псіхамі, і на тым канец.

Падышоў Узякін.

— Ну што, яна там? — запытаўся ў Фёдара.

— Зараз праверым, — адказаў Унучак і закрычаў: — Натка-а-а!

— ...дзя-я, — пачулася з вагона, а следам — выбух рогату.

— Узякін, — сказаў Фёдар начмілу, — схавайся з таго краю плітаў і адцягні ўвагу стралка, а я дабяруся да дзвярэй вагона. Калі мне не здраджвае зрок, яны нават не зачынены... Пакуль буду бегчы, страляй бесперапынна.

— Фёдар Сцяпанавіч, — звярнуўся шэф, — я вам забараняю...

Унучак змоўчаў. Ідэя ашукаць стралка была разумная: стралок, у адрозненне ад астатніх у вагоне — абколатых ці абкураных, будзе змушаны хавацца ад куль і не зможа бачыць усю прастору перад вагонам.

Ён узяў аўтамат у высокага лейтэнанта, праверыў, ці поўны магазін, пачакаў, пакуль Узякін дойдзе да супрацьлеглага краю плітаў і дасць чаргу па акне, з якога страляе “спец”. “Та-та”, — выразна, як на стрэльбах, адсек Узякін два патроны, шкло ў прыадчыненым акне разляцелася. Унучак кінуўся да вагона з усіх ног, молячы Бога, каб дзверы былі не замкнёныя.

Дзверы былі не на замку. Фёдара ахапіла лютая злосць







на лейтэнанта і яго каманду: тое, што ён робіць зараз, даўно можна было здзейсніць, і не было б падрэзаных жылаў і трупа пад коламі вагона.

Узякін перастаў страляць, напэўна, мяняў магазін. “Ён можа гэта зрабіць, а я не, — падумаў Фёдар, — таму патроны трэба берагчы да поўнага візуальнага кантакту са стралком...”

Фёдар аддыхаўся і махнуў аўтаматам Узякіну. У той жа момант па супрацьлеглым канцы вагона ўдарыла аўтаматная чарга. Унучак адным махам ускочыў на буфер, адчыніў дзверы і знік усярэдзіне. Перад ім былі другія дзверы. Ён ударыў у іх нагою і даў чаргу ўздоўж прахода.

Узякін паліваў агнём той край вагона, у паветры вісела хмара з асколкаў шкла, крошак пластыку і дрэва.

Стралок стаяў да Унучака спінаю. Фёдар збіраўся падбегчы бліжэй да яго, але спыніўся і пачаў страляць у яго праз увесь вагон, той прагнуўся і ўпаў. З суседняга купэ выскачыў хлопец у "штармоўцы" і таксама паваліўся. Фёдар пераступіў цераз яго труп і рушыў па праходзе, страляючы ў кожнае купэ, пакуль не скончыліся патроны... Толькі тады ён заўважыў, што ў вагоне з’явіліся Узякін і міліцыянеры.

— Дзе яна? — выгукнуў Узякін.

Унучак адразу абмяк і апусціўся на падлогу.

— Там, — кіўнуў ён галавою ў бок, дзе ляжаў забіты стралок.

— Хто яе? — запытаўся Узякін.

— Ты, — адказаў Фёдар, — ён прыкрыўся ёю, калі ты пачаў страляць...

— Та-а-к, сітуацыя, — сказаў шэф, — а я не раіў тэлефанаваць яму дамоў, ён жа ў водпуску... Цяпер "тлумачальную" пісаць давядзецца.

Фёдар ускіпеў, у яго заняло дыханне, ён ірвануўся і... прачнуўся.

“Дзякаваць Богу, гэта толькі сон”, — была першая думка пасля абуджэння...

Ён паваляўся яшчэ трохі ў ложку, аднак асалоды ад гультайства, якая з’яўляецца звычайна пасля цяжкай працы, не

адчувалася. У роце быў непрыемны смак і крыху цягнула на ваніты. Фёдар вырашыў пераадолець гэты стан, ускочыў, заслаў ложак, прыняў душ, пачысціў зубы. Потым склаў рэчы ў дарожную сумку і паставіў яе каля дзвярэй. Трэба было сыходзіць у свой інтэрнацкі бярлог, але гэтага не хацелася, ён узяў з кніжнай паліцы дэтэктыў і ўладкаваўся на канапе.

Чытанне перарваў тэлефонны званок.

“Нікалаеў тэлефануе, — падумаў Фёдар, — будзе пытацца, калі ён можа прыйсці дамоў...”

— Фёдар Сцяпанавіч? — запытаў знаёмы голас. — Гэта сапраўды вы, Фёдар Сцяпанавіч? — перапытаў той.

— Я, — адказаў Унучак. — Хто яшчэ ў адпачынку будзе сядзець каля тэлефона і чакаць, калі яго выклічуць на чарговае здарэнне?.. Што адбылося?

Прадчуванне, навеянае трывожным сненнем, падступіла да сэрца.

— ЧП у нас, — сказаў шэф, — вам і Узякіну давядзецца даваць тлумачэнні...

— Што здарылася?

— Вы чаму не забяспечылі адпраўку сведак?

— Каго?

— Сведак, ну тых мужчыны і жанчыны, якія ехалі разам з захопнікамі?

“Ехалі, — падумаў Унучак, — табе б так праехацца, слова якое знайшоў — ехалі...”

— А ў чым справа?

— Следчы іх чакае ў калоніі, каб дапытаць, а іх няма і няма... Сталі шукаць...

— І што?

— Ноччу нейкія хуліганы выкінулі іх з электрычкі.

Унучак апусціў трубку...

**Падрыхтавалі да друку**
**Ю. СТАНКЕВІЧ і А. СІДАРЭВІЧ.**









# Сільвія Плас

*Я зрабілася занадта чыстай для цябе.*
*І цяпер Тваё цела — гэта нястрыманы боль.*

# ПРА СІЛЬВІЮ ПЛАС

Сільвія Плас (1932–1963) лічыцца адной з самых выбітных паэтак у амерыканскай літаратуры. Яе творчасць моцна паўплывала на сучасную англійскую паэзію, якая, дарэчы, вельмі розніцца ад амерыканскай.

Сільвія Плас нарадзілася ў 1932 годзе ў Масачусэтсе, яе ранняе дзяцінства прайшло ў Вінстрапе, непадалёк ад Бостана. Бацькі маці былі родам з Аўстраліі, бацька Сільвіі – Ота Плас – яшчэ падлеткам пераехаў у Амерыку з Польшчы, зрабіў паспяховую кар'еру выкладчыка англійскай мовы, потым заняўся батанікай, вывучыўся на прафесара і стаў сусветна вядомым спецыялістам па пчолах.

Вялікая перамена ў сям'і адбылася ў 1940 годзе, калі пасля цяжкай хваробы (на дыябет) бацька памёр. Уся сям'я (бабуля, дзед, маці, брат і яна) пераязджаюць ў горад Вэлслі, кансерватыўны прыгарад Бостана. Маці знайшла сабе месца выкладчыцы ў Бостанскім універсітэце і цалкам сканцэнтравалася на працы. Бабуля занялася хатняй гаспадаркай, а дзед, каб дапамагчы пракарміць унукаў, пачаў працаваць у рэстаране. Бабуля і дзядуля прысвячаюць сябе ўнукам і жывуць толькі імі. Але менавіта ў гэты час Сільвія перажывае першую дзіцячую дэпрэсію, звязаную з адсутнасцю бацькі. Яна разумее, што ніхто не здольны запоўніць яго месца. У сваіх думках дзяўчынка вінаваціць яго ў заўчасным адыходзе, у тым, што ён не прысутнічае ў яе дзяцінстве, хаця яна любіць яго больш за ўсіх. Гэтая тэма пазней падрабязна і напружана адлюстравалася ў вядомым вершы "Тата", дзе самы дарагі чалавек параўноўваецца з ворагам, што знішчыў яе дзіцячы спакой, шчасце і ўпэўненасць у будучыні. Верш вытрыманы ў рытме калыханкі, і гэта абвастрае эмацыянальную напругу.

У школе Сільвія лічылася вельмі здольнай вучаніцай, яна пісала вершы, малявала, прымала ўдзел ва ўсіх творчых мерапрыемствах.

Першыя публікацыі з'явіліся толькі дзякуючы ўпартасці маладога аўтара. Напрыклад, каб здзейсніць сваю мару і надрукавацца ў прэстыжным літаратурна-мастацкім часопісе "Семнаццаць", Сільвія даслала туды 45 розных рукапісаў! І толькі пасля гэтага з'явілася яе першае апавяданне "І лета больш не вернецца" – 1950 год. У тым жа годзе паэтку заўважыў, пасля плыні рукапісаў, іншы вядомы часопіс – "*The Christian Science Monitor*", надрукаваўшы верш "Горкія суніцы". У 1950 годзе Сільвія паступіла ў самы вялікі ў свеце жаночы каледж – Сміс коледж. Яна змагла там вучыцца толькі дзякуючы дзвюм прапанаваным ёй стыпендыям: адной – ад самога каледжа, і другой – ад прыватнага фонду вядомага ў той час аўтара *Olive Higgins Prouty* – Міс Праўці, – пазней сябра і эмацыянальнага заступніка. У студэнцкія гады стаўленне Сільвіі да паэзіі было строга рацыянальным, яна вывучала шматлікія англійскія слоўнікі, рэгулярна вяла дзённікі.

Для ўсіх старонніх Сільвія здавалася ўзорам поспеху і шанцавання. Але ў адным са сваіх лістоў яна прызнаецца: "На некалькі знешніх поспехаў у маім жыцці прыходзіцца безліч няўдач". Адна яе знаёмая неяк заўважыла, што Сільвія была падобная да чалавека, які не мог чакаць жыцця, а імчаўся яму насустрач, прымушаючы здарацца падзеі і з'явы.

Адным з самых любімых пісьменнікаў, якімі асабліва захаплялася Плас у студэнцкія гады, быў Ф.М.Дастаеўскі. Сільвія нават напісала некалькі крытычных прац аб ягонай творчасці.

У 1952 годзе Сільвія стала пераможцай творчага конкурсу, прапанаванага самым элітным часопісам таго часу "*Mademoiselle*". Апавяданне "Нядзеля з Мінтанс" было адзначана прэміяй. Сільвіі Плас, як і ўсім астатнім фіналістам конкурсу, была прапанавана месячная праца ў гэтым часопісе (з зарплатай) у Нью-Ёрку. Дзяўчына ладзіла інтэрв'ю з самымі вядомымі асобамі, вучылася рэдагаваць у лепшых майстроў, разбіралася ў сакрэтах літаратурнай працы і ўменні "падаць" сябе ў любых абставінах. У літаратурным свеце таго часу Сільвія вядомая як "папялушка", якая, апынуўшыся навідавоку, адразу заняла самае бачнае месца. Перад ёй адкрываюцца неверагодныя магчымасці...

Але ў 1953 г. яна знянацку трапіла ў моцную дэпрэсію, якая хутка перарасла ў хваробу. Спачатку Сільвія сама шукае сабе добрага псіхіятра, але трапляе на дактароў, якія дадаюць хворай яшчэ больш комплексаў. Той факт, што маці яе спачатку не верыць хваробе, адносіць яе на дрэнны настрой, яшчэ больш ускладняе становішча Сільвіі, якая некалькі разоў імкнецца скончыць жыццё самагубствам. Дзяўчыну ратуе толькі тое, што яна выпадкова трапляе ў рукі цудоўнага

псіхіятра Рус Б'ешэ, якая кладзе Сільвію ў спецыяльную клініку. Там, пасля некалькіх месяцаў інтэнсіўнага лячэння, яна папраўляецца. Усе падзеі гэтага перыяду Сільвія пазней падрабязна апісала ў рамане "*The Bell Jar*" ("Бляшанка, якая звініць").

Пасля хваробы Сільвія вяртаецца ў свой каледж. Рус Б'ешэ добра падрыхтавала дзяўчыну да магчымых кпінаў (усе ведалі, дзе знаходзілася Плас на працягу апошніх месяцаў). У каледж яе прывозіць сама Міс Праўці — вядомы літаратар і спонсар Сміс коледжа... Магчыма, таму Сільвію сустракаюць з разуменнем і спагадай.

З гэтага часу Сільвія стала надаваць увагу сваёй знешнасці і ператварылася ва ўпэўненую прыгажуню. Пра гэта сведчаць не толькі водгукі яе паклоннікаў (дарэчы, у Сільвіі іх заўсёды было шмат), але і шматлікія прызы на конкурсах прыгажосці, якія яна атрымлівала ў сваім каледжы і пазней у Еўропе... Зноў друкуюцца вершы і апавяданні. Пасля заканчэння Сміс коледжа ёй адразу ж прапаноўваюць самую прэстыжную гадавую стыпендыю ў Кембрыджскім універсітэце. У Еўропе яна даволі хутка ўсталявала свой паэтычны аўтарытэт. І прапанаваная на другі год стыпендыя — лепшае таму сведчанне.

Ва універсітэце яна сустрэла англійскага паэта-пачаткоўца — Тэда Хюджа, які пазней стаў вядомым літаратарам. Неўзабаве яны бяруць шлюб (16 чэрвеня 1956 года). Спачатку ўсё было цудоўна. Маладая сям'я расла прафесійна, шмат вандравала, абмяркоўвала творчыя і прыватныя планы. Праз год маладыя муж і жонка пераехалі ў Амерыку, дзе Сільвія пачала выкладаць у сваім Сміс коледжы, імгненна набыла рэпутацыю лепшага выкладчыка, але падрыхтоўка да заняткаў забірала ўсе яе сілы. Таму даволі хутка яна прымае рашэнне — кінуць акадэмічную кар'еру і цалкам аддацца творчасці. Сільвія і Тэд зноў вяртаюцца ў Англію. Адно за другім з'яўляюцца дзеці, дзяўчынка і хлопчык. Тэд у гэты час шмат піша, каб пракарміць сям'ю. Ён хутка набывае славу самай яркай літаратурнай зоркі. Гэта захапляе і адначасова насцярожвае Сільвію. Амбітная, яна раўніва сустракае паэтычную вядомасць мужа. Іх фінансавае становішча паляпшае літаратурны грант, выдзелены Плас як перспектыўнай творцы для напісання рамана. Шмат дапамагае маці, якая, каб захаваць здароўе дачкі, часта (наколькі гэта было магчыма пры яе занятасці) прыязджала, хутка знайшла ў Амерыцы няню і адправіла яе ў Англію да сваіх унукаў.

Сільвія заўсёды друкавалася, дзе толькі магла, шчыруючы на сваю славу і аўтарытэт. У адным з лістоў яна піша: "Нішто не смярдзіць гэтак, як стос ненадрукаваных вершаў"... У гэты час з-пад пяра Сільвіі з'яўляюцца зусім іншыя вершы, яны пішуцца без усялякай падрыхтоўкі. Пазней Тэд, прачытаўшы "Цюльпаны", заўважыў, што гэты верш быў першай адзнакай таго, што павінна было здарыцца. У сям'і пачынаюцца непаразуменні, і пасля адпачынку ў Ірландыі Сільвія і Тэд вырашылі пажыць асобна. У гэты час Тэд захапляецца іншай жанчынай.

Хутка Плас знайшла прэстыжную працу ў Лондане, зняла асобную кватэру і перабралася туды з дзецьмі. Яна працягвае пісаць вершы, якія ў гэты час здзіўляюць усіх (нават яе самую) колькасцю і якасцю. Вонкі яна выглядае дужай маладой жанчынай, здольнай, нягледзячы ні на якія цяжкасці, уладкаваць свой творчы і асабісты лёс. Але на самай справе ўсё было інакш. Сільвія пачынае шукаць маладзейшага доктара, ёй выпісваюць розныя лекі для кантролю і падаўлення хвалявання. Але новы доктар, у адрозненне ад Рус Б'ешэ, не можа аператыўна справіцца з хваробай. І ў лютым 1963 года Сільвія Плас скончыла жыццё самагубствам, пакінуўшы без маці двух дзяцей. Ніхто не можа сказаць, чаму... Лепшы адказ, які можа знайсці чытач, — напэўна, у канцы яе рамана "*The Bell Jar*", што пасля смерці аўтара хутка распаўсюдзіўся не толькі ў Англіі, але і на яе радзіме, у Амерыцы. На апошняй старонцы на "аптымістычнай" ноце апісваецца вяртанне з клінікі: "Як я магу быць упэўненай, што калісьці — у каледжы ці, можа, дзе-небудзь у Еўропе — гэтая гуллівая бляшанка з задушлівай крывізной не наблізіцца да мяне зноў?"

Да гэтага часу паэзія Сільвіі Плас прыцягвае чытачоў свету. Многія англамоўныя крытыкі лічаць, што яе творчасць будзе ўспрымацца будучымі пакаленнямі з той жа павагай, як і творчасць Вірджыніі Вульф (якая, дарэчы, таксама была ў цісках падобнай хваробы). Дастаткова сказаць, што творчасць Сільвіі падрабязна вывучаецца амаль ува ўсіх літаратурных праграмах амерыканскіх інстытутаў (і ў многіх літаратурных праграмах Англіі), пра што я даведалася з досведу канферэнцый.

Як перакладчыца прызнаюся, што вершы Плас перакласці на іншую мову амаль немагчыма. Як можна перанесці на паперу крыкі болю, у якіх кожны гук знаходзіцца дакладна на сваім месцы, — таму і захоўваецца, не прыглушаецца агульнае рэха радкоў... Але ўсё ж такі, спадзяюся, беларускія чытачы адчуюць боль душы Сільвіі Плас праз яе паэзію, якая вельмі адрозніваецца ад класічных традыцый нашай, ды і ўсёй еўрапейскай літаратуры.

**Алена ЯКАЎЛЕВА**

## ЛЮСТРА

Я срэбнае і дакладнае.
У мяне няма наперад падрыхтаваных уяўленняў —
усё, што бачу, глытаю імгненна ў тым выглядзе,
у якім яно існуе —
без туману кахання, без непрыязні.
Я не жорсткае, а толькі праўдзівае —
як чатырохмернае вока нябёсаў.
Большасць часу я абдумваю супрацьлеглую сцяну… —
яна ружовая, з крапінкамі —
я ўзіралася туды столькі, што цяпер мне здаецца,
што гэта — частка майго сэрца.
Але сцяна зіркае.
Твары і цемра раздзяляюць нас зноў і зноў.

Цяпер я возера…
Жанчына нахіляецца над ім,
выкарыстоўваючы мае багацці, каб разабрацца,
хто яна на самай справе.
Потым… адварочваецца да тых хлуслівых істот —
свечкі і поўні.
Я бачу яе спіну і аддана адлюстроўваю.
Яна ўзнагароджвае мяне слязамі і хваляваннем рук.
Я вельмі важнае для яе.
Яна адыходзіць, каб з'явіцца зноў.
Кожным ранкам яе твар замяняе цемру.
Ува мне яна — маленькая дзяўчынка.
Ува мне яна — старая жанчына,
што плыве ў кожны свой дзень, як страшная рыбіна.

*1961*







## ЦЮЛЬПАНЫ

Якія дзіўныя захапляльныя цюльпаны.
Навокал — зіма. Зірні, якое ўсё белае, спакойнае,
наскрозь прачнежанае.
Я ляжу сама па сабе і вывучаю спакой —
як святло ляжыць на гэтых сценах, на гэтым ложку,
на гэтых руках.
Я — ніхто. Не маю ніякага дачынення да выбуху.
Аддала свае імя і адзежу медыцынскім сёстрам,
а гісторыю — анестэзіёлагам, цела — хірургам.

Яны падперлі маю галаву паміж падушак і просцінаў,
што, нібы кайданы, чапляюцца да цела.
Сёстры мільгаюць — туды-сюды, туды-сюды…
Яны не турбуюць мяне — зусім як чайкі,
што ў сваіх белых касынках пралятаюць над вострвам.
Яны занятыя сваімі справамі,
разводзяць рукамі па палаце настолькі аднолькава,
што немагчыма заўважыць, колькі іх у прасторы.

Маё цела для іх — усяго толькі галька, каменьчык,
які неабходна правільна раскласці на беразе.
У сваіх яркіх іголках яны прыносяць анямеласць,
сон, спакой…
Я губляюся…
Муж з дзіцём пазіраюць на мяне з сямейнага фотаздымка.
Іх усмешкі чапляюцца да маёй скуры, як маленькія кручкі.
Я — перагружаны карабель,
абыякава дазваляю рэчам праплываць міма…
Я не хацела ніякіх кветак,
толькі хацела прылегчы з перагорнутымі далонямі
у адчуванні свабоднай пустаты —
пакой робіцца настолькі вялікім,
што пачынае заваражваць.
І галоўнае — нічога не просіць узамен
(акрамя бальнічнага запісу прозвішча).

Цюльпаны настолькі чырвоныя, што ўразаюцца болем.
Я адчуваю, як насцярожана яны дыхаюць.
Іх чырвоны колер гутарыць з маёй ранай —
якая імгненна адгукаецца рэхам.
Яны вытанчаныя, амаль незаўважныя,
прызямляюць мяне цяжкім целам,
турбуючы яскравымі колерамі і галасамі.

Ніхто не звяртаў на мяне ўвагі.
Цяпер звяртаюць — цюльпаны набліжаюцца да мяне
і да акна, што побач, за мной.
Яскравыя кветкі з'елі мой кісларод...
Гэтыя цюльпаны павінны быць пасаджаныя ў клеткі,
як небяспечныя жывёлы.
Яны адкрываюцца, як раты вялікіх афрыканскіх катоў.
І я адчуваю сваё сэрца — яно адчыняецца і зачыняецца.
Я глытаю ваду, цёплую і салёную —
зусім як мора,
што існуе недзе ў далёкай неверагоднай краіне,
як ЗДАРОЎЕ.

*Сакавік 1961*
***(верш напісаны ў бальніцы, куды Сільвія трапіла з апендыцытам)***

## ТЭМПЕРАТУРА

Чыстая? Што гэта значыць?..
Прытуплены языкі пекла, як у жывым трайніку, —
Тупыя языкі тлустага сабакі Цэрбера[1],
якія напружана сапе ля варотаў,
не здольны аблізаць сябе да сапраўднай чысціні.
Сухажылле граху, плачу
У не знікаючым хімічным водары.

[1] Аўтар мае на ўвазе трохгаловага сабаку ў грэчаскай міфалогіі, што вартавала вароты Аіда.







Адгарэлая, пераплыўшая ўсе дазволеныя межы свечка —
Каханне... пах кахання выкурваецца, знікае,
адыходзіць ад мяне,
як ад шаліка Ізідоры[2], —
канец яго ўпадзе, учэпіцца якарам за кола.
Жоўты дым стварае свой уласны элемент,
які не выпараецца,

але пакоіцца вакол глобуса,
пільна наблізіўшыся і абкручваючы старых,
слабых,
пакорлівых.

..............................................................

Каханы, усе гэтыя ночы
я ўключалася і выключалася.
Плік... плік... плік.
Цяжэлі прасціны, як ад пацалункаў распусніка.

Тры дні... Тры ночы...
Лімонная вада,
курыная вада,
булённая вада.
Вада, вада — не засталося сіл нават зірнуць на яе.

Я зрабілася занадта чыстай для цябе.
І цяпер Тваё цела — гэта нястрыманы боль.

Я — ліхтар,
мая галава, як поўня японскай паперы,
мая залатая збітая скура
бясконца далікатная і бясконца дарагая.

[2] Узгадваецца Ізідора Дункан (1878–1927), шалік якой трапіў у калёсы яе машыны, ад чаго танцоўшчыца і загінула.

Хіба мая ліхаманка не здзіўляе цябе? І маё святло?
Сама па сабе я — вялізная кветка-камелія,
што ззяе, праступае, чабліжаецца... — зірк-зірк.

## ДАБРЫНЯ

Дабрыня расплываецца па маёй хаце.
Праклятая дабрыня. Яна гэткая прыемная!
Блакітна-чырвоныя ўпрыгожванні яе пярсцёнкаў
свецяць у вокны, —
люстэркі, запоўненыя ўсмешкамі.

Што больш сапраўднае, чым плач дзіцяці? —
хіба што плач здзічэлага труса,
але ў ім няма душы.
Цукар можа вылечыць усё, — сцвярджае Дабрыня.
Цукар — неабходная вадкасць.
Ён крысталюе маленькую прыпарку...
О, дабрыня, дабрыня,
салодкія падабраныя кавалачкі!
Мой японскі шоўк, адчайныя матылі,
што гэтак лёгка праплываюць, заміраюць
пад анэстэзіяй любой — наўздагад — хвіліны.

Вось набліжаешся і ты
з кубкам гарбаты ў вянку з пáры,
з крывінкай паэзіі,
якую немагчыма спыніць.
Ты працягваеш мне двух дзяцей — дзве ружы.

*1963*

## ДЗІЦЯ

Твае чыстыя вочы — самая неверагодная,
самая прыгожая рэч у свеце.
Я хачу напоўніць іх колерам і гукамі сэнсу,



заапаркам усяго новага,

чые імёны ты яшчэ не ведаеш,
а толькі здагадваешся пра іх існаванне —
сняжынкі запозненага красавіка,
трубкі для курэння індзейцаў,
вада, у якой усе іміджы выглядаюць класічнымі
і грандыёзнымі.
(Толькі ні ў якім разе не тыя трывожныя зморшчынкі
на руках —
што нібыта цёмная столь, узведзеная без зорак.)

*1963*

**Пераклала з англійскай мовы**
**Алена ЯКАЎЛЕВА.**



# Лілія Мялешка

*Старэнне — дзяцінства запозненае.*
*Жыццё — гэта смерці прычына.*
*Узрост — самы верны мужчына,*
*А смерць — то каханка апошняя.*







## РАНДЭЛЬ

Зялёныя прыцемкі ля небакраю
Па барвах нябёсаў сплываюць за лес.
Губляе абрысы расквечаны бэз,
І купал высокі цямнее, згусае...
Нібы з беспрытомнасці лёгка прымаю
Агоніі дня незваротны працэс:
Зялёныя прыцемкі ля небакраю
Па барвах нябёсаў сплываюць за лес.
І космас бяздонны пульсуе, ўздыхае,
І ў сэрцы ўрачысты гучыць паланэз.
Быццё вокамгненнае наша згарае —
Знікае з вачэй, як імклівы экспрэс.
Зялёныя прыцемкі ля небакраю...

## * * *

Сцелюцца над Ланню туманы,
Свецяцца празрыста-тонкім вэлюмам
Над смугой асенняй баразны,
Над шашой і над палямі белымі.

Жэмчугам з каштоўнейшай казны
Ранішняе неба адлюстроўваюць.
...Сцелюцца над Ланню туманы —
Берагі *былыя* вымалёўваюць.

## ДОМА

Як хораша ў драўляным доме спіцца...
Даносіць ветрык з бору пах суніцы...
У цемры засынаюць мурашы...
І сонна пахне малаком карова,
Прыгадваючы лугу квет мядовы...
Аднак! — равуць машыны на шашы...

Як ціха ўсхліпвае скрозь сон крыніца,
Як асцярожна ўспыхвае зарніца,
Кладзецца лёгка на траву раса...
Паўзмрок расчэсвае ялінам веі...
Ліловы сон гайдаецца ў лілеі...

...і ўсё ля клуба грукае папса...

## ПАКІНУТЫЯ ХАТЫ

Няма каляін, утравела дарога,
Вятрыска ліхі з лона вёскі прагнаў
І весніц абдымкі, і ходнікі траў,
І шчырыя ўсмешкі шчарбатых парогаў.
Цямнеюць падстрэшшы каморак і сенцаў,
Слабеюць правіслыя паскі платоў,
І локці варотаў, і вочы акенцаў,
І плечы гарышчаў, і жылы дратоў.

Сціскае жытло запусценне, як краты,
Ні дзеці, ні ўнукі не едуць сюды,
Буяюць наўкола кусты лебяды,
Чарнеюць ад гора асеўшыя хаты.

Пакорна маўчаць, дапамогі не просяць.
Напэўна, журботны іх лёс не міне:
Спачатку без радыё абезгалосець,
А потым — аслепнуць без лямпы ў акне.









# Барыс Сачанка

*Заўважыў: калі нешта не выходзіць у кіраванні, шукаюць вінаватых. І імі чамусьці заўсёды бываюць... пісьменнікі. Гэтак было пры Сталіне, пры Малянкове, пры Хрушчове.*

Барыс САЧАНКА

# З ЗАПІСАК РЭДАКТАРА.
## З пісьменніцкага дзённіка

**16.III.67 г.**

Барацьба за "Полымя" ўступіла ў новую, апошнюю фазу. Гавораць — на гэтым тыдні ўсё скончыцца, нікога з сакратароў самі ж сакратары не пускаюць. Брыль заявіў, што калі хто з сакратароў здрадзіць і пойдзе на "Полымя", то ён падасць заяву аб сваім адыходзе з сакратароў. "Трэба ўсім быць разам, і толькі разам". І на "Полымя" асталіся старыя прэтэндэнты — Пашкевіч і Кавалёў. Пашкевіча параіў Панчанка, і сакратары згадзіліся, каб Пашкевіч браў "Полымя". Бачыла — за Пашкевіча, Скрыган — за Кавалёва. Скрыган пайшоў гаварыць з Танкам, каб не згаджаўся на Пашкевіча. Танк ад'язджаў у Маскву і займацца падборам рэдактара даручыў Шамякіну.

Пайшлі "Полымем" у Саюз. Сустрэлі Панчанку. "Ідзіце да нас рэдактарам". "З радасцю б!" — і падняў рукі. "Але што зробіш, калі бардак..." — і ён паказаў на Саюз, там якраз ішоў Сакратарыят.

А назаўтра зусім выпадкова сустрэліся ў Саюзе Адамчык, Стральцоў і я. З пяці гадзін да 10 вечара — спачатку ў Саюзе, потым на кватэры ў Мележа, за чаркаю — пераконвалі Мележа і Шамякіна ўтраіх, што нельга Пашкевічу аддаваць "Полымя". (...) "Полымя" ж — гэта для Беларусі адзіны агеньчык, яго лёгка можна патушыць. Уся літаратура робіцца ў "Полымі". Надрукуецца — ёсць твор, ёсць пісьменнік. "Полымя", можа быць, важней за Сакратарыят.

*Заканчэнне. Пачатак у № 1,2 за 2002 г.*

Пераканалі, здаецца, і Шамякіна, і Мележа. (...)

Дарогаю Шамякін сказаў, што яму няёмка скакаць праз галаву Танка, але ён пойдзе ў ЦК да Пілатовіча[1] і ўсё яму даложыць. Пашкевічу нельга аддаваць "Полымя".

Сёння сустрэў у выдавецтве Мележа. Крывіцца, рука баліць, трэба ехаць некуды лячыцца. Я прывёў яму яшчэ некалькі довадаў супраць Пашкевіча. "А ты на маё месца ў Саюз пойдзеш?" — спытаўся раптам. Я збянтэжыўся. "Ніхто мне такой пасады не прапаноўвае". І зноў Мележ пачаў хітраваць, гаварыць пра свае хваробы... на тым і рассталіся...(...)

Пра творы свае няма калі думаць. Трэба думаць, дзе іх і як друкаваць. Другая аповесць пішацца, а каму яе паказаць такому, каб надрукаваў?

**1.IV.67 г.**

Здаецца, спрэчкі вакол "Полымя" пачалі затухаць. У "Полымі" ёсць рэдактар — Кавалёў. П.Кавалёў — найменшае зло, і не дзіва, што Сакратарыят — за яго.(...)

Кавалёў усё ж будзе цягнуцца да сакратароў, ён даб'ецца льготы, памяшкання, у яго няма групы, на яго можна ўплываць, а галоўнае — ён стары чалавек і больш 5—6 год у "Полымі" не пабудзе. Можна яго нават павысіць, перавесці ў сакратары...

Сёння, кажуць, Кавалёва зацвярджаюць. "Першакрасавіцкі жарт": Кавалёў — рэдактар "Полымя".

Учора быў вечар апавядання ў Саюзе. Прачытаў "Невядомы геній", "Каменні" і "Скарга". Некаторыя гаварылі, навошта чытаў такія творы. Не пагладзяць за іх... Ды ліха з імі, хай не гладзяць. Павышэння мне не трэба, я не хачу яго. Гэта, можа, мне дапаможа, каб не ставілі на мяне, не рабілі стаўкі... Увогуле на вечары апавяданні хвалілі, хоць і рабілі некаторыя заўвагі...

[1] Пілатовіч С. А. — тагачасны сакратар ЦК КПБ.

**4.V.67 г.**

Вось Кавалёў і рэдактар “Полымя”. Якраз хавалі А.Рылько. Падышоў на могілках да мяне, пытаецца: “Дык што, сёння сустракаемся?” — “Дзе, што?” — “Ты не ведаеш?” — “Не”. — “Няўжо вас ніхто не папярэджваў?” — “Не, не папярэджвалі”. Пачырванеў. Не даў на могілках пабыць да канца пахавання, пасадзіў мяне ў машыну, паехалі. Дарогаю: “Хто ў рэдакцыі мой вораг? Як Бачыла? Хто не хацеў, каб мяне прызначалі?” Я змікіціў, што ён хоча мяне мець за даносчыка. “Эге, не за таго мяне трымаеце!” Сказаў, што будуць у яго і праціўнікі, можа, будуць і сябры. Але зважаць на гэта не трэба, літаратура ёсць такая справа, што ўсе аднолькава думаць, а тым болей пісаць не могуць. Рэдактарская справа — не даць загінуць лепшаму, даць яму дарогу, калі трэба — падтрымаць і матэрыяльна, і духоўна. “Каго ў аддзел прозы думаеце ўзяць?” — “Дамашэвіча альбо Адамчыка”. — “А я за Арабей. Яна кандыдат навук, і калі што — па крытыцы магу з ёй раіцца”. — “Але ж у рэдкалегіі нашай ёсць акадэмікі. Райцеся з імі. Нам трэба ў аддзел празаік, добры пісьменнік і работнік”.

Змоўк. Хацеў, каб ля рэдакцыі мяне высадзіў. Не, давёз да Саюза, схадзіў паклікаў Танка, паехалі ў рэдакцыю.

Танк сур’ёзна не гаварыў. “Кавалёў вопытны рэдактар, умее працаваць з калектывам. Лічым, калектыў харошы. Вам весела будзе працаваць — рэдактар рэдагаваў гумарыстычны часопіс”. Пасля гаварылі мы, дакладвалі, што маем у рэдакцыі і што б мы хацелі мець. Кавалёў быў стрыманы, больш слухаў.

Дзён два ў рэдакцыі было па-старому. Хварэў Скрыган, і я сказаў у рэдакцыі, што варта наведаць старога чалавека. Пайшлі Чыгрынаў і Кавалёў. Выпілі па добрай чарцы. Я.Скрыган: “Трэба друкаваць у часопісе нешта і для душы, а не толькі каб падабацца начальству”. Я пахваліў апавяданні Я.Брыля. “Выдатныя творы напісаў Брыль”.

Дарогаю Кавалёў сказаў: “Быў у мяне Алешка. Тры гадзіны ліў гразь на ўсіх вас. Што такое? Пташнікаў хваліць аповесць, а ты?” Я адказаў сумленна: аповесці няма, слабая як у ідэйных, так і ў мастацкіх адносінах. "І наогул, не трэба слухаць усялякіх хадакоў. Сумленныя літаратары пішуць, працуюць, а не ходзяць абліваць гразёю другіх". (...)

У рэдакцыі П.Кавалёў зрабіў нараду. Аказваецца, усё тут ідзе не так, як трэба. “Не так здаюцца матэрыялы, ёсць скаргі, не ў час аўтары атрымліваюць адказы на свае творы, няма чаргі, хроніка не тая, рабочы дзень трэба змяніць, работнікаў рэдакцыі я буду ганяць па камандзіроўках, і г.д., і г.д.”. Я не вытрымаў — разоў шэсць-сем агрызнуўся. Я.Скрыган: "Чаргі не можа быць. Ёсць творы добрыя, і іх трэба друкаваць. І ёсць слабыя — іх трэба бракаваць". А.Клышка: “Хроніка павінна быць культуры, а не палітычнага, эканамічнага жыцця. На гэта ёсць іншыя часопісы”. Разбілі калектыўна ўсе кавалёўскія пачынанні. Сядзеў чырвоны. Калі нарада скончылася, сказаў мне: “Ты мне не падабаешся”. — “Я не для таго, каб падабацца Вам. Я ў рэдакцыі для работы. І наогул, я, відаць, пайду з рэдакцыі”. — “Куды?” — “Знайду месца”.

Пазванілі ў Галоўліт. Аказваецца, затрымалі №5 “Полымя”. Падпісала Ярашэўская, а Маркевіч сказаў затрымаць. Чыгрынаў дзяжурны. “Я казаў Вам, Павел Нікіфаравіч”. Той задаволена ўсміхнуўся. Ад Скрыгана даведаўся: П.Кавалёў у апавяданнях Я.Брыля знайшоў палітычныя памылкі. Падкрэсліў усё, даў прачытаць Шкрабу, Вялюгіну і, відаць, занёс у ЦК. Па дарозе з выдавецтва выпілі са Скрыганом і Чыгрынавым бутэльку віна. Чыгрынаў паехаў на тралейбусе, а мы асталіся са Скрыганом. Кажу: “Вы павінны ўсіх падняць на ногі, а не даць Кавалёву зняць апавяданні. Перамога яго натхніць, плакала ўся беларуская літаратура!” Доўга гаварылі са Скрыганом пра ўсё. Ён: “Я вінават, што не заўсёды быў настойлівы. Многія слабыя творы не павінны былі друкавацца”.

Апавяданні Я.Брыля пайшлі. Без аніводнай праўкі. У Галоўліце быў Бачыла. Але, адчуваю, усё зрабілі Танк і Брыль. У рэдакцыі — радасць. Я.Скрыган: “Усё адно як выйшаў я з турмы. Другая такая радасць сёння, стаўлю ўсім каньяк. Прыхавайце на вечар”. Кавалёў спаслаўся на хваробу, сказаў, што ў рэдакцыю не прыйдзе, папрасіў, каб Скрыган падпісаў нумар. Я.Скрыган: “Бачыш, і цяпер баіцца”.(...)

Учора прыходзім на работу, чуем: Скрыган прыслаў праз

Бачылу заяву, каб яго вызвалілі ад пасады намесніка. П.Кавалёў: "Чаму са мною ён не параіўся?" Ніхто нічога не сказаў — Кавалёў жа са Скрыганом не раіўся, калі некуды насіў апавяданні Брыля. Кавалёў дзень перабыў як мыла з'еўшы, потым некуды пайшоў — ці не ў ЦК. У рэдакцыі — перапалох. Без Танка ды Скрыгана — ці варта аставацца ў "Полымі"? Увечары пазваніў Я.Скрыгану: "Што Вы надумалі? Ні ў якім разе цяпер не пакідайце рэдакцыю. Не давайце Кавалёву волі". — "Ён выказаў мне палітычны недавер. Я не магу працаваць, калі мне не вераць. Прыедзе Танк, хай пры ім разбяруць нашу справу". Калі ўсё добра выйдзе, Кавалёва адвучаць лезці, куды не трэба. І адразу, на першых кроках. Хай адчувае, хто ён. А калі Я.Скрыган пойдзе з работы?.. Усё можа быць.

Ага, Кавалёў забараніў гаварыць, расказваць каму б то ні было пра ўсё, што робіцца ў рэдакцыі. Як усё адно ў лагеры, у заключэнні. Толькі з розніцай той, што падпіскі не ўзяў. Трэба на наступнай нарадзе прапанаваць, каб падпіску з кожнага ўзяў...

**5.V.67 г.**

Сумна, нецікава зрабілася ў "Полымі". Раней былі Танк, Брыль. Колькі чаго цікавага пачуеш, даведаешся! А якія спрэчкі былі — усе падзеі жыцця, літаратуры абмяркоўваліся, і на якім узроўні! Новы універсітэт! Цяпер жа — цішыня, зрэдку — размова пра футбол. І ўсё. Гаварыць пра літаратуру можам толькі мы, старыя работнікі. Але што кожны з нас думае, мы і так ведаем.(...) Відаць, трэба ўцякаць. Маральнай асалоды ад працы няма ўсё адно. Праўда, пакінуць месца ў любы час не позна. На гэтае месца возьмуць таго, хто ім трэба. А так — усё ж хоць нешта, ды рабіць для справы можна. Увогуле — пачакаем, паглядзім.

**10.V.67 г.**

(...) Дні і ночы сяджу над рэдакцыйнымі матэрыяламі. Часопіс павялічылі, а людзей не даюць. Да таго ж, новы рэдактар, і ўсе кінуліся ў бой — за галоўны напрамак кожны хоча мець пасрэднасць. Тады лягчэй жыць, лягчэй друкавацца. Учора — аж тры аўтары. (...) Грамовічу мы з Пташнікавым далі



зразумець, што другая частка, "Яны далі слова", у некалькі разоў горшая за першую. Далі, а не сказалі. І дарэмна — твор, які наогул нельга правіць, а трэба выкінуць на сметнік, ён праз тры дні паправіў. (...) Калі яму сказалі, што галоўная гераіня — фальшывая, ён нам палітыку пачаў прышываць. Не, нас не возьмеш гэтым! Мы далі дружны адпор. Дый што гэта — права аднаго прышываць другому палітычную блізарукасць, непаўнацэннасць?

Калі не адаб'ёмся — прападзём.

Скрыган паехаў у водпуск. Што з яго заявай — невядома...

Узнікла жаданне — на падставе Пяткевічавых кніг і таго, што сам ведаю пра Палессе, напісаць нешта — ні то дзённік, ні то запіскі, ні то ўспаміны. Нешта вольнае, незвычайнае па форме. Вось як закончу "Аксану", адразу ж і вазьмуся. Натхняе на гэта і А.Чарнышэвіч — чытаў яго незакончаныя рэчы і зноў шкадаваў: які харошы пісьменнік, не адгаварыўся, адышоў раней часу.

Сёння зноў секцыя. Абрыдла. Трэба гаварыць пра Мялу. Шамякін і Макаёнак чамусьці цягнуць яго ў літаратуру, у Саюз. Адбіваемся, як толькі можам. Харошыя беларускія хлопцы забытыя, а толькі з'явіцца нехта рускі — цягнуць яго за вушы бягом у Саюз. Друкуюць, рэкамендуюць, прабіваюць...

Стварылі часопіс "Нёман", а цяпер вакол яго ствараюць беларускую літаратуру на рускай мове. (...) Патрэбны Літфонд ды невялікія групоўкі, накшталт дарэвалюцыйных (кружкі) ці паслярэвалюцыйных. А то сабралі разам графаманаў, журналістаў і чортведама каго з пісьменнікамі і ні пагаварыць пра літаратуру, ні паспрачацца. Няма "потолка", няма на каго раўняцца. Асабліва адсталая так званая "руская" секта. (...) Злосны я нейкі зрабіўся. Трэба пляваць на ўсё і пісаць сваё. За мяне майго ніхто не напіша. Трэба штодзень пяром вадзіць і вадзіць, пакуль тахкае ў грудзях сэрца, пакуль родзяцца ў галаве думкі, пакуль не анямела рука...

**13.V.67 г.**

Знайшоў сабе я добрага сябра — гэты дзённік. Ёсць з кім цяпер і параіцца, ёсць каму выліць сваю крыўду.(...)

Два вечары пілі каньяк. Адзін — з Наўроцкім, другі — з

Вярцінскім. Добрыя хлопцы. Асабліва Алесь. Гаварылі, што ў кожнага на душы. Памром і ведаць не будзем, хто нас акружае. Рэдка бачымся, рэдка гаворым шчыра адзін з адным. Рэдка давяраем.(...)

**17.V.67 г.**

Патрошку пішу, і гэта мяне радуе, супакойвае. У літаратуры астаюцца творы, а не тыя пасады, чыны, што меў пры жыцці пісьменнік. Няма твораў, няма і пісьменніка. Шкада, што душэўнай раўнавагі, заглыбленасці ніяк нельга дасягнуць, працуючы ў рэдакцыі. Учора — абмеркаванне часопіса “Беларусь” у Саюзе, сёння — рэдкалегія “Полымя”, заўтра — пасяджэнне Літфонду. І ўсюды — нейкія спрэчкі, яны так ці інакш кранаюць цябе. Учора я прамоўчаў, хаця гаварыць хацелася. Калачынскі дабіў да ручкі “Беларусь”, часопіс зрабіўся горшы, чым быў пры Гурскім. Няма ў часопісе апавядання, няма краязнаўства, няма гісторыі... А сёння адмоўчацца не ўдасца. Кавалёў хоча ўзяць у аддзел прозы Арабей. Скрыгана няма, у адпачынку. Трэба зноў усё пачынаць спачатку. Ідучы са сходу, бачыў Пташнікава. Сказаў — ён за Дамашэвіча. Я — таксама. Паспрабуем пастаяць за сябе. Вечар цэлы хадзіў з Клышкам. Яму Кавалёў прапанаваў узяць аддзел навукі. “Так, — кажа, — Танк раіць”.

Я радуюся, што мне ніхто нічога не прапаноўвае. Асабліва Кавалёў. Быць яго доўбняй я не хачу. І нічыёй не хачу быць. Хачу быць самім сабою, ні пад каго не падрабляцца, хачу рабіць, пісаць сваё.

**19.V.67 г.**

Зусім неспадзявана я еду ў Маскву, на IV з’езд пісьменнікаў. Адмовіліся ехаць Гурскі і Вітка, і Сакратарыят дамогся, каб паслалі Стральцова і мяне. Пазваніла Таццяна Кузьмінічна, якраз ішла рэдкалегія, і я не ведаў, радавацца мне ці не. Якраз аповесць “пайшла”, і трэба перапыняцца. А перапыняцца мне — гэта амаль усё адно што пакінуць незакончаны твор. З другога боку, пабыць на з’ездзе — хочацца. Пабачыць у твар Шолахава, Ляонава, Твардоўскага, Паўстоўскага, Казакова,






Еўтушэнку, Нікіціна, паглядзець, як хто рэагуе, наогул паводзіць сябе, пачуць непасрэдна самому, што такое з’езд, — прываблівае ўсё гэта вельмі. З’езд, праўда, юбілейны, але, як кажуць, “чым чорт не жартуе...” (...)

Усю дэлегацыю сабралі ў Саюзе. Прыйшоў Пілатовіч — ён мерыўся ехаць у Балгарыю, але Дземічаў прыслаў тэлеграму, каб Пілатовіч быў на з’ездзе. Ад Беларусі едуць 21 дэлегат і 9 гасцей. Сказалі, з кім трэба сустракацца, парадак дня з’езда і г.д. Адчуванне такое — калі хочаш дабыць да канца на з’ездзе, калі хочаш, каб табе пасля давяралі, — вядзі сябе належна. Не пі, не гуляй з дзеўкамі, не гавары абы-чаго, не апладзіруй, дзе не трэба. З’езда ўсё ж сёй-той баіцца, таму і суровасць, дысцыпліна. Ведаю: будзе сумна без работы, без добрых хлопцаў, без некаторых размоў. Суцяшаю: ёсць Стральцоў, Быкаў, Навуменка, Адамовіч, Мележ. З кім-небудзь я сыйдуся, буду гаварыць. Дый справы ў Маскве ёсць — кніга ж у “СП” выходзіць.

Кавалёва перасмыкнула, калі даведаўся, што я еду ў Маскву, — выходзіць, не толькі рэдактары едуць, а і літработнікі. Яму нялёгка было на рэдкалегіі — давялося паўтараць тое, што нядаўна зусім мы яму паўтаралі: якасць, якасць і яшчэ раз якасць.(...)

**23.II.68 г.**

Учора ў рэдакцыю зайшоў А.Куляшоў. Прынёс пераклад “Песні пра Гаявату”. Сядзеў на рэдактарскім крэсле, гаварыў, што цяжка вельмі аставацца адзін на адзін з хваробай. Каб неяк скаратаць час, узяўся перакладаць. 28—30 радкоў у дзень. Паэту наогул, каб не траціць формы, трэба штодзень нешта рабіць. Калі няма сваіх задумак, трэба перакладаць. Я заўважыў, кажа А.Куляшоў, што некаторыя пісьменнікі, калі не пішацца, вядуць запіскі. Падазраю, што гэта робіць А.Твардоўскі.

Быў бледны, нейкі вельмі ветлівы, блізкі з усімі.

***

Вялюгін расказваў пра сустрэчу з Панамарэнкам. Панамарэнку паклікаў Сталін да сябе перад самым вызваленнем Заходняй Беларусі. Дамовіліся — Вільня адыдзе да Літвы.

"Палітычнае значэнне". Вярнуўся Панамарэнка ў Мінск, зноў кліча да сябе Сталін. Прыязджаем да Сталіна — у пакоі ў яго Хрушчоў. "Вось мы з вамі дамовіліся адносна межаў Беларусі". А Хрушчоў кажа: "Пінская і Брэсцкая вобласці павінны адысці пад Украіну". Панамарэнка пачаў даказваць — "па-першае, не Беларусь будзе, а нейкая кішка. Па-другое — што ж мы вызваляем, адну вобласць? Па-трэцяе — этнаграфічна і этнічна вобласці гэтыя беларускія". "Ну вось, таварыш Хрушчоў, таварыш Панамарэнка гаворыць правільна. Можаце ісці".

Калі выйшаў Хрушчоў, Сталін сказаў: "Вобласць не вобласць, а раён можна аддаць Украіне". Аддалі палову Жлобінскага раёна...

**29.III.68 г.**

Учора слухаў "Слова пра Горкага" Ляонава. Ёсць усё ж у Расіі яшчэ сумленне. Ёсць. Сказаць проста ў вочы праўду не толькі ўраду, але і ўсяму народу, ды яшчэ ў такі час, калі адусюль лезуць "вусы",— трэба мець мужнасць. Як пасля ні стараліся звесці ўздзеянне прамовы Ляонава розныя Собалевы, Ціханавы, Сурковы і К°, — нічога не выйшла. У вушах кожнага, хто слухаў Ляонава, гучалі ў той вечар словы Ляонава. Малайчына! Так адхвастаць усіх "власть имущих", усю "камарыллю", усіх кукальнікаў, што круцяцца, жывуць каля літаратуры! З пісьменніка Горкага хацелі зрабіць чарговы палітычны бум, чарговую кампанію! Па-мойму, не ўдалося... Сарваў Ляонаў!

Літаратура — справа святая. Няма чаго да яе прымазвацца, лезці ў яе з бруднымі рукамі, у галёшах... І раўняць яе толькі да штыка. Літаратура — сумленне народа. Калі літаратура перастане быць сумленнем, яна будзе непатрэбнай народу. Цікава, ці надрукуюць прамову Ляонава сёння газеты? Калі б я быў на месцы Ляонава, я не дазволіў бы выкінуць ці скараціць ні слова — або ўсю прамову друкуйце, або зусім не друкуйце. А можа, зробяць выгляд, што нічога не адбылося? Як робяць выгляд ужо вось некалькі год...

Калі ў Расіі ёсць такія людзі, як Ляонаў, Паўстоўскі, Салжаніцын, — значыць, жыве яшчэ літаратура, дыхае...

Яшчэ раз пераконваюся — не варта верыць усяму часова-





му, наноснаму. Праходзіць час, і ўсё становіцца на сваё месца. У літаратуры трэба працаваць, рабіць тое, што рабілі лепшыя за цябе да цябе. А ўсё астатняе — лухта, пазалота, якая можа вабіць толькі людзей недалёкіх, несумленных. (...)

Пісьменнік працуе, калі непасрэдна і не сядзіць за сталом, не піша. І часам, можа, карысней не пісаць, а чытаць, думаць. Думаць не толькі пра другіх, але і пра сябе, пра напісанае табою і тое, што трэба пісаць. Урэшце, астанецца ў літаратуры не колькасць, а якасць. Якасць, якасць і яшчэ раз якасць! І трэба быць далей ад часовага поспеху, часовай хвалы, тым болей што крык вакол таго ці іншага твора падымаюць людзі, як правіла, далёкія ад літаратуры. Сапраўдную цану твору ведаюць заўсёды толькі некалькі чалавек, адзінкі...

Ледзь-ледзь не пайшоў з "Полымя". Нельга больш цярпець. Невук хоча дыктаваць літаратуры свае законы. Хоча, каб мы былі нямыя, як рабы. Калі гаворыш яму, як павінна быць, крычыць, абражае, папракае ў палітычнай слепаце... Дай свінні рогі! Штотыдзень пераконваюся, які гэта недалёкі чалавек, баязлівец, няўдачнік. Каб прымеў — здаецца, паеў бы ўсё таленавітае, жывое...

Перастаў я сварыцца, даказваць нельга. Няма карысці з гэтага ані...

**2.IV.68 г.**

Зайшоў у "Полымя" ўчора Танк. Даўнавата не быў у нас. Гаварыў пра сёе-тое. Папыталі — ці чуў Ляонава. Не, не чуў...

Потым Адамчык, Чыгрынаў і я пайшлі ў Саюз. Там зноў сустрэлі Танка. Ішлі з ім да яго дома. Пытаў пра "Полымя". Расказалі. Прасілі, каб "Полымя" аддалі аднаму з сакратароў. Усё беларускае можа загінуць, калі будуць і далей такія рэдактары. (...) "Не слухае мяне ніхто. Усё адно робяць, як самім хочацца. Глядзяць скоса. А то і сварацца..." — "За што?" — "Пісьмо пра выдавецтва... Ведаеце. Дык нам твораў не трэба было называць канкрэтна, што зжэрлі ўсю паперу... Горкага і Фадзеева". — "Знайшлі б прычэпку. Не зважайце. Трэба думаць пра справу". І Танк пачаў расказваць, што не да яго ў хату ездзяць кіраўнікі, а да Куляшова... "А я ж першы сакратар..."

Потым казаў, што ён разумее нас, што шкада яму “Полымя”, што не можа пісаць, трэба засядаць, выступаць.(...)

У Галоўліт пайшла кніжка. Баюся за аповесць “Ноч няволі”. Цяпер не час на такія творы. Зноў усе, пачынаючы з самых высокіх, вучаць пісьменнікаў, як трэба пісаць, як весці сябе, што гаварыць. Ім усё ясна, яны ўсё ведаюць, як павінна быць. Дзівішся, чаму толькі яны самі не пішуць...

А я б’юся дзень пры дні, чытаю, параўноўваю, думаю — як гэта так напісаць, каб і надрукаваць было можна, і шчыра было, і праўда, і каб па-сучаснаму, на ўзроўні гучала... I мне ані нічога не ясна, хаця літаратуры аддаў ужо дзесяць год.

Заўважыў: калі нешта не выходзіць у кіраванні, шукаюць вінаватых. I імі чамусьці заўсёды бываюць... пісьменнікі. Гэтак было пры Сталіне, пры Малянкове, пры Хрушчове.

Што ж, не гледзячы ні на што, трэба пісаць. Трэба дзяўбсці, як тая кропля камень. А раптам нешта і напішацца, нешта і астанецца пасля нас.

Бачыў Мажэйку. Вечар цэлы чытаў газеты Чэхаславакіі. Дажыць бы да такой дэмакратыі!.. У нас жа звялі ролю друку, наогул слова да таго, што трэба толькі адабраць, пахвальваць тое, што робяць вярхі. Калі каго і крытыкаваць, то не вышэй загадчыка магазіна, прыбіральшчыцы...

**10.IV.68 г.**

(...) Чытаю Камю “Дзённікі”. Радуюся, што вывучыў польскую мову. I шкадую, што не ведаю ні англійскай, ні французскай. Хаця жыў жа — што з таго, што я ведаў бы гэтыя мовы? Ні газет, ні кніг на гэтых мовах купіць нельга. Каб можна было ўсё гэтак жа набыць, як рускае, бадай што вывучыў бы і гэтыя мовы.

Мова — гэта яшчэ адно акно ў свет, у культуру. Не дзіва — усе вялікія людзі ведалі па некалькі моў.

Уся бяздар падняла вушы. Ім здаецца, што прыйшлі, нарэшце, іх часы. Таленавітых людзей можна абвінаваціць у розных грахах, і тыя будуць маўчаць. А ў чым можна абвінаваціць людзей бяздарных? Служаць яны — зноў жа каму яны служаць, як не сабе! — быццам як мае быць. Але ж яны бяздарныя, і грэх гэты самы вялікі, які толькі можа быць.



Думаю ўсё пра тое ж: як навучыцца так пісаць, каб і друкаваць свае творы можна было, і аставацца шчырым, праўдзівым, нідзе не нахлусіць? Не веру, каб нельга было знайсці дзіркі: талент, як трава, праб’ецца адусюль. Камень ляжыць — абагне яго, збоку вылезе; асфальт — узарве...

Так што трэба не здавацца, думаць, шукаць... Калі не змагу знайсці — значыць, я ніхто. I Пастэрнак, і Паўстоўскі, і Ляонаў, і Чорны, і Прышвін — знайшлі дзірку, асталіся ў літаратуры.

Гаварыў пра гэта з Адамчыкам. Ён на ўсё глядзіць намнога за мяне глыбей. Малайчына! Ёсць усё ж і ў нашай літаратуры ўжо хлопцы, якія пра нешта думаюць. Науроцкі, Адамчык, Капыловіч. Хлопцы! А каб зрушыць камень з мёртвага месца, трэба *дзецюкі*.

Вялікія людзі капаліся ў сабе, адкрывалі нешта, не вядомае нікому, менавіта там. Мы ж пакуль думаем больш пра акружэнне сваё, там хочам штосьці цікавае знайсці. У тым, мабыць, і памылка наша.

***

Добра было Ісусу Хрысту паміраць, хай нават і на крыжы, калі ён сказаў свету свае слова, пакінуў філасофію, якая жыве вось ужо колькі вякоў. Страшна паміраць, не пакінуўшы свету нічога. I каб жа не мог пакінуць. А калі здаецца табе, што можаш?..

Відаць, трэба, сціснуўшы зубы, маўчаць, пакуль можна маўчаць, і хоць употайкі нешта рабіць.

***

Камю піша: жывём у свеце, дзе трэба выбіраць, ці быць ахвярай, ці катам — і толькі гэта. Гэты выбар не ёсць лепшы. Заўсёды мне здавалася, што наогул няма катаў, ёсць толькі ахвяры...

**11.IV.68 г.**

Некалькі дзён чытаю новыя, нікому яшчэ не вядомыя творы М.Гарэцкага. Не нарадуюся! Здаецца, усе творы пісаны сёння. Стыль, мова, мысленне — зусім сучасныя. Вось што

значыць талент! І які беларус! Што ён толькі ні рабіў для Беларусі! І слоўнік выдаў, і зборнік песень сабраў, і першую хрэстаматыю напісаў, і ездзіў нават у Сібір, каб паглядзець, як там жывуць перасяленцы-беларусы. А самае галоўнае — ён быў пісьменнік і вельмі шчыры чалавек. Ні радка не напісаў, каб дагадзіць некаму. Усё шчыра, так шчыра, што жахаешся...

Некалі зусім невядомы пісьменнік становіцца пасля сваёй смерці другім празаікам пасля Чорнага. Адкопваем усё новыя і новыя яго творы, і кожны твор — камень у падмурак помніка. З такой цяжкасцю ўдалося надрукаваць раман "Віленскія камунары". Жывыя ж яшчэ тыя, хто садзіў, знішчаў Гарэцкага. Потым — "Камароўская хроніка". Цяпер — Гарэцкі-апавядальнік. Як паставіцца Кавалёў, ці надрукуе тое, што я выбраў?.. Калі надрукуе — адразу ж пачнуць гаварыць пра дарэвалюцыйную прозу па-другому. Не толькі адзін Колас, але і Гарэцкі. Прычым Гарэцкі куды вышэй у прозе, куды смялей. Гарэцкі — стыліст, Гарэцкі — даследчык жыцця. Гарэцкі... Што і казаць, Гарэцкі — пісьменнік! А там жа яшчэ ёсць і Ядвігін Ш. Коласу-празаіку давядзецца дзяліцца славаю.

Хачу артыкул напісаць пра Гарэцкага. Калі ўдасца — напішу.

**16.IV.68 г.**

Зайшоў учора ў рэдакцыю Я.Брыль. Не да Кавалёва, а да нас у аддзел. Прасядзеў больш 3-х гадзін. Сабраліся амаль усе, гаварылі пра літаратуру. Я ўспомніў тыя часы, калі Брыль быў намеснікам. Сказаў яму: тады для мяне рэдакцыя была новым універсітэтам.

"Чаму ж ты тады гэтага не казаў, а толькі цяпер?"

Кавалёў хадзіў, як вош на падкове. Заела яго, што Брыль не да яго ў кабінет зайшоў, а да нас. Сядзеў у кабінеце адзін... Наогул, у кабінет да яго цяпер ніхто і не заходзіць. Хіба толькі пакліча каго ці па справе.

Потым хадзілі з Адамчыкам, сустрэлі Юрэвіча. Кажа — працаваць больш у "Маладосці" немагчыма.(...)

Зноў Брыля спаткалі. Зноў доўга размаўлялі. "Мару напісаць аповесць для дзяцей". З Адамчыкам пасля гаварылі — ці не штучна створана ў нас дзіцячая літаратура, ці трэба яна наогул? Літаратура не для малалетак, а для падлеткаў. Падлеткі хай лепей чытаюць тое, што ёсць лепшага ў літаратуры. Брыль робіць даклад на пленуме. Кажа, не думае пра даклад. А відаць — думае: як зрабіць? Сумленна, як Ляонаў? Ці паіншаму?.. Расказваў пра пісьмы Фадзеева ў ЦК, пра кнігу Горкага, якая ў нас не друкуецца, пра дзённік і пісьмы Горкага... Аказваецца, многага мы проста не ведаем.

Цэнзура забракавала маю аповесць "Ноч няволі". Выкідаў-выкідаў, чысціў-чысціў — і ўсё адно нешта знайшлі. Узяўся чытаць А.Бажко. Калі ж званок да яго быў не з ЦК, а з Галоўліта,— усё будзе ад Бажко залежаць: мае на мяне зуб ці на М.Вышынскага (рэдактара) — я прапаў. Не мае — можа, хоць з папраўкамі аповесць пойдзе...

Амаль не хвалююся, хоць пісаць і не магу. Прывык ужо да ўсяго. Не магу толькі прывыкнуць працаваць у любых умовах. Каб працаваць — трэба сабрацца, усю энергію душы накіраваць на нешта адно. А гэта нялёгка, калі на цябе штодзень звальваецца не адно, дык другое. Мару пра той час, калі кіну працу, паеду куды-небудзь далёка ад горада, ад розных дробных клопатаў, і сяду пісаць. Спакойна, абдумана, глыбока... Ці будзе хоць калі гэта?..

Напісаў прамову пра свабоду творчасці пісьменніка, пра тое, што нельга абы-каму ўмешвацца ў яго работу, навязваць сваю волю. Пісьменнік мае права памыляцца, і памылкі пісьменніка трэба паважаць. Пра выхаваўчае значэнне літаратуры, пра тое, як яго разумеюць у нас і як яго трэба разумець наогул. Пра тое, што не можа быць у літаратуры аднаго нейкага напрамку, павінна быць столькі напрамкаў, колькі талентаў, пісьменнікаў... Можа, калі і скажу гэтую прамову. Не на бліжэйшым пленуме, то на з'ездзе.

Чытаю. Прачытаў Агнона, Камю, кніжку Бурсава. Крытычныя кнігі наогул рэдка чытаю, а Бурсава прачытаў з вялікай карысцю для сябе. Філасофія Талстога — удасканальваць сябе — у наш час ці правільная? Пакуль ты будзеш удасканальваць сябе, тыя, што акружаюць цябе, цябе ж заплююць, каменнем закідаюць.

Яшчэ раз пераконваюся — пакуль што нельга ніяк брацца пісаць раман. У савецкай літаратуры, апрача "Ціхага Дона", няма ніводнага рамана. Але "Ціхі Дон" напісаны ў трыццатыя гады, да таго ж ён аб'яўлены спачатку быў як антысавецкі. Калі што і можна рабіць, то пісаць апавяданні, невялікія аповесці, дзе можна быць шчырым. Страшна — напісаць няпраўду... Большага граху няма ў пісьменніка, як пісаць няпраўду. З брахнёй пройдзеш свет, але назад не вернешся. І таму яшчэ і яшчэ раз узважваю, што я магу сёння пісаць, каб і друкавацца можна было, і быць праўдзівым. Хіба не чапаць сацыяльнага? Але ж, здаецца, і не чапаеш яго, яно само лезе ў твор... Вечнага няма без сённяшняга, у сённяшнім заўсёды праламляецца вечнае. (...)

**27.VI.68 г.**

Прачытаў "Чужога" А.Камю. Некалькі дзён знаходзіўся пад уражаннем. Не дзіва, што ў нас не друкуюць ніводнай кнігі гэтага пісьменніка. Мы хочам пабудаваць грамадства на разумных асновах, а Камю сцвярджае, што ўсё ў жыцці — абсурд, нават само жыццё, чалавек — таксама абсурд. Жыць, нешта рабіць — і ведаць, што ты памрэш. І нельга нічога зрабіць, каб не памерці. І тую невялікую радасць, што можа мець чалавек ад жыцця, ад яго забіраюць, атручваюць тыя, хто над ім. А.Камю — праціўнік любой улады, праціўнік усяго, што над чалавекам, што не дае чалавеку жыць так, як ён таго хоча. У пазнейшым творы — "Чума" — ён больш рэальны, больш аптымістычны. Чалавеку, як бы цяжка яму ні было, трэба жыць, трэба рабіць усё, каб аблегчыць жыццё другіх, трэба ў любых умовах аставацца чалавекам. Не грамадства зменіць чалавека, а чалавек павінен мяняць сам сябе. Вось да чаго кніга Камю.

Сустракаўся з В.Быкавым, калі ён ехаў у Горкі. Пасля зноў бачыў Быкава на кватэры ў Вярцінскага. Знерваваны ён, баіцца, каб не пачаўся новы трыццаць сёмы. Ва ўсякім разе, у Маскве нешта падобнае адчуваецца. Антысемітызм, нічым не прыкрыты шавінізм, хамства і дзікая, дрымучая азіятчына. Усё накіравана на тое, каб расчляніць людзей, з сяброў зрабіць ворагаў. "Раздзяляй і ўладар". Праводзілі Быкава я, Вярцінскі, Бураўкін з жонкай. Бураўкін сказаў, што на Пленуме крытыкавалі Свіцязянскі семінар (Жабіцкі) і ў тым ліку мяне, праўда, не называючы прозвішчаў...

А ўчора — артыкул пра Салжаніцына ў "Литгазете". Ілжывы ад пачатку да канца, факты "передернуты", нават не сказана, што Салжаніцын беспадстаўна быў рэпрэсіраваны... Усялякая барацьба з яўрэямі канчаецца тым, што пачынаюць біць рускіх, украінцаў і беларусаў. Праўда, у нас, у Беларусі, пакуль што быццам бы ціха... Ці надоўга? Галоўліт загадвае, каб не пісалі нічога ў газетах добрага пра Быкава. І блытае — Быкава з Сачанкам. А можа, і не блытае?..

Так, трэба будзе перажыць яшчэ адну кампанію. Колькі іх ужо было нават на маім вяку?.. А колькі іх яшчэ будзе! Баюся, што будзеш вось так спадзявацца, чакаць, што нешта зменіцца, і памрэш, а змен ніякіх так і не будзе. Трэба навучыцца працаваць у любых умовах, як бы цяжка ні было. І пісаць, пісаць. Пісаць тое, што надумана. Адкладаць на заўтра не варта, бо заўтра можа і не быць...

Брыль вярнуўся з Польшчы і ходзіць змрочны. І там — разгул рэакцыі. Ці доўга так будзе?..

Думаю ўсё пра адно і тое ж: як, пра што пісаць, каб творы мае не памерлі раней за мяне. Прачытаў амаль усяго Платонава, Андрыча. Пра чалавека, чалавека трэба пісаць. І толькі. Чалавек не як прыдатак да чагось, а чалавек — Бог, тварэц ці пакутнік. Яго думкі, перажыванні. Як можна агаляць чалавека, капацца ў яго душы. І думаць, думаць, думаць. Не толькі пра тое, што зроблена чалавекам за 50 год, а і пра тое, што зрабіў чалавек за ўсё сваё існаванне. Хто ён, чалавек? Чаму ён прыйшоў на зямлю, што ён тут павінен рабіць? Чалавек — вечнасць жыцця... Чалавек і Сусвет. Сам чалавек — таксама Сусвет.

**3.VII.68 г.**

Даўно нічога не пішу, і гэта мяне нервуе. Розныя дробязі зусім замучылі. Як бы гэта зноў адысці ад розных умоўнасцей, быць самім сабою! Хочацца, як ніколі, адзіноты, спакою. Каб можна было думаць, не баючыся, што нехта цябе вось-вось некуды пакліча, нешта спытае ці нечага ў цябе запатрабуе...

Другі раз карысней не пісаць, чым пісаць. Але ў мяне гэткае, па-мойму, ужо скончылася. Хочацца зноў пісаць. Пісаць не

так, як пісаў, а па-іншаму. З улікам пеpaжытага ў апошні час, перадуманага, убачанага... Як-ніяк, а пасля "Апошніх і першых" я пахаваў бацьку, некалькі разоў пабываў дома, тады ў Маскве, 10 дзён жыў на Свіцязі, шмат з кім сустрэўся, многае пачуў... А колькі перачытаў усяго, колькі перадумаў чаго... Калі хачу быць у літаратуры, трэба забыць многае, што я рабіў, і пачынаць амаль нанова пісаць. Ці змагу я гэта?.. Здаецца, цяпер змагу.

**26.V.69 г.**

Прачытаў два раманы А.С.[1] і раман Б.П.[2] У рускіх, акрамя літаратуры афіцыйнай, ёсць па-сапраўднаму вялікая літаратура і цяпер. Яна аплявана, не прызнана ў нас, аб'яўлена чортведама чым. Але яна ёсць. Дарэчы, некалі былі гэтак жа апляваны і не прызнаны ў Расіі Пушкін, Радзішчаў, Гоголь, Дастаеўскі і г.д.

Шкада, але ў нас у Беларусі нічога падобнага няма. Літаратура спынілася на Багдановічу, Гарэцкім, Коласе, Купалу, Чорным. (...)

Трэба вучыцца. У Гогаля — дэталі, уменню маляваць. Мастак Гогаль — самы геніяльны, неперавузыдзены ў рускай літаратуры. У Талстога — бачыць рэчы, людзей аб'ёмна, усебакова, глыбока. У Дастаеўскага — філасофіі, заглядваць у тайнікі душы чалавека. Ёсць вялікая руская класіка, і ад яе трэба ісці. Як гэта зрабілі А.С. і Б.П.

Хто можа сказаць, колькі я пражыву? Час ідзе, таму і захацелася патрошку запісваць, што я ведаю пра пісьменнікаў.

<u>**Пятро Глебка**</u>. П.Глебку я ведаў мала. Неяк не выпадала нам сустракацца. Пісаў і друкаваўся ён рэдка, у "Полымя" амаль не заходзіў. Помню, давалі мы вершы Л.Геніюш. Уступны артыкул да вершаў напісаў П.Глебка. У артыкуле было некалькі слоў пра ідэйныя памылкі паэтэсы. Не хацелася напамінаць чалавеку цяжкога лёсу пра памылкі і, параіўшыся ў рэдакцыі, А.Бачыла выкінуў паўсказа з артыкула П.Глебкі. Калі прыйшла карэктура і яе пачытаў П.Глебка, то паўсказа пра ідэйныя памылкі Л.Геніюш аднавіў. Расчырванеўся нават, узлаваўся на А.Бачылу, калі той пачаў даказваць, што не трэба чапамінаць паэтэсе пра "памылкі".

***

У Маскве было абмеркаванне беларускай літаратуры на Савеце. На абмеркаванні тым быў і я. Нехта з дакладчыкаў "дзёўб" зборнік паэзіі П.Глебкі, што выйшаў якраз у Маскве. Вінаваціў перакладчыка, што той "у такога выдатнага паэта выбраў для перакладу дрэнныя вершы, да таго ж і пераклаў не зусім добра?" Зайшоў якраз на пасяджэнне П.Глебка. І прамоўца змоўк. Потым мы давалі вячэру маскоўскім сябрам у рэстаране ЦДЛ. Я сядзеў з П.Глебкам, з другога боку — нейкі маскоўскі паэт. Ён (маскоўскі паэт) увесь вечар вінаваціў Глебку, што той выступіў на Камітэце па Ленінскіх прэміях (П.Глебка быў членам Камітэта) супраць Ісаева. "Мне паэма Ісаева не спадабалася", — цвярдзіў Глебка. А паэт той: "Дык жа дамоўлена было: дадзім прэміі вашаму Танку і Ісаеву. А цяпер... Цяпер масквічы прагаласуюць супраць Танка".

Так яно і сталася потым — прэміі не атрымалі ні Танк, ні Ісаеў.

***

З Масквы, са з'езда пісьменнікаў, мы вярталіся цягніком "Беларусь". М.Стральцоў пацягнуў мяне ў суседні вагон, дзе ехалі ў міжнародных купэ некаторыя нашы старэйшыя. Адно з купэ было адчынена, там пілі каньяк Н.Пашкевіч, А.Макаёнак, П.Глебка. Не ведаю чаму, але і мы раптам аказаліся ў гэтым купэ. Выпілі па некалькі чарак каньяку, разгаварыліся. І раптам А.Макаёнак пытаецца ў П.Глебкі: "Я чуў, што Вы быццам апраўдваеце 37-ы год. Праўда гэта?" П.Глебка, і так чырвоны, пачырванеў яшчэ больш: "А 37-ы год патрэбен быў нам, праз яго трэба было прайсці, каб ачысціцца ад непатрэбных людзей. Вы не ведаеце таго часу, той барацьбы, скрытай і адкрытай, людзей тых... Сапраўды сярод іх былі ворагі..." А.Макаёнак быў п'яны. Мы не згледзелі, як ён схапіў П.Глебку за шыю і пачаў душыць, ледзь

[1] А.С. — Аляксандр Салжаніцын.
[2] Б. П. — Барыс Пастэрнак.

адабралі мы са Стральцовым Глебку, бо Макаёнак, на дзіва, здаровы і апантаны. Вырваўшы Глебку з рук Макаёнка, мы выйшлі на калідор. Нейкі час стаялі там, гаварылі. Але размова не клеілася, і мы разышліся па сваіх купэ.

***

Ішоў з’езд пісьменнікаў Беларусі. “Валілі” Броўку. Усе пісьменнікі былі разгарачаныя — хто падтрымліваў Броўку і хто быў "супраць". На заключным пасяджэнні старшынстваваў П.Глебка. Многія помняць тое пасяджэнне. Моладзь хацела ўставіць некалькі чалавек у Праўленне з тым, каб была магчымасць выкінуць сяго-таго. Але Глебка-дыпламат не даваў. “Гэтага можна ўставіць, а каго, скажыце, выкінуць са спіску”? Словам, уставіць новага нікога П.Глебка не даў. Затое калі падлічылі галасы, то сама больш “супраць” атрымалі: А.Кучар, П.Броўка і П.Глебка.

***

Ва універсітэце быў вечар. Адзначаліся нейкія ўгодкі, таму на вечар прыйшлі П.Глебка, К.Крапіва, шмат было і маладзейшых. Якраз тады была “вайна маладых са старымі”. П.Глебка і К.Крапіва чамусь на тым вечары захацелі “лягнуць” маладых. Я не стрымаўся і, калі мне далі слова, сказаў афарызм аднаго чэшскага пісьменніка: “Барацьба маладых са старымі нагадвае барацьбу тых, хто яшчэ не нажыў розуму, з тымі, хто з яго выжыў”. Афарызм узлаваў і П.Глебку, і К.Крапіву. Яны ўзялі яшчэ раз слова і “крылі” зноў маладых. І мяне, вядома.

***

Я чуў ад многіх людзей, што ў П.Глебкі — выдатная бібліятэка. Якраз тады я вельмі дбаў пра сваю бібліятэку і быў нястрымны, калі размова ішла пра кнігі, — хацеў бачыць, якія кнігі і якіх аўтараў трымаюць людзі ў сваіх хатах. Пасля аднаго Пленума (ён праходзіў у клубе ЦК камсамола), калі апранаўся, я ўбачыў побач П.Глебку. Ён неяк занадта, як здалося мне, вяла апранаў сваё паліто. Я загаварыў з П.Глебкам, сказаў яму:






— Я чуў, што ў Вас выдатная бібліятэка. Ці можна было б хоць адным вокам глянуць на яе?

— Калі ласка, калі ласка, — заўсміхаўся Пятро Фёдаравіч. І неяк ажыў увесь, засвяціўся. — Я люблю тых людзей, хто любіць кнігу.

Адкладваць тое, што мне хацелася, я не прывык, таму спытаў у П.Глебкі, калі можна зайсці да яго.

— А хутка. Вось толькі ў Маскву я з’езджу, падлячуся трохі, а то адчуваю сябе ў апошні час няважна. Прыеду, то званіце...

Дзён праз колькі пасля той размовы П.Глебка ў Маскве памёр.

Я аглядаў Глебкаву бібліятэку ўжо без яе гаспадара. Паказвала кнігі жонка П.Глебкі, разам са мною быў Я.Сіпакоў. Бібліятэка была неблагая, хоць і не такая ўжо выдатная, як гаварылі ўсе. Я бачыў бібліятэкі і большыя, і лепшыя. Праўда, беларускія кнігі захапілі мяне. Выдатны падбор кніг 20—30-х гадоў. Многія з аўтографамі. А яшчэ кнігі нашай эміграцыі, выдадзеныя ў Амерыцы, ФРГ... Купала, Багдановіч, Гарун, Калюга, Арсеннева, Сяднёў... Газеты “Бацькаўшчына”, “Беларус”, часопіс “Конадні” і інш. Жонка сказала, што П.Глебка ўсё гэта прывёз з Амерыкі.

Больш трох гадзін правялі мы з Я.Сіпаковым у бібліятэцы П.Глебкі. І, ідучы праз парк, гаварылі, як любяць беларускае слова тыя, што па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, як любіў сваё роднае слова ён, П.Глебка. Бібліятэку П.Глебку захавала жонка. У вайну яна заставалася ў Мінску. І быццам за тое, што яна захавала бібліятэку, П.Глебка дараваў ёй усё.

**Аркадзь Чарнышэвіч.** У тыя гады, калі я пачынаў працаваць у “Полымі”, А.Чарнышэвіч жыў у Радашковічах. У Мінск ён прыязджаў рэдка. І хоць творы яго мы друкавалі, але бачыцца і гаварыць амаль не даводзілася. Свае творы ён пісаў на разлінованых аркушах паперы звычайным пяром, фіялетавым чарнілам. Прывозіў папку нашай машыністцы, тая перадрукоўвала, мы бралі ў яе і вычытвалі. Што лічылі патрэбным — правілі, скарачалі.

А.Клышка загарэўся нешта напісаць пра А.Чарнышэві-

ча. Паехаў да яго ў Радашковічы. Пераначаваў там. Назаўтра расказваў мне, што А.Чарнышэвіч жыве бедна, што ў хаце многа клапоў, і каб уночы хоць трохі паспаць, давялося ім з А.Чарнышэвічам спаць на падлозе, кругом сябе наліўшы цэлыя лужыны вады. А.Чарнышэвіч быццам сказаў, што "клапы праз ваду не пройдуць, а пакуль падымуцца да столі і ўпадуць на іх, можна будзе выспацца".

Потым, калі А.Чарнышэвіч прыехаў у Мінск, ён у рэдакцыю "Полымя" пачаў заходзіць часцей. Асабліва ў наш аддзел. Прыйдзе, сядзе на канапку, распытвае, хто я, дзе жыў, што пішу. А пад канец, калі дадому ісці, папросіць некалькі часопісаў старых, што ў шафе ў нас ляжалі. Ён, аказваецца, вельмі любіў кнігі, хацеў чытаць, а дома ў яго хаце кніг не было.

***

Аднойчы ён расказваў, як даводзілася і яму жыць у высылцы.

— Мы, беларусы, калі прыехалі ў Сібір, то ўсё рабілі лепш за мясцовых людзей. І пісьменныя амаль усе былі. І ўявіце сабе: у нас многаму вучыліся мясцовыя, нават гаварыць панашаму. А голад там быў страшны. Дзіўна вось што: трупаў далёка ад дарог амаль не знаходзілі. Звычайна трупы ўсе ляжалі ля дарог ці ля сцежак. Доўга думаў я над гэтым — чаму трупы ля дарог ці сцежак ляжаць. І цяпер ведаю: чалавек заўсёды ў цяжкую хвіліну другога чалавека шукае. Каб памог той яму, і паўзе да дарогі, да сцежкі, дзе могуць людзі быць. І сілы яму хапае дапаўзці, бо надзея ёсць. Дапоўзшы, чакае, што яго падбяруць, і памірае. (...)

***

Неяк я стаю на прыпынку тралейбуса. З Янкам Брылём. Падыходзіць А.Чарнышэвіч. І да Брыля.

— Курыць маеш?

— Я ж не куру, — кажа Брыль.

— Ты не курыш, не п'еш, можа і бабы ўжо... — сказаў А.Чарнышэвіч.

А вакол нас — людзі!

Ускочыў я ўслед за Брылём у тралейбус, а той і кажа:






— Ведае ж, што я не куру. А знарок так гаворыць, каб зганьбіць...

***

Я.Скрыгану не спадабаўся нейкі зварот у А.Чарнышэвіча. Здаецца, "падкласці свінню". Па-руску гэта, трэба паправіць. Думалі-думалі мы, а прыдумаць нічога не змаглі.

— Можа, "кепства зрабіць"? — падказаў хтосьці.

— Але, гэта лепш! — сказаў Скрыган.

А.Чарнышэвіч зморшчыўся вельмі, але пярэчыць не стаў.

Потым М.Клышка выпісаў гэтае "кепства" як прыклад у свой слоўнік. І пад сказам тым падпісана: "А.Чарнышэвіч". (...)

***

Чалавек жа сам А.Чарнышэвіч быў мяккі, нейкі сарамяжлівы, да свае творчасці адносіўся крытычна.

— Эт, што мы! — не раз казаў ён. — Вось Л.Талстой быў у Расіі, ці Дастаеўскі. Вось гэта былі пісьменнікі. А мы — што?

***

У Доме друку, дзе на апошнім паверсе размяшчалася выдавецтва "Беларусь", я на лесвіцы сустрэў А.Чарнышэвіча. Ён стаяў ля пярылаў і цяжка дыхаў. Я павітаўся і, як звычайна, праз прыступку на наступную пабег вышэй. А А.Чарнышэвіч пазайздросціў мне:

— Во як ты бегаеш! А я спускаюся ўніз, і то на кожнай пляцоўцы адпачываю.

***

**Дзве з паловай гадзіны ў Міхася Лынькова.**

Перад 50-годдзем "Полымя" мне было загадана рэдактарам звязацца з М.Лыньковым — заказаць яму артыкул пра пяцідзесяцігадовы шлях часопіса. Чаму менавіта мне трэба было заказваць артыкул? Незразумела, як і ўсё, што рабілася пры К.Кірэенку ў "Полымі". Будучы на нарадзе членаў Праўлення на Нарачы, я сказаў пра артыкул М.Лынькову. Ён згадзіўся напісаць нам, што мы просім.

— Толькі напомніце мне яшчэ раз. І добра было б, каб далі мне кантычку, што друкавалася ў "Полымі" за 50 год.Ісці ў бібліятэку, гартаць падшыўкі я не здолею.

Сапраўды, М.Лынькоў быў хворы, задыхаўся.

У Мінску я падрыхтаваў кантычку і неяк пад восень пазваніў М.Лынькову. Ён якраз прыехаў на сесію Вярхоўнага Савета. Дамовіліся сустрэцца ў 6 гадзін вечара.

Роўна ў 6 гадзін я пазваніў у кватэру да М.Лынькова. Дзверы адчыніў сам гаспадар. Падаў мне руку, папрасіў заходзіць.

У кватэры яшчэ быў рамонт, мы прайшлі па калідоры ў кабінет. Ля адной сцяны стаяў стэлаж з кнігамі, сярод якіх шмат было беларускіх, у тым ліку і маладзейшых нашых пісьменнікаў — І.Пташнікава, М.Стральцова, В.Быкава, мае.

Селі за круглы стол. М.Лынькоў толькі што вярнуўся з сесіі, жыў тою размоваю, што адбылася ў яго з сакратаром ЦК Аксёнавым.

— Стаю я пры выхадзе з Дома ўрада, — казаў ён, — а да мяне Аксёнаў падыходзіць: "Давайце, Міхась Ціханавіч, я Вас падвязу дадому". Калі селі ў машыну, Аксёнаў спытаўся: ці помню я словы Маякоўскага — "Я волком бы выгрыз бюрократизм..." О, гэтыя словы я добра помню. Мой намеснік у "Полымі" некалі ў трыццатыя гады за іх атрымаў 18 гадоў. І адседзеў...

— ?

— Не здзіўляйцеся. У нас ішоў нейкі крытычны артыкул пра Маякоўскага, дзе цытаваліся гэтыя словы. Часопіс быў падпісаны ў свет, яго атрымалі падпісчыкі. Прыходжу неяк я ў рэдакцыю, чую званок. Бяру трубку. "Мне трэба таварыш Лынькоў". — "Я Лынькоў, слухаю". — "Вы, таварыш Лынькоў, чытаеце тое, што падпісваеце ў друк?" — "В обязательном порядке". — "Тады пачытайце, што надрукавалі на такой старонцы". Я адгортваю старонку, чытаю, даходжу да слоў "Я волком бы выгрыз бюро..." і вачам сваім не веру — замест "бюрократизм" набрана — "бюро крайкома".

Я звычайна чытаў усе матэрыялы да здачы ў друк. За карэктуру адказваў мой намеснік — малады добры хлопец з Капыля. Давялося яму ісці ў тую ўстанову, тлумачыць памылку. Выявілася — памылку знарок зрабіў наборшчык, якога бюро крайкома выключыла перад гэтым з партыі. Узялі наборшчыка, узялі і майго намесніка. Сустрэліся мы — пасля рэабілітацыі, я спытаў, ці хоча ён працаваць у літаратуры... "Не, паеду ў свой Капыль". І паехаў.






Пакολькі гаворка пачалася пра той час, які цікавіць кожнага, я асмялеў, сказаў:

— Я не раз чуў, быццам перш чым "брацъ" пісьменніка, яго справу паказвалі генсеку Саюза Фадзееву. І той падпісваў. Ці праўда гэта — Вы ж таксама былі сакратаром Саюза?

— Не, гэта няпраўда. Я быў тады за старшыню ў самы страшны час, але ў мяне ніхто не пытаў — "брацъ" таго ці іншага ці не "брацъ". Дакладвалі, праўда, штодзень, каго "ўзялі". Званілі нам у Саюз. А наогул, то быў страшны час. Я прыехаў у Мінск з газеты акруговай, быў як на цяперашні лад галоўным рэдактарам выдавецтва, потым перайшоў на працу ў Саюз. І адразу ж пачалося. Помню, быў у Маскве Пленум па песні. Паехалі на яго Купала, Колас і я. Прыехалі ўранні ў Маскву, уладкаваліся ў гасцініцу. Колас стаміўся, лёг адпачыць. Купала пабег галіцца, а я на Пленум пайшоў. Пленум пачаўся ўжо, але вельмі ж нецікавы. Зрабілі перапынак. Выйшаў я ў фае, Купалу ўбачыў — ён жанчын шампанскім частаваў. Зноў пасяджэнне пачалі. І зноў нецікава. Спынілі, прынялі пастанову. Купала пабег на паштамт — трэба было ў Мінск нешта пільна пазваніць. Вярнуўся ў гасцініцу — кашалёк у яго выкралі. А ў ім — дакументы, грошы. Званю ў Саюз Стаўскаму, машыну прашу, каб да цягніка падвезлі, а заадно кажу і пра тое, што дакументы ў Купалы ўкралі. А той: "З гэтага і пачынаў бы. Толькі не ўкралі дакументы ў Купалы, а ён іх згубіў п'яны..." "Купала не п'яны, — цвярджу я. — Усяго толькі і выпіў шампанскага". — "Будзеце адказваць, таварыш Лынькоў!" І бразь трубку.

Вяртаемся ў Мінск, "Литературная газета" прыходзіць. А ў ёй фельетон вершаваны, як пагулялі ў Маскве "Янка, Михась и Якуб". Клічуць мяне ў ЦК, пытаюць, як Пленум па песні прайшоў. Расказваю. А з мяне смяюцца. "Брэшаш, Лынькоў. З вас жа ніхто і не быў на Пленуме. Вы ж прап'янствавалі..." І дастаюць са стала вялізны ліст, у якім чаго толькі ні напісана. Потым я здагадаўся, навошта гэта было зроблена. Намячаліся выбары ў Вярхоўны Савет рэспублікі і, мусіць, трэба было зняць з канды-

датаў у дэпутаты народных песняроў. Мяне ж у кандыдатах пакінулі. Паехаў я на Віцебшчыну. Са мной — Броўка, Глебка і яшчэ адзін тып. Ездзім, выступаем, агітуем. У Дзвіне я пакупацца надумаў, а тып той ходзіць па беразе, вачэй з мяне не зводзіць! (Потым, пасля вайны, прызнаўся, што баяўся ён, каб я ў Прыбалтыку не ўцёк. Бяда ўся ў тым, што сам тып плаваць не ўмеў!) Раптам тэлеграма прыходзіць — тэрмінова ў Мінск. Прыязджаю, іду ў ЦК — пытаю таго чалавека, што мне тэлеграму даваў. Аказваецца — няма ўжо, узялі. Іду да сакратара. Ён тлумачыць мне, што спіс кандыдатаў у дэпутаты перагледжаны, выкінута інтэлігенцыя, у тым ліку і я, пастаўлены замест інтэлігенцыі рабочыя. А да выбараў — тры дні...

Потым зусім незразумелае пачало рабіцца. Як дзень — так некалькі чалавек нашых братоў-пісьменнікаў і няма. Іду з Саюза дадому — Зм. Бядуля з-за вугла дома выйшаў. "Колькі ўзялі сёння?" — "Пяць!" — "Ого". Калі скажу: "Два" ці "Тры". "Ну, то яшчэ нішто". Мне ў Саюз званіць перасталі, выклікаць куды б то ні было. Я ўбачыў — мяне за старшыню мецць не хочуць. А на работу ўсё адно хадзіць хадзіў — дысцыпліна. Пісаць? Дзе там пра што было пісаць? Сустракаю аднаго знаёмага свайго — кажа: "Усё, таварыш Лынькоў, песенька твая спета. Уцякай куды-небудзь". Так я пуцёўку выпісаў і паехаў адпачываць. На поўдзень. І там, у Доме адпачынку, чую аднойчы па радыё, што ўзнагароджана група беларускіх пісьменнікаў ардэнамі. Сярод узнагароджаных — і я. Ну, ордэн тады — гэта індульгенцыя. Ажыў я. Вяртаюся назад у Мінск, быццам справы наладжваюцца. Што адбылося ж — ніхто нічога не ведае.

Потым, гадоў праз трыццаць, Панамарэнка расказаў нам пра ўсё з А.Куляшовым, калі на Нарач адпачываць прыязджаў. А адбылося вось што. Панамарэнку сакратаром першым ЦК прызначылі. Прыязджае ён у Мінск, а на другі ці трэці дзень да яго на прыём Берзін (тады начальнік НКВД) просіцца. І кладзе на стол, кажа, мне папку. Адгортваю, кажа, я яе, а там афармлены паперы на ліквідацыю Купалы, Коласа, Лынькова і г.д. Словам, усіх да аднаго беларускіх пісьменнікаў. Берзін просіць толькі дазволу, каб не ўсіх адразу "браць", а то, маўляў, нас правільна могуць не зразумець, а па два, па тры чалавекі штоноч. Я пагартаў гэтую справу і прашу: я толькі што прыступіў да працы. "Пачакаем, можа, тыдзень-два". — "Можам". — "Ну, а тыдні праз два мы з вамі пагаворым на гэтую тэму". Берзін выходзіць, я склікаю астаткі бюро ЦК. Кажу пра справу, што падаў мне Берзін. "Купала вораг? Колас? Не можа гэтага быць!" — усклікаюць мясцовыя таварышы. А мне што рабіць? Адчуваю: трэба звязвацца са Сталіным. А як? Пазваніць — пачуюць — мне хана. Паслаць фельд'егера? Перахопяць. Я гэтых хлопцаў ведаў. Адзінае — самому трэба ехаць, перагаварыць з Іосіфам Вісарыёнавічам з вока на вока. Якраз нарада па прамысловасці намячалася, я і паехаў на яе. Калі скончылася нарада, я астаўся, падышоў да Іосіфа Вісарыёнавіча. "Як там справы ў цябе?" — пытае. Я расказваю, а пад канец і пра папку тую, што прынёс мне Берзін, словы яго: "Трэба кончыць з гэтымі беларусамі". Выслухаў мяне Іосіф Вісарыёнавіч, трубку пацягнуў і кажа: "А калі яны і праўда ўсе ворагі, дык хіба шкадаваць?" Ну, думаю, усё, улез я не ў сваё... І націскае на кнопку, чую, са Ждановым гаворыць. "Таварыш Жданаў, тут у мяне малады сакратар з Беларусі. Ён сцвярджае: за ўсе гады існавання Беларусі ніводзін беларускі пісьменнік не атрымліваў урадавых узнагарод. Праўда гэта?" Той памаўчаў і адказаў: "Праўда, Іосіф Вісарыёнавіч". "Дык сакратар, таварыш Панамарэнка, зойдзе да цябе зараз. Узнагародзьце пісьменнікаў беларускіх".

Вось так і былі тады мы ўзнагароджаны...

Але сам указ аб узнагародах стаў вядомы значна пазней, калі Берзіна і яго прыхільнікаў пакаралі. Тады ж, вярнуўшыся з Масквы і атрымаўшы дазвол на ліквідацыю Берзіна, Панамарэнка паклікаў да сябе камандуючага пагранвойскамі. Камандуючы выслухаў Панамарэнку, падумаў і сказаў: "Я не адмаўляюся выконваць ваш загад. Але перш чым аддаць загад войскам, я павінен звязацца з вышэйшым камандаваннем". "Пачакайце, мы вас звяжам". І вядзём у пакой, дзе няма ніякіх тэлефонаў. Замыкаем яго там. Клічам намесніка камандуючага. І той выконвае загад без усялякіх пярэчанняў. Уночы, акружыўшы НКВД, бяруць войскі каго трэба...

Адчуўшы, што размова ідзе шчырая, я не мог, каб не запытаць яшчэ пра сёе-тое.

— Міхась Ціханавіч, скажыце, навошта вы аддалі кіраваць Саюзам Броўку?

— Стаміўся я, уюнаша, змагацца за літаратуру. А Броўка хацеў быць кіраўніком. І Колас яго падтрымліваў.

— Чаму Колас?

— Паслухай, і гэта табе раскажу. Я ж быў усё ж за літаратуру. Добрую літаратуру. А большасць нашых пісьменнікаў хіба ж літаратары? Так, жылі з літаратуры. Броўка ўжо ў Маскве мяне правакаваў. Аднойчы збіраюць нейкае пасяджэнне, на ім — Панамарэнка. Панамарэнка кажа: “Учора званіў мне Броўка, казаў, што Лынькоў займаецца шкодніцтвам — выпускае газету, і яна ляжыць штабелямі на аэрадроме". Я падняўся і кажу: "Я рэдактар і павінен выпускаць газету. А што да распаўсюджання, то ў мяне няма самалётаў, не магу". Панамарэнка: “А верно Лыньков говорит!” Тады Броўка падхапіўся, выняў пісталет. “Што, дык няўжо праўды сказаць нельга?” І пісталет да скроні. Я выхапіў пісталет, выняў патроны. “Страляйся цяпер, — кажу, — хоць і застрэліцца ты не зможаш, бо не ўмееш”. Ці: збірае зноў пасяджэнне Панамарэнка і кажа, што званіў нейкі тып мне ўчора ўночы, скардзіўся, што Лынькоў кіраваць не ўмее... Але ад тыпа таго вельмі ж гарэлкай пахла, то я трубку палажыў, слухаць не стаў... Падхопліваецца Броўка: “То я званіў, Панцеляймон Кандрацьевіч. Выбачайце”. “Я-то пазнаў, што гэта ты званіў. Але думаў, што ў цябе не хопіць смеласці прызнацца”. А тут яшчэ гэты графаман Гурскі, Стаховіч... А ў Мінск вярнуўся — то і Колас супраць мяне. За што? Ды аднойчы прыносяць мне на акадэмічным бланку афармленую справу на вылучэнне на Сталінскую прэмію Якуба Коласа за ваенныя паэмы: “Адплата” і інш. Паэмы слабыя, я справу нікуды не пасылаў, у стале пакінуў. Вяртаецца Колас з адпачынку: “Міхаська, паслаў ты тую справу на прэмію?” — “Не”. — “Чаму?” — “Паэмы слабаватыя”. — “Як?! І Глебка, і Броўка казалі — выдатныя паэмы”. — “Я магу зачытаць, што мне без вас гаварылі пра вашы паэмы”. (А я быў прэзідыум правёў у адсутнасць Коласа, на якім апошнія творы яго абмеркаваў.) Не стаў слухаць мяне Колас, у ЦК пабег...

Ну і я... Не вытрымаў я, здаў сваю пасаду. На сваё месца параіў Броўку. “Прап’е Саюз”, — кажуць мне. “Не, не прап’е. Вось калі вы не паставіце яго, то сап’ецца”. Я аказаўся праў...

Я пахваліў некаторыя творы Лынькова — “Над Бугам”, “Міколка-паравоз”. (...)






— Ага, сёе-тое ўсё ж мне ўдалося напісаць, чаму я вельмі рады. А потым пісаць не было калі — закіраваўся я.

Успаміналі Стаховіча зноў.

— О, такога даставалы, прабівалы пашукаць! Напісаў сваіх “Лясных салдатаў”. Шум усюды, а твора няма. Сабраў у сябе п’яны гармідар. “Чысты Чэхаў”, — хваліць Барысенка. Твардоўскі: “Хто передасть прелесть белорусского языка на рускую мову”. А сам Стаховіч: “Правда” просіць друкаваць падваламі і “Известия”. Не ведаю, каму перавагу аддаць?” А мне чытаць не дае. Я, пакідаючы зборышча, кажу Стаховічу: “А мне дай усё ж пачытаць. Я старшыня і павінен ведаць, што члены Саюза пішуць”. Даў. Я прачытаў, паклікаў Стаховіча і кажу: “Перастань трубіць. Аповесць слабая. Ніякія “Правда” і “Известия” друкаваць яе не будуць”. Так яно і было.(...)

— Цікава, а за што Вас у 37-м браць хацелі?

— Адна яўрэйская газета ў Парыжы передрукавала маё апавяданне “Гой”, і нешта передрукавалі ў Заходняй Беларусі. Вось і ўся віна мая...

Лынькоў цяжка дыхаў, гаварыць яму было нялёгка. Я передаў яму “кантычку”, папрасіў не падводзіць рэдакцыю.

— Добра, артыкул я напішу. А цяпер давай, уюнаша, пабражнічаем... Каньяку хочаш ці "беленькай"?

Я сказаў, што і таго, і другога я не ўжываю.

— А піва п’еш?

— Піва можна выпіць...

Мы пайшлі на кухню і выпілі па бутэльцы халоднага — на бутэлькі лілася з кранаў вада — піва.

***

Яшчэ давялося бачыць Лынькова ў лечкамісіі. Мы з Сіпаковым і Адамчыкам зайшлі неяк да Мележа. Разам з Мележам пайшлі да Шкрабы. Выявілася, што ляжыць у лечкамісіі Янкоўскі, а там — жонка Танка. Убачылі якраз і Танка — ён ішоў ад жонкі. Заваліліся цэлай гурмой да Лынькова. Ён сябе адчуваў дрэнна, уночы нават суседа па палаце зблытаў са сваім братам. Расказваў нам пра гэта і смяяўся. А на ложку ў яго ляжаў часопіс “Полымя”, адгорнуты на тых старонках, дзе быў надрукаваны раман А.Савіцкага “Тры непражытыя дні”.

— Што, смакуеш? — жартаваў Танк.
— Трэба ж і мне ведаць, за што цяпер "дзяўбуць".

***

**Пятрусь Броўка.** З П.Броўкам даводзілася сустракацца не раз. Крытыкаваць яго, хваліць і проста гаварыць. Крытыкаваў я яго на Пленуме — ураджанне: чырванее лысіна, і я кідаю на яе, як гарбузы, — словы.

У выдавецтве Галоўліт затрымаў маю кнігу "Барвы ранняй восені". Якраз быў там П.Броўка. Нікіфаровіч кажа — пагавары з Броўкам. Я сказаў Пятру Усцінавічу пра Галоўліт. "А што ў кнізе?" Зачытаў тыя мясціны я яму. "Ну, гэта можна пакінуць. А гэта здымай. Трэба заўсёды так — трохі сабе, трохі і ім..." — "Да каго ісці, з кім "гаварыць"? — "Ідаць, да Матузава".— "Добра, пайду". Пайшоў, пагаварыў — кніга выйшла.

Выйшла кніга — а ў газеце "Звязда" фельетон на кнігу "Пацяруха". Фельетон напісаў Б.Стральцоў, якога я не хацеў друкаваць у "Полымі". Зноў іду да Броўкі. Даю яму кнігу. Прачытаў, выклікаў да сябе. "Добрая кніга. Пішаш густа. Праўда, сонечнага дня мала. Усюды коні, сярпы, косы... А трэба — машыны, камбайны, касілкі... Правады, тэлевізійныя антэны. Буду кнігу абараняць".

І абараняў. На Пленуме ЦК. Маўляў, як выхоўвае "Звязда" маладых пісьменнікаў. І зачытаў "Звязду", пахваліўшы маю кнігу.

А.Мазураў у заключным слове ударыў па Броўку і па маёй кнізе (у гутарцы са мной т.Мазураў прызнаўся, што не чапаў бы маёй кнігі, калі б П.Броўка паводзіў сябе добра. А то выступіў — і паехаў на дачу. І гэта раззлавала Мазурава. "Урэшце, размова ідзе пра выхаванне. Чаму гэта я павінен выседжваць на пасяджэннях, а ён, П.Броўка, не?")

На нашым Пленуме П.Броўка ўдарыў ужо па мне, гаварыў адваротнае таму, што мне ў кабінеце.

***

На з'ездзе, калі А.Бачыла зачытаў, колькі набраў П.Броўка галасоў "супраць", у П.Броўкі галава раптоўна апусцілася, а М.Лынькоў заўсміхаўся...







***

У Докшыцах пасля сытнага абеду пытаю ў П.Броўкі:
— Ходзяць чуткі, што апавяданні ў Вас ёсць. Дасцё калі?
— Дам...
І прынёс неяк, калі нас у аддзеле не было.
Карэктуру апавяданняў паглядзеў. Я ў "Энцыклапедыю" зайшоў да Броўкі. На грудзях у яго зіхацела "Зорка Героя".
Я павіншаваў.
— Усё сабраў я, што можна было сабраць на зямлі. Цяпер астаўся адзін сум...
І ўсміхаецца.
— Вось выдам "Энцыклапедыю", і ўсё.
Я пачаў суцяшаць — трэба, маўляў, пісаць. Тым больш што і проза пайшла нядрэнна.
— Праўда? Хачу зборнічак маёй прозы выдаць. Хай будзе...

***

Зноў у "Энцыклапедыі" — прыйшлі мы з Сіпаковым глядзець том чарговы. І Броўка да Казекі прыбягае. Я прачытаў новую кнігу апавяданняў П.Броўкі.
— Не думаў я, што Вы, Пётр Усцінавіч, былі такі нясмелы з дзяўчатамі ў юнацтве?
— Ха, усе мы мужыкі. Вось марачкі былі на гэта спрыты. А мы... Цяпер толькі ўспомнілася, колькі не скарысталі магчымасцей...

***

На пасяджэнні рэдкалегіі, калі планы зачыталі.
— А моладзі пакідаеце месца? І на мяне глядзіць. — Я малады ў рэдакцыі "Полымя" працаваў.

***

**Рыгор Шырма.** Памёр Р.Р. Шырма...
Прыгожа пражыў ён жыццё, шмат зрабіў для культуры нашага народа.
"Шмат" — нават і слова не тое, няма, мабыць, у мове нашай таго слова, якое б увабрала ў сябе тое, што зрабіў Шыр-

ма для народа, культуры, мовы, песні. Добра, што і слава яго не абмінула...

Некалькі разоў сустракаўся я з ім.

Першы раз — будучы студэнтам. Зайшлі мы з выкладчыцай папрасіць яго выступіць у нас на факультэце. Жыў тады ў доме ля касцёла. Помню пакой з вельмі высокай столлю, шафы з кнігамі і папкамі. І стары дзядок з белымі вусамі, брывамі і барадой. Маленькі ростам. І запрасіў адразу ж усіх на размову. Размова ішла пра збіранне фальклору. "Добра, што збіраеце. Але збіраць — мала, фальклор трэба выдаваць. Вось у мяне колькі сабрана песень, народнага меласу. А ляжаць усе ў папках. З-за мяжы шлюць мне кнігі, а я не магу ім нічога прапанаваць. Лепшае не выдадзена, а тое, што выдадзена, — выдадзена дрэнна. Вось паглядзіце, як выдаюць фальклор за мяжой". І пачаў паказваць нам кнігі, адну за адной.

Некалькі вельмі цікавых сустрэч было ў "Полымі", дзе мы хацелі, каб ён напісаў свой жыццяпіс.

Пішу. Але пішу надта ж паволі.

Самыя помныя ж сустрэчы — на Свіцязі, на нарадзе маладых. А.Вярцінскі, П.Макаль і я неаднойчы хадзілі з ім па лесе, неаднойчы сядзелі ў яго пакойчыку. Захоплены быў паэзіяй. Гаварыў пра М.Танка, як выдаваў яго першую кнігу ў Вільні, пра С.Крыўца. У яго былі два чорныя агульныя вялікія сшыткі вершаў С.Крыўца, і ён чытаў нам тыя вершы. Вершы незвычайныя і пра тое, пра што ніводзін заходнебеларускі паэт не напісаў (а можа, напісаў, ды яшчэ не надрукаваў).

— Трэба гэта выдаць! Абавязкова! — гаварылі мы.

— І выдаў зборнік С.Крыўца. Праўда, без многіх, мусіць, самых лепшых яго вершаў — пра Сталіна, тое, што рабілася ў Заходняй Беларусі ў першыя гады Савецкай улады.

Сустракаліся мы часта з Р.Р.Шырмам на вуліцы, на розных пасяджэннях. Неяк, ідучы з М.Танкам, спыніліся на вуліцы, гаварылі пра жыццё, пра апошнія цікавыя падзеі. Я, ведаючы, што Р.Р.Шырма не зусім прымае "Песняроў", спытаў, чаму так. Вывад Шырмы быў адзін: яны псуюць беларускую песню, уносяць чужыя матывы ў іх выкананне, не характэрныя для беларускай песні.







— Але ж усё адно слухаць "Песняроў" прыемна, добра, што хлопцы на нашай аснове ўсё робяць.

— Таму іх і слухаюць. Інакш іх бы ніхто не прыняў бы, каб не было такой пульсацыі народнага беларускага меласу. Людзі згаладаліся па ўсім народным. Радыё, тэлебачанне забівае рознымі "бугамі-вугамі".

Апошні год мы жылі з ім у адным доме. І, сустракаючыся, я заўсёды любаваўся ім: які прыгожы дзядок. І як прыгожа ён жыве!

<u>**Аркадзь Куляшоў.**</u>

Няма ўжо і А.А.Куляшова.

Ведаў яго я малавата, але ўсё ж ведаў.

Некалькі разоў сустракаўся ў "Полымі", некалькі разоў ён званіў у рэдакцыю і натыкаўся на мяне.

"Гэта Куляшоў..."

Самая працяглая сустрэча з ім была ў цягніку, калі мы ехалі на з'езд СП СССР. Пестрак, Асіпенка, Чыгрынаў і я — у купэ. Было ў нас што выпіць, але не аказалася нічога закусіць. У П.Пестрака было сала, было і пячэнне. Асіпенка: "Гэта ўпершыню — пячэнне з салам".

І мы ўсю ноч закусвалі пячэннем з салам. І гаварылі.

А.Куляшоў успамінаў, як яго выбіралі дэпутатам у Заходняй Беларусі, як ён ездзіў з пісталетам і ахоўнікам на сустрэчы з выбаршчыкамі. Гаварылі шмат пра літаратуру. Запомніліся яго выказванні.

Чаму ў нас няма паэмы? Бо час неспрыяльны... Для паэмы патрэбныя падзеі. Маштабаў іх няма — няма і паэмы.

— Ці чыталі Вы "Сказ пра Лысую гару?"

— Чытаў. Але ў час, калі ўсе нападаюць на пісьменнікаў, дык і самі мы... Нельга гэтага рабіць. Пісьменніка трэба падымаць перад народам, а не мяшаць яго з г..ном.

Аднойчы сустрэліся з А.Куляшовым у М.Лужаніна. Ён прыйшоў без званка папярэдняга, але мы абрадаваліся. Напісаў некалькі вершаў і захацеў пачытаць Лужаніну. Пілі чай, размаўлялі.

“Гарадзецкі некалі плакаўся, што пад старасць пачаў дрэнна пісаць. А як, як я пісаў у маладосці!” Я, каб суцешыць, сказаў яму: “У Вашы гады і Гётэ ўжо дрэнна пісаў”. (...)

**Слова на пахаванні А.Чарнышэвіча.**

Беларуская літаратура ў трауры. Памёр Аркадзь Зміцравіч Чарнышэвіч, чалавек вялікай і добрай душы, пісьменнік, аўтар многіх цудоўных кніг, якімі зачытвалася і яшчэ будзе доўга зачытвацца не адно пакаленне чытачоў. Глыбокі знаўца народнага побыту, жывога беларускага слова, чалавек, які любіў свой народ і ўсе свае сілы аддаў служэнню яму. Працаўнік па натуры, ён не гнаўся за высокімі пасадамі, стараўся мала быць на віду. Ён працаваў, працаваў многа і добра, да апошніх дзён сваіх, будучы да таго ж цяжка хворым. Яго рэдка можна было бачыць на нашых пісьменніцкіх сходах, пасяджэннях — у яго не было часу на гэта. Ён ведаў — тое слова, што не скажа, не напіша ён, ніхто за яго не скажа і не напіша... У тыя ж рэдкія хвіліны, калі выходзіў ён на людзі, заходзіў у рэдакцыі ці ў Саюз пісьменнікаў, мы ўсе, і маладзейшыя і старэйшыя, бачылі, які цудоўны гэта чалавек, як шырока глядзіць ён на свет, на нашу літаратуру. Ён захапляўся многімі творамі маладых, крытыкаваў, калі хто-небудзь з нас памыляўся. І ўсё гэта рабіў з душою, не дзеля таго каб падкрэсліць, што ён піша лепш, а па абавязку старэйшага чалавека і больш вопытнага пісьменніка...

А галоўнае — ён пісаў, пісаў многа, праўдзіва, трывала, на гады.

Дык дзякуй жа Вам, дарагі дзядзька Аркадзь, Аркадзь Зміцравіч, за ўсё тое добрае, што зрабілі Вы дзеля нас, усёй нашай беларускай савецкай літаратуры, роднага беларускага слова!

Хай пухам Вам будзе наша беларуская зямля, да якой Вы рваліся ўсё сваё жыццё!

**Падрыхтавала да друку**
**Святлана САЧАНКА.**